• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

18 мая 1996 г. субота, №№ 122—123 (22925 — 22926)



# ЗВЯЗДА

# КАБ ВЫТРЫМАЦЬ КУРС, СНД І РАСІІ ПАТРЭБНА СТАБІЛЬНАСЦЬ

**У традыцыйна дзелавой абстаноўцы прайшло 17 мая ў Маскве, у Вялікім Крамлёўскім палацы, ужо дваццатае з часу ўтварэння СНД пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаў Садружнасці. Спачатку прэзідэнты сустрэліся за зачыненымі дзвярамі, затым адбылося агульнае пленарнае пасяджэнне дэлегацый.**



Фота БЕЛТА.

Кіраўнікі дзяржаў спачатку аднадушна і безагаворачна прынялі заяву ў падтрымку кандыдатуры Барыса Ельцына на маючых адбыцца ў Расійскай Федэрацыі прэзідэнцкіх выбарах. У дакуменце адзначана, што Расія была і застаецца асноўным стрыжнем інтэграцыі ў рамках СНД. У ім асабліва падкрэслена, што пры ўсёй складанасці пераўтварэнняў практычна ва ўсіх краінах СНД наметаліся значныя пазітыўныя змяненні. Таму як усёй Садружнасці, так і Расіі неабходна стабільнасць. Менавіта яна забяспечвае паслядоўнасць курсу, які пры ўсіх складанасцях дакладна вызначаны цяперашнім кіраўніцтвам Расіі.

Гэтак жа дружна прэзідэнты абмеркавалі галоўны пункт парадку дня — перспектыўны план інтэграцыйнага развіцця СНД у 1996-1997 гадах і механізмы рэалізацыі закладзеных у ім мерапрыемстваў. Дакумент гэты складаецца з шасці раздзелаў, што ахопліваюць шырокія сферы ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва дзяржаў у галіне эканомікі і сацыяльнай палітыкі, ваеннага будаўніцтва і міратворчай дзейнасці, у барацьбе са злачыннасцю і ахове дзяржаўных граніц, а таксама ў знешнепалітычнай дзейнасці.

Другое па важнасці пытанне, што было разгледжана на маскоўскім самміце, датычала міждзяржаўнай праграмы сумесных мераў барацьбы з арганізаванай злачыннасцю і іншымі відамі небяспечных злачынстваў на тэрыторыі краін Садружнасці на перыяд да 2000 года. Яна прадугледжвае комплекс мераў, сярод якіх асноўнымі з'яўляюцца стварэнне міжнародна-прававой базы супрацоўніцтва, удасканаленне і гарманізацыя нацыянальных заканадаўстваў, правядзенне ўзгодненых арганізацыйна-практычных мерапрыемстваў, якія ўключаюць стварэнне банкаў даных аб злачынцах.

Кіраўнікі краін Садружнасці прынялі таксама ўзгоднены дакумент аб знаходжанні калектыўных сіл па падтрыманню міру ў зонах канфлікту ў Абхазіі і Грузіі, прадоўжыўшы яшчэ на два месяцы мандат іх знаходжання там.

Савет кіраўнікоў дзяржаў СНД, аддаючы даніну глыбокай павагі славутаму палкаводцу, маршалу СССР Георгію Жукаву, які ўнёс вялікі ўклад у перамогу савецкага народа над фашызмам у Вялікай Айчыннай вайне, пастанавіў стагоддзе з дня яго нараджэння адзначыць як знамянальную дату ў краінах Садружнасці.

Перад прэзідэнтамі на самміце выступіў генеральны сакратар ААН Бутрас Бутрас Галі, які прапанаваў Садружнасці стаць асацыіраваным членам гэтай аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі.

Пасля заканчэння работы Савета кіраўнікоў дзяржаў СНД прэзідэнты ў поўным саставе далі прэс-канферэнцыю для акрэдытаваных тут журналістаў.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

## ПРЭЗІДЭНТ ЗАЦВЕРДЗІЎ ВАЕННУЮ ФОРМУ АДЗЕННЯ

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сваім указам ад 15 мая 1996 г. зацвердзіў ваенную форму для ваеннаслужачых і знакі адрознення па воінскіх званнях. У адпаведнасці з указам афіцэрам, прапаршчыкам, ваеннаслужачым, якія праходзяць службу па кантракту, вернуты традыцыйныя для нашай арміі пагоны, канты на штаны і фуражку.**

Колер фурнітуры на ваеннай форме — залацісты. Для афіцэраў і прапаршчыкаў уведзены дадатковыя прадметы адзення, што будзе садзейнічаць паляпшэнню знешняга выгляду ваеннаслужачых і рацыянальнаму выкарыстанню адзення ў залежнасці ад сезона.

Міністэрству абароны па ўзгадненню з Міністэрствам унутраных спраў, Галоўным упраўленнем пагранічных войскаў, Камітэтам дзяржаўнай бяспекі даручана зацвердзіць правілы нашэння ваеннага адзення, апісанне прадметаў ваеннай формы адзення. Прэзідэнт устанавіў, што Міністэрства абароны, Міністэрства ўнутраных спраў, Галоўнае ўпраўленне пагранічных войскаў, Камітэт дзяржаўнай бяспекі зацвярджаюць асаблівасці ваеннай формы для грамадзян, якіх прызываюць на ваенныя зборы, знакі адрознення і ўзнагароды ваеннаслужачых.

Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 301 ад 7 мая 1993 года «Аб зацвярджэнні формы ваеннаслужачых Рэспублікі Беларусь» прызнана страціўшай сілу.

У той жа дзень другім сваім указам Прэзідэнт зацвердзіў форму адзення для суворауцаў Мінскага суворраўскага ваеннага вучылішча. Міністэрству абароны даручана зацвердзіць апісанне прадметаў формы адзення суворауцаў.

Кабінету Міністраў даручана ў двухмесячны тэрмін перагледзець і зацвердзіць нормы забеспячэння рэчавай маёмасцю ваеннаслужачых і суворауцаў.

Абодва ўказы ўступілі ў сілу з моманту іх падпісання.

**БЕЛТА.**

**ВЫРАБ БЕЛАРУСКІХ УЗНАГАРОД З КАШТОЎНЫХ МЕТАЛАЎ ДАРУЧАНЫ ПАДРАЗДЗЯЛЕННЮ «ЮВЕЛІР» ГОМЕЛЬСКАГА ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ «КРЫШТАЛЬ».**

**Яны будуць выкананы з серабра 920-й пробы з пазалотай і распісаны высокатэмпературнымі эмалямі. А «Герой Беларусі» — вышэйшая ўзнагарода рэспублікі — яшчэ і з рубінавымі промнямі. Акрамя яе, у вытворчасці знаходзяцца ордэны Айчыны трох ступеняў, Воінскай славы, Кастуся Каліноўскага, Францыска Скарыны.**

**Перш чым прыступіць да выканання важнага задання, гомельскія ювеліры пабывалі на Манетным двары ў Санкт-Пецярбургу. Першую партыю ўзнагарод у колькасці 700 штук яны збіраюцца вырабіць да лістапада гэтага года.**

**НА ЗДЫМКУ: такімі будуць беларускія ўзнагароды.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БЕЛТА.**



*СКАНДАЛ*

# ЗАГАДЧЫК КАФЕДРЫ БРАЎ ХАБАР СА СТУДЭНТАЎ

**У Віцебскай дзяржаўнай акадэміі ветэрынарнай медыцыны Камітэтам дзяржаўнай бяспекі быў выяўлены факт атрымання хабару.**

Злачынца быў затрыманы пры атрыманні хабару з доказамі злачынства супрацоўнікамі КДБ з аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі. Хабарнікам аказаўся загадчык кафедры акадэміі, доктар навук Г. Цяпер грамадзянін Г. арыштаваны, а справа аб хабары накіравана ў пракуратуру. Як стала вядома карэспандэнту «Звязды» з крыніц у г. Віцебску, супрацоўнік акадэміі браў грошы са студэнтаў за пераздачу экзаменаў неаднаразова. Ім жа была ўстаноўлена і «такса» хабару — 100 долараў ЗША. Верагодна, не ўсе студэнты пагадзіліся з такой «аплатай» за вучобу і аддалі свайго настаўніка ў рукі закона. Яшчэ рана гаварыць аб тым, як доўга будзе шкадаваць навуковы работнік пра свой учынак. Аднак ужо цяпер вядома, што яму «свеціць» 169-ы артыкул Крымінальнага кодэкса. Цяпер вядзецца следства.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ДЭПУТАТЫ ХВАЛЮЮЦЦА ЗА СЯБЕ?

**Найбольш важным рашэннем для саміх дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі, якое было прынята парламентам 16 мая на вячэрнім пасяджэнні, стала стварэнне спецыяльнай камісіі па высвятленню акалічнасцей затрымання дэпутата Паўла Знаўца.**

Нагадаю, што народнага выбранніка затрымалі праваахоўныя органы пасля падзей 26 красавіка падчас арыштаў арганізатараў «Чарнобыльскага шляху». Нягледзячы на прад'яўленне дэпутацкага мандата, які па закону забяспечвае недатыкальнасць дэпутата, сп. Знаўца трымалі ў міліцэйскім пастарунку працяглы час. Пасля вызвалення Павел Знавец у зале Вярхоўнага Савета выказаў абурэнне паводзінамі сілавых ведамстваў і прапанаваў стварыць камісію для высвятлення абставінаў затрымання і вызначэння вінаватых, якія ўчынілі антызаконныя дзеянні. Але тады дэпутацкі корпус не надаў праблеме ўвагі і не прыслухаўся да прапановы. Вядома, на гэта паўплывала грамадзянская пазіцыя П. Знаўца, якую частка дэпутатаў адкрыта асуджае.

Узняліся над асабістымі палітычнымі сімпатыямі і антыпатыямі дэпутаты толькі праз тры тыдні пасля красавіцкіх падзей, вярнуўшыся 16 мая да разгляду пытання. Здаецца, яны нарэшце расцанілі затрыманне іх калегі як вельмі трывожны прэцэдэнт.

Такім чынам, парламент нават настаяў на стварэнні спецыяльнай камісіі, хаця была прапанова даручыць гэтую справу пастаяннай Камісіі па рэгламенту, мандатах і дэпутацкай этыцы. Аднак дэпутаты прыйшлі да высновы, што прэцэдэнт настолькі сур'ёзны, што патрабуе асаблівай увагі, што вынікі расследавання павінны быць такімі, каб выключыць аналагічныя здарэнні ў будучым. Узначаліў камісію Мечаслаў Грыб, якому даручана сфарміраваць поўны склад рабочай групы.

Акрамя таго, у чацвер Вярхоўны Савет прыняў справаздачу аб выкананні бюджэту за 1994 год, прыняў Закон «Аб аўтарскім і сумежных правах», а таксама адобрыў у першым чытанні законапраект «Аб музеях і музейным фондзе», што стала добрым падарункам да Міжнароднага дня музеяў, які адзначаецца сёння.

Ранішняе пасяджэнне ўчора парламент пачаў з разгляду паправак у Закон «Аб ветэранах», якія датычацца парадку аплаты за кватэру і камунальныя паслугі і, хутка справіўшыся з гэтым пытаннем, перайшоў да наступнага. Быў вызвалены ад абавязкаў старшыні падкамісіі па пытаннях барацьбы са злачыннасцю Віктар Бурак, які паведаміў, што па сямейных абставінах не можа перайсці ў Вярхоўны Савет на сталую працу. Замест яго старшыня Камісіі па нацыянальнай бяспецы, абароне і барацьбе са злачыннасцю Мікалай Карпіевіч прапанаваў намесніка начальніка Пухавіцкага РАУС Таццяну Хадневіч. Але нечакана з залы была прапанавана альтэрнатыўная кандыдатура — намесніка начальніка аддзела па эканамічнай барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю ўпраўлення КДБ па Гомельскай вобласці Міхаіла Варановіча. Галасаванне аказалася безвыніковым для абедзвюх кандыдатур: за сп. Хадневіч аддалі галасы 73 чалавекі, а за сп. Варановіча — 78. Прычыны гэтага ляжаць на паверхні. У час абмеркавання кандыдатур часта пад увагу браліся не прафесіянальныя якасці, а эмацыянальныя ацэнкі, асабліва ў адносінах да жанчыны. Да таго ж, як сказаў М. Варановіч карэспандэнту «Звязды», падзеі разгортваліся надта хутка, таму ў яго не хапіла часу на падрыхтоўку да выступлення, у выніку чаго сказанае ім з трыбуны парламента не зрабіла патрэбнага ўражання на дэпутатаў. Вядома, далучыўся і трэці фактар — прыналежнасць да розных палітычных груповак: як вядома, Т. Хадневіч уваходзіць у фракцыю «Згода», а М. Варановіч — у «Саюз працы». У выніку пытанне было адкладзена, а ў адрас М. Карпіевіча з боку старшынствуючага В. Новікава прагучаў папрок аб неналежнай падрыхтоўцы пытанняў, якія выносяцца на разгляд сесіі.

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

## ДА ВЕДАМА ДЭПУТАТАЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Першая сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадоўжыць сваю работу 22 мая 1996 г. у 9 гадзін 30 хвілін у зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Доме ўрада.

## ДЭПУТАТЫ ХВАЛЮЮЦЦА ЗА СЯБЕ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Учора парламент абмеркаваў праблемы, звязаныя з неабходнасцю павелічэння штатнай колькасці пракурорскіх работнікаў і ратыфікаваў шэраг міжнародных пагадненняў. У прыватнасці, былі адобраны Пагадненне аб навуковым супрацоўніцтве Беларусі з Міжнароднай асацыяцыяй па садзейнічанню супрацоўніцтву з вучонымі краін былога СССР, Канвенцыя аб Міжпарламенцкай асамблеі СНД і іншыя. З законапраектам «Аб банкрутстве», які быў прадстаўлены ў першым чытанні, парламентарыі толькі змаглі пазнаёміцца. Для больш дэталёвага разгляду проста не хапіла часу. Такім чынам, наступнае пасяджэнне сесіі пачнецца якраз з гэтага дакумента. Дарэчы, парламент збярэцца на сесію ў сераду, 22 мая, а не ў чацвер, як гэта рабілася звычайна. Змяненне графіка выклікана тым, што дэпутаты ігнаруюць работу ў камісіях, з'яўляючыся ў Мінск толькі ў дзень пленарных пасяджэнняў. Відаць, кіраўніцтва Вярхоўнага Савета ўчыніла крытыку, якая ўжо нярэдка выказваецца ў бок заканадаўчага органа.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## КУДЫ ПАДЗЕЎСЯ КАПІТАЛ?

Падобна, нездарма хваляваліся ўкладчыкі БелАКБ «Магнатбанка», назіраючы, як у канцы красавіка адзін за адным закрываюцца яго філіялы. І калі раней іх хваляванні грунтаваліся на меркаваннях і домыслах, то цяпер сам Нацбанк прызнае фінансавае становішча Магнатбанка крытычным, пагражальным для інтарэсаў укладчыкаў і крэдытораў.

На думку намесніка старшыні праўлення Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь Уладзіміра Сідарава, 1995 фінансавы год Магнатбанк закончыў са стратамі, якія працягваюць расці цяпер.

Цяжкае фінансавае становішча ў Магнатбанку, як лічаць у Нацбанку, склалася ў выніку правядзення яго кіраўніцтвам няграматнай і рызыкоўнай крэдытнай палітыкі.

Падкрэсліваецца, што вялікая доля віны кладзецца і на шэраг пазыкаатрымальнікаў, уключаючы акцыянераў банка, якія не выканалі дагаворныя адносіны і не вярнулі своечасова атрыманыя крэдыты.

У сувязі з гэтым Нацбанк рэспублікі разаслаў камерцыйным банкам краіны спіс ненадзейных кліентаў з прапановай спыніць з імі крэдытныя аперацыі да поўнага пагашэння атрыманых у Магнатбанку крэдытаў і працэнтаў па іх.

Спіс, складзены паводле даных Магнатбанка, складаецца з 61 суб'екта гаспадарання. Акрамя Бабруйскаграмаша, часопіса «Вессон» і Смаргонскага раённага камбіната бытавога абслугоўвання ў «чорны» спіс увайшлі ў асноўным разнастайныя ТАА, ВКФ і іншыя, створаныя, як правіла, у апошні час, фірмы. Прапанова Нацбанка не з'яўляецца абавязковай для выканання. Як гаворыцца, вырашайце самі, на свой погляд — з пункту гледжання асабістай бяспекі. Напэўна ж, нікому не захочацца папоўніць такімі кліентамі і свой спіс ненадзейных.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## БЕЛАРУСКІ ХІМІЧНЫ КОМПЛЕКС ВЯРТАЕ СВАЕ РЫНКІ ЗБЫТУ Ў КРАІНАХ СНД

Пытанні стабілізацыі працы хімічнага комплексу Беларусі былі асноўнай тэмай на прэс-канферэнцыі, арганізаванай 16 мая, напярэдадні Дня хіміка ў Нацыянальным прэс-цэнтры. У ёй узялі ўдзел прэзідэнт Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці хімічнай і нафтахімічнай прадукцыі «Белхімнафтапром» Анатоль Мардашоў і генеральныя дырэктары чатырох найбуйнейшых прадпрыемстваў хімічнага комплексу рэспублікі: вытворчых аб'яднанняў «Хімвалакно» з Магілёва і Светлагорска, полацкага «Шкловалакна» і салігорскага «Беларуськалія».

Створаны ў сакавіку 1994 года канцэрн «Белхімнафтапром» сёння аб'ядноўвае 30 прадпрыемстваў і арганізацый з агульнай колькасцю працуючых на ім 100 тысяч чалавек. Галіна вырабляе звыш 13 працэнтаў ад агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі Беларусі, на яе долю прыпадае каля 49 працэнтаў усяго прамысловага экспарту рэспублікі.

Па словах Анатоля Мардашова, спецыфіка галіны абумоўлена наяўнасцю прадпрыемстваў-гігантаў, што знаходзяцца ў прамой залежнасці як ад пастаўшчыкоў сыравіны, так і ад спажыўцоў прадукцыі з блізкага і далёкага замежжа.

У адпаведнсці з Праграмай структурнай перабудовы прамысловасці Беларусі, прадпрыемствамі хімічнага комплексу не толькі прыпынены спад, але і забяспечаны рост прамысловай вытворчасці. Так, са студзеня гэтага года імі выпушчана прадукцыі ў супастаўных цэнах і з улікам перапрацоўкі давальніцкай сыравіны на суму больш за сем трыльёнаў рублёў, тавараў народнага спажывання — на 271,5 мільярда рублёў, што склала адпаведна 111,8 і 124,1 працэнта да адпаведнага перыяду 1995 года.

Асновай палітыкі галіны на перспектыву, паводле меркавання прэзідэнта «Белхімнафтапрома», павінна стаць «стварэнне высокатэхналагічнага і канкурэнтаздольнага па сусветных крытэрыях комплексу, здольнага ўносіць важкі ўклад ва ўмацаванне эканамічнай незалежнасці дзяржавы і забяспечыць дастатковы ўзровень інтэграцыі ў сусветную эканоміку на раўнапраўных і ўзаемавыгадных умовах». Пры гэтым галоўным фактарам паспяховай рэалізацыі гэтай палітыкі, па яго перакананню, будзе захаваны ў асноўнай масе дырэктарат і высокакваліфікаваныя рабочыя кадры. Важная роля ў такой стратэгіі адводзіцца і вяртанню ранейшых рынкаў збыту — у Расіі і іншых краінах СНД. Толькі за студзень—сакавік гэтага года прадпрыемствы хімічнага комплексу Беларусі павялічылі экспарт у краіны СНД на 56,1 мільёна долараў ЗША і дасягнулі аб'ёму ў 116,9 мільёна долараў. Па сведчанню ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі, попыт на прадукцыю беларускіх хімікаў і нафтавікоў застаецца высокім. Павелічэнне экспарту стрымліваецца толькі неплацежаздольнасцю большасці патэнцыяльных кліентаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

## СТЫХІЙНАЯ АКЦЫЯ ПРАТЭСТУ З ПРЫЧЫНЫ ЗАТРЫМКІ ЗАРАБОТНАЙ ПЛАТЫ

Затрымка выдачы заработнай платы стала прычынай стыхійнай акцыі пратэсту, што ўспыхнула 16 мая на Мінскім гадзіннікавым заводзе «Прамень». Не атрымаўшы зарплату яшчэ за сакавік, рабочыя завода ў гэты дзень з самага ранку адмовіліся прыступіць да працы. У прафсаюзным камітэце прадпрыемства БелаПАН не змаглі назваць колькасць удзельнікаў акцыі, паведаміўшы толькі, што іх «было шмат». Стыхійная забастоўка працягвалася некалькі гадзін, пасля чаго група з прадстаўнікоў кіраўніцтва завода і працоўнага калектыву накіравалася ў Адміністрацыю Прэзідэнта для вырашэння канфліктнай сітуацыі.

Варта адзначыць, што падобная выбуховане бяспечная сітуацыя існуе сёння на шматлікіх прадпрыемствах рэспублікі, работнікі якіх па некалькі месяцаў не атрымліваюць заработнай платы.

**Ірына ЛЕЎШЫНА, БелаПАН.**

## У БЕЛАРУСІ КІРАЎНІЦТВА РАЗГЛЕДЗІЦЬ ДАЛЕЙШЫ ЛЁС «ВАЛЮТНАГА КАЛІДОРА». У РАСІІ Ж АД ЯГО БЫЦЦАМ БЫ АДМОВІЛІСЯ

Учора на валютных таргах у Расіі курс долара ЗША вырас. Плануецца, што паступова расійскі рубель дакоціцца да мяжы 6100 рублёў за адзін долар. Гэта, дарэчы, не прагнозы аналітыкаў, а рашэнне, якое было прынята на нарадзе ў Ельцына і якое, на думку экспертаў, дазволіць у гэтай краіне значна лібералізаваць валютны рэжым. Такім чынам, «валютнага калідора» як такога ў Расіі цяпер не будзе. Замест яго ўводзіцца так званы слізгаючы або нахільны курс абмену, які з 1 ліпеня выпусціць рубель на свабоду ў межах ад 5 тысяч да 5600 рублёў за долар, а на 31 снежня гэтыя межы складуць ужо ад 5500 да 6100 рублёў за долар. Адным словам, адносная стабільнасць расійскага рубля, якая захоўвалася амаль на працягу года, быццам бы і скончылася.

Хоць, як мяркуюць некаторыя спецыялісты Нацыянальнага банка Беларусі, наўрад ці «валютны калідор» і ўстанаўленне «слізгаючага курса» чымсьці адрозніваюцца. З другога боку, трэба прызнаць і тое, што «калідор» быў больш надзейным сродкам у барацьбе з інфляцыяй. Аднак, і гэта таксама прызнаюць многія спецыялісты, у бліжэйшым будучым ніякіх істотных вынікаў змена рэгулявання курса ні Расіі, ні Беларусі не прынясе. Іншая справа, як мяркуе віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі камерцыйных банкаў Беларусі Міхаіл Кавалёў, — зыход выбараў, якія хутка павінны адбыцца ў Расіі. У выніку змены кіраўніка гэтай дзяржавы, (калі такое адбудзецца) з курсам рубля можа адбыцца што заўгодна. У такім выпадку цалкам верагодна тое, што разбежка паміж рынычным курсам рубля і рэальнай яго пакупной здольнасцю можа дасягнуць значнай велічыні. Прынамсі, не будзем загадваць. Пакуль жа вядома толькі, што і прадпрыемствам, і насельніцтву гэты крок ніякіх змен не рыхтуе: малаверагодна, што людзі, якія копяць пераважна цвёрдаканверсоўную валюту, адрэагуюць на расійскія змены ў рэгуляванні.

Між іншым, як стала нам вядома, 21 мая кіраўніцтва Беларусі будзе разглядаць пытанне аб «валютным калідоры». Якія высновы зробяць на гэтым пасяджэнні — пабачым.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**МАСКВА — ГЭТА ЯШЧЭ НЕ РАСІЯ...**

Вынікі праведзенага ў Маскве 15-16 мая папярэдняга пробнага галасавання па кандыдатах у прэзідэнты дэмакратычнай арыентацыі сведчаць аб безумоўным прыярытэце Барыса Ельцына — яму аддалі свае галасы 73 працэнты выбаршчыкаў сталіцы, якія ўзялі ўдзел у пробным галасаванні. 11,9 працэнта галасавалі за Яўлінскага, 5,7 — за Міхаіла Гарбачова, 4,7 — за Аляксандра Лебедзя і 4,2 працэнта — за Святаслава Фёдарава.

**ХТО Ў СВЕЦЕ САМЫ БЯЗЛІТАСНЫ?**

Міністр абароны Турцыі Алтан Сунгурлу прапанаваў шырока прыцягваць жанчын для службы ў баявых падраздзяленнях арміі. «Бязлітаснасць» прадстаўніц «слабага полу», на яго думку, асабліва карысная ў падрыхтоўцы з іх спецназаўцаў для барацьбы з курдскімі паўстанцамі.

**БІЦЬ ЦІ НЕ БІЦЬ? ВОСЬ У ЧЫМ ПЫТАННЕ...**

Біць як хлопчыкаў, так і дзяўчынак, але не нявечыць — сцвярджае вышэйшы духоўны аўтарытэт Саудаўскай Аравіі шэйх Абдэль Азіз ібн Баз. Іслам, абвясціў ён, дазваляе бацькам і настаўнікам біць дзяцей (старэй 10 гадоў) у якасці пакарання, пазбягаючы пры гэтым цялесных пашкоджанняў. «Калі дзіця не чытае малітваў, яно можа быць пакарана біццём», — удакладніў шэйх і дадаў, што дзіця павінна выконваць і іншыя абавязкі дома і ў школе, каб быць добра выхаваным.

**«ВАР'ЯЦКІЯ МАРЫ» ЧАРНАСКУРАЙ ЗОРКІ**

Вядомая амерыканская спявачка Ціна Цёрнер пасля працяглага перапынку вярнулася да канцэртнай дзейнасці. Чарнаскурая зорка поп-музыкі пачала сваё 18-месячнае турнэ «Вар'яцкія мары-96» у сталіцы Францыі грандыёзным гала-канцэртам. Нягледзячы на 56-гадовы ўзрост, на сцэне Ціна да гэтага часу прыцягвае да сябе ўвагу тысяч фанатаў бездакорнай фігурай і невычэрпнай энергіяй. На парыжскіх канцэртах Ціна акрамя надзвычай кідкіх і экстравагантных убораў парадавала ўсіх гледачоў старымі хітамі. Паводле многіх газет, апошні альбом спявачкі «Вар'яцкія мары» разышоўся тыражом у 1,5 мільёна экзампляраў.

**ЗЛОЎЛЕНЫ, АЛЕ НЕ ЗЛОДЗЕЙ...**

Арганізатары літоўскай алімпійскай латарэі «Аліфея» засмучаны: ужо чатыры разы да іх звярталіся з фальшывымі латарэйнымі білетамі прэтэндэнты на аўтамабіль «Мазда» коштам 40 тысяч літаў (10 тысяч долараў) ці на грашовы выйграш у 25 тысяч літаў. Іх затрымлівалі, але ... паліцыя адпускала ўладальнікаў фальшывак. І нават адмовіла ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. На думку паліцыі, латарэйны білет не з'яўляецца дакументам, а значыць няма і саставу злачынства. Вось калі б грошы ўдалося незаконна атрымаць — тады, кажа, іншая справа.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ДРЫБІН БЕЗ УЛАДЫ НЕ ЗАСТАНЕЦЦА

Магілёўскі аблвыканком вызваліў ад займаемых пасад намесніка старшыні аблвыканкома А. Сёмкіна, старшыню Дрыбінскага райвыканкома В. Гушчу, першага намесніка старшыні райвыканкома М. Радзько, намеснікаў старшыні У. Чэрнікава, У. Крывіцкага, В. Веранкова. Гэта распараджэнне прынята ў мэтах выканання ўказа Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі ў сувязі з недахопамі, што былі дапушчаны ў будаўніцтве жылля для перасяленцаў-чарнобыльцаў у Дрыбінскім раёне.

Але безуладдзя ў раёне не будзе. Часова выконваючым абавязкі старшыні райвыканкома назначаны начальнік упраўлення арганізацыйна-кадравай работы Магілёўскага аблвыканкома Аляксей Князіў.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**

## У ГОРКАХ АБЯСШКОДЖАНЫ РЭКЕЦІРЫ

Упраўленне па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю па Магілёўскай вобласці сумесна з калегамі з Горацкага ГРАУС правяло аперацыю па затрыманню групы вымагальнікаў.

Следства пакуль не ўстанавіла, на якой глебе сфарміраваўся злачынны альянс прадстаўнікоў Оршы і Адэсы. Усяго ў «справе» ўдзельнічала больш як 10 чалавек — усе маладыя хлопцы ва ўзросце ад 25 да 30 гадоў. Запатрабаваўшы ў аднаго з горацкіх кааператураў 2,5 тысячы долараў і атрымаўшы адмову, злачынная група захапіла ў заложнікі яго вадзіцеля з аўтамашынай. Пад дуламі аўтаматаў рэкеціры, якія назначылі сваім ахвярам месца сустрэчы на беразе возера ў г. Горкі, аказаць супраціўленне не рашыліся.

Цяпер невядомыя асобы пагражаюць пацярпеўшым і сведкам па тэлефоне. Праваахоўныя органы забяспечылі сваім падапечным надзейную ахову і вылічваюць «званароў».

**Аляксандр ЕКАЦЯРЫНЧАЎ, прэс-група Магілёўскага УУС.**

## ТРУНА — ДА СВЯТА

Як стала вядома інфармацыйнаму агенцтву «Аргументы и факты-Новости», напярэдадні Дня Перамогі кур'еры ўпраўлення сацыяльнай абароны насельніцтва Сормаўскага раёна Ніжняга Ноўгарада разам з віншаваннямі ўручалі ветэранам-інвалідам паведамленні аб тым, што тым жа самым упраўленнем «заключаны дагавор аб бясплатным рытуальным абслугоўванні пенсіянераў». Папера сведчыла, што памерлыя непрацуючыя пенсіянеры бясплатна забяспечваюцца «труной, абабітай баваўнянай тканінай» з «дастаўкай на дом», «капаннем магілы» і іншымі паслугамі.

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Кароль Тайланда Пумпіён Адульядэт адзначае 50-ю гадавіну свайго ўзыходжання на прастол. Ён лічыцца самым шматгадовым кіраўніком сучаснага свету і таму да юбілею атрымлівае падарункі, якія таксама можна аднесці да катэгорыі «самых-самых». Сярод іх і самы доўгі ў свеце гальштук, які прыйшлося разгортваць на сталічным стадыёне. Даўжыня яго перавышае 99 метраў, а вага — 300 кілаграмаў.

Папярэдні гальштук-рэкардсмен быў выраблены ў Індыі і не перавышаў 62 метраў. Дарэчы, не выпадкова для тайландскага караля зрабілі менавіта 99-метровы гальштук. Пумпіён — дзевяты кароль дынастыі Чакры, а лічба 9 лічыцца шчаслівай ў Тайландзе.

**Асашыэйтэд Прэс.**

Тысяча шэсцьсот палюбоўніц — столькі налічвалася ў жыцці 35-га прэзідэнта ЗША Джона Кенэдзі.

Пры гэтым нельга забываць, што ён загінуў ва ўзросце ўсяго 46 гадоў. Гэтыя звесткі прыводзяцца ў новым біяграфічным выданні. Кантынгент жанчын, за якімі ўвіваўся Кенэдзі-прэзідэнт, быў шырокі — ад кіназорак да прастытутак.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

Без штаноў. Так вырашыў кароль Свазіленда Меваці, забараніўшы жанчынам у штанах з'яўляцца паблізу яго палаца і будынка парламента. Парушальніцам пагражае штраф у памеры ... адной каровы.

Такое рашэнне, як сцвярджаюць, падтрымлівае і большасць як дзяржслужачых, так і парламентарыяў, паколькі мясцовыя жаночыя строі менш іх адцягваюць ад высокіх дзяржаўных клопатаў, чым штаны ў абцяжку.

**ІТАР-ТАСС.**

*ПОГЛЯД*

# НОТЫ ДА «ПАЛАНЕЗА КШАКЛЕЎСКАГА»

Абмен нотамі, які правялі на мінулым тыдні знешнепалітычныя ведамствы Беларусі і Польшчы, яшчэ раз пацвердзіў той сумны факт, што зладжанай і гарманічнай мелодыі ў адносінах паміж Мінскам і Варшавай не атрымліваецца. Затрыманне і наступнае паспешнае выгнанне з краіны прэзідэнта польскага прафсаюза «Салідарнасць» Мар'яна Кшаклеўскага і яго спадарожнікаў немінуча адаб'ецца на атмасферы двухбаковых кантактаў.

І справа далёка не толькі ў тым, што «Салідарнасць» у Польшчы — асаблівая палітычная сіла, у пэўнай ступені — сімвал барацьбы з камунізмам, за дэмакратыю. Дэпартацыя лідэра гэтага руху — своеасаблівая дэманстрацыя беларускімі ўладамі сваіх адносінаў да дэмакратычнай Польшчы. Прынамсі, менавіта так каменціруюць у гэтыя дні здарэнне, якое адбылося ў Мінску, вядомыя польскія палітыкі і журналісты.

Гэтаму інцыдэнту, магчыма, не надавалася б такая пільная ўвага, калі б ён быў адзінкавым і прыкрым фактам. Але апошнія гады былі багатыя на непрыемныя эпізоды ў двухбаковых адносінах. То беларускія спецслужбы намякалі на прысутнасць у краіне польскіх шпіёнаў (праўда, да выкрыцця справа так чамусьці і не дайшла). То ўлады распачыналі змаганне з каталіцкімі місіянерамі. То спікер наважыўся нагадаць пра шматвяковыя крыўды, якія прычыніла Польшча Беларусі. То экстравагантны дэпутат-гурман ад камуністаў у парламенцкай зале прылюдна ў знішчальнай форме раптам выказаўся пра смакавыя якасці польскай гарчыцы, у прыклад палякам паставіўшы гарчыцу савецкую...

Усе гэтыя, на першы погляд, дробныя, нязначныя эпізоды міжволі выстройваюцца ў тэндэнцыю, калі ўлічыць рэгулярнасць іх з'яўлення. Кардынальныя супярэчнасці па праблеме рэгіянальнай бяспекі і далучэння Польшчы да Паўночнаатлантычнага саюза давяршаюць карціну.

Кіраўніцтва беларускага МЗС было нямала здзіўлена тым, у якой рэзкай, катэгарычнай форме адрэагавала Міністэрства замежных спраў Польшчы на інцыдэнт з дэпартацыяй прафсаюзных лідэраў. «Сур'ёзная пагроза для сяброўскіх адносінаў паміж нашымі дзвюма краінамі», пра якую папярэдзіла афіцыйная Варшава, — гэта, сапраўды, вострая фармулёўка, на якую нячаста ідуць абачлівыя і разважлівыя дыпламаты. Але ў тым і справа, што датычыць яна не столькі апошняга прыкрага інцыдэнту, колькі ў цэлым той неспрыяльнай атмасферы, якая складваецца паміж двума берагамі Буга.

Блізкі сусед — гэта больш, чым сваяк, — сцвярджаюць дасведчаныя ў сакрэтах добрага супольнага жыцця людзі. Для Беларусі гэта сцвярджэнне справядлівае асабліва. Выгады зручнага геаграфічнага становішча нашай дзяржавы імгненна пачнуць прыносіць меншую аддачу ў выпадку, калі пагоршацца адносіны з заходнімі суседзямі і дзяржаўная мяжа стане менш празрыстай для грамадзян і грузаў. Да таго ж Польшча — адзін з асноўных нашых эканамічных партнёраў на Захадзе.

Яшчэ адна прыметная палітычная падзея мінулага тыдня звязана з галадоўкай лідэраў БНФ Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка, якія трэці тыдзень утрымліваюцца ў турме, як арганізатары «Чарнобыльскага шляху». Можна меркаваць, што рух за вызваленне іх з-за кратаў, які пачаўся з акцыі 14 мая і быў фактычна падтрыманы больш як шасцю дзесяткамі дэпутатаў парламента, будзе нарастаць. Калі ўлады не наважацца выпусціць іх да суда з-пад варты, да гэтага руху падключацца многія дэмакратычныя сілы і міжнародныя арганізацыі па абароне правоў чалавека. Еўропа наўрад ці будзе разглядаць утрыманне спадароў Хадыкі і Сіўчыка ў турме інакш, чым праследаванне па палітычных матывах. А наяўнасць палітзняволеных у краіне, пра што ўжо на ўсю моц піша ў дачыненні да Беларусі заходняя прэса, — выразны індыкатар для большасці ўплывовых міжнародных палітычных і фінансавых арганізацый. Прынамсі, мяркуемае ўступленне ў Савет Еўропы можа быць зноў адкладзена на няпэўны тэрмін.

Відавочна, ва ўсіх сэнсах лепшым выйсцем для ўлады было б праявіць гуманнасць да хворых і знясіленых працяглай галадоўкай людзей. Гэта разрадзіла б сітуацыю.

Дарэчы, вельмі паказальныя паводзіны праваахоўных органаў падчас акцыі 14 мая. Стрыманасць міліцыі, якая не спрабавала прымяняць супраць дэманстрантаў сілу, у выніку спрыяла мірнаму характару мітынгу і шэсця.

**Валянцін ЖДАНКО.**

# ...ПАДРЫХТАВАЦЦА ДА АДПАЧЫНКУ

**Лета, бясспрэчна, з нецярпеннем чакаюць усе. І кожны год усе спрабуюць прадказаць, якім яно будзе. Прычым дагадзіць народу даволі складана: і халаднаватае, і гарачае лета аднолькава выклікаюць нараканні.**

**З летам звязваюцца многія надзеі і мары: ну, у гэтым годзе я дакладна адпачну, як я таго жадаў ужо многа гадоў. Хтосьці не ўяўляе сабе большай радасці, чым правесці свой водпуск на дачы, а хтосьці, наадварот, імкнецца адпачыць ад гэтай самай «радасці». Кагосьці задавальняе адпачынак з вудай у руках, жыццё ў турыстычнай палатцы, турпаходы, вылазкі ў горы, а камусьці па душы толькі «цывілізаваны» водпуск на беразе мора.**

**А межы адпачынку пашыраюцца з кожным днём (ад традыцыйнай турбазы «Нарач» да экзатычных Кіпра і Багамаў), чаго ніяк нельга сказаць аб магчымасцях кашалька нашых суграмадзян. Таму і ўяўленні аб дастойным адпачынку звязваюцца, у першую чаргу, з асабістымі даходамі.**

**Але тым не менш... Не ўсе акажуцца ў ліку шчаслівцаў, якія пакінуць у спякоту горад. Вось ім і прыйдзецца зведаць усе «радасці» гэтай пары года, як гаворыцца, на сабе...**

## ...НАТАЛІЦЬ СМАГУ

Можна доўга спрачацца, што лягчэй пераносіцца — гарачыня ці холад. Але зімой усе старанна хутаюцца, а летам беспасляхова спрабуюць выратавацца ад невыноснай гарачыні. Як толькі сонца пачынае надакучліва прыпякаць, усе кідаюцца на пошукі выратавальнай прахалоды. Цікава, як у гэтым годзе сталіца падрыхтавалася да летняга сезона?

Як паведамілі ва Упраўленні гандлю Мінгарвыканкома, смага мінчан гэтым летам будзе наталяцца. У гэтых мэтах плануецца работа 113 кіёскаў па продажы квасу (у іх устаноўлена 277 ізатэрмічных ёмістасцей па 300 літраў кожная) і 96 кіёскаў па продажы піва (284 ізатэрмічныя ёмістасці). Паступова знікаюць з вуліц традыцыйныя аўтацыстэрны, якія даволі доўга псавалі імідж нашых гарадоў. А ў бліжэйшай будучыні яны зусім знікнуць. Гэтым летам будзе функцыянаваць усяго толькі 9 такіх аўтацыстэрнаў па продажы квасу і 6 — па продажы піва. Між іншым, гандаль гэтымі напоямі на Прывакзальнай плошчы сталіцы, як плануецца, будзе пачынацца раніцай у 7.00 (!), а заканчвацца позна ўвечары — у 22.00 (!).

Акрамя таго, смагу можна будзе наталіць і ахаладжанай фантай, пепсі-колай, кока-колай і г. д. У Мінску на дадзены момант дзейнічаюць 97 аўтаматаў «Пост-Мікс» па продажы напояў. Хоць зусім відавочна, што такі спосаб наталення смагі, на жаль, не ўсім па кішэні. А той, каго ён не задавальняе, зможа «прапусціць» шклянačку мінералкі, соку або напітку, дэфіцыту ў якіх адчувацца не павінна — у мінскіх магазінах дзейнічае на сённяшні дзень 181 кропка па іх продажы.

Ну а хто, скажыце, у спякотны летні дзянёк адмовіцца паласавацца марожаным? У гэтым выпадку 202 гандлёвыя кропкі ў магазінах плюс 131 пункт па продажы марожанага на вуліцах павінны задаволіць вашы жаданні і густы (размова ў дадзеным выпадку ідзе толькі пра марожанае айчыннай вытворчасці). А ў 83 кропках ласуны таксама змогуць паласавацца і малочным кактэйлем.

Прыемна ўсведамляць, што ў апошні час інтарэсы пакупнікоў і прадстаўнікоў гандлю, падобна, супалі: адбылося своеасаблівае «зблізкэнне з народам». Сведчанне таго — з'яўленне вынасных столікаў паблізу магазінаў (цяпер такіх кропак 96) і летніх міні-кафэ (86), якія ўпрыгожылі наш горад сваімі парасонікамі.

Таму ёсць надзея, што лета нам будзе перажыць — як вады напіцца!

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ... «ПРАЙСЦІСЯ ПА АБРЫКОСАВАЙ, ЗВЯРНУЦЬ НА ВІНАГРАДНУЮ...»

Бадай, нішто так не раздражняе ў сонечны дзень, як пыл і смецце на вуліцах. Але калі ўсё навокал ззяе чысцінёй, палітыя вадой асфальт і зеляніна адным сваім выглядам выклікаюць адчуванне выратавальнай прахалоды, здаецца, і спёка не спёка.

Як запэўнілі карэспандэнта газеты ў адпаведных службах, сёлета (як і заўсёды) беларуская сталіца будзе выглядаць на ўсе «сто». Па словах кіраўніка трэста «Гардармеханізацыя» Мінгарвыканкома Івана Гурыновіча, у гэтым сезоне пад наглядам арганізацыі будзе 9 млн. квадратных метраў плошчаў (вуліцы, праспекты і г. д.), якія будуць кругласутачна абслугоўваць 26 падмятальна-уборачных і каля 70 паліва-мыечных машын. На думку Івана Васільевіча, для такога горада, як Мінск, гэта няшмат, таму трэба больш надзей укладваць на ручную ўборку. Парадокс, але агульнае беспарадк'е на гэтай службе адбілася станоўча: стомленыя ў пошуках працы людзі трымаюцца за яе, падтрымліваючы належную дысцыпліну. Думаецца, таму спрыяе і неблагі заробак (за апошні месяц сярэдняя заработная плата тут склала 1 млн. 100 тысяч рублёў), які выдаецца без затрымак. Дзякуючы ў немалай ступені менавіта гэтай акалічнасці, арганізацыя працуе рытмічна, нягледзячы на тое, што адміністрацыі раёнаў завінаваціліся трэсту каля 9 млрд. рублёў, якія так неабходны для набыцця паліва, запчастак.

Звыш 1 млн. квадратных метраў плошчаў (тратуары, пад'езды да дамоў і інш.) будзе даглядаць сёлета і Кантора па механізаванай уборцы горада пры Мінгарвыканкоме. Як паведаміў яе начальнік Анатоль Лішван, чысціню ў дзве змены будуць падтрымліваць 21 палівальна-мыечная машына і 6 машын-«пыласосаў». Так што, перафразіруючы вядомую фразу, чысціня выратуе ад спёкі!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ... АПРАНУЦЦА ПА СЕЗОНУ

Летні сезон, які настаў неяк раптам, пагнаў у вялікія і дробных кропках гандлю немалую колькасць народу. Сіла абставінаў такая, што адмовіцца ад гэтай, для многіх малапрыемнай, «камандзіроўкі» не ўяўляецца магчымым: заўсёды штосьці-небудзь патрэбна, хаця б акуляры ад сонца ці шлёпанцы.

Перш-наперш куды чалавек рушыць? Вядома, у супермаркет. Там усе ёсць. Дакладней, павінна быць. Пасля наведвання ГУМа я пакінула надзею апрануцца ў адным магазіне. Ну няма там усяго, што мне патрэбна! Шлёпанцаў, быццам бы, прапануюць многа, але выбраць не магу, не падабаюцца. Паездзіўшы па сталічных універмагах і крамах, я вызначыла тэндэнцыю (зрэшты, тэндэнцыя вымалявалася не адна). Часцей за ўсё беларускія тавары выглядаюць непрываблна побач з замежнымі. Мне, напрыклад, не спадабаліся прапанаваныя таўстушкам купальнікі айчыннай вытворчасці. Я так лічу: рэч павінна быць якаснай і прыгожай, а дзе яна выраблена — не мае ніякага значэння. Глянеш жа на купальнікі вялікага памеру беларускай вытворчасці — нейкія яны «сумныя»: і афарбоўка, і фасон. Яшчэ і сума патрабуецца немалая: ад 150 да 200 тысяч. Імпартны ж пляжны «прыкід» на вялікую і прыгожую і колерам добры, і фасонам спрытны, і каштуе ад 96 да 170 тысяч рублёў.

Другая тэндэнцыя. Мне падалося, што гандляры рэкамендуюць пакупнікам рыхтавацца да восені. У аддзелах жаночага абутку прапануюцца пераважна скураныя туфлі. У мужчынскіх — таксама. Аддзелы адзення багацце летняга асартыменту не вызначаюць, ды і там пераважна апратка замежных вытворцаў. Праўда, цэны на маечкі і сарафанчыкі «кусліваы»: ад 200 да 700 тысяч рублёў. Разглядаючы адну просценькую сукенку з трыкатажу, не разумела: ну чаму нашы вытворцы не могуць падобную зрабіць?

У магазіне Цэнтра моды, дзе апранацца можна і сучасна, і даволі танна, мне параілі зайсці праз тры дні: паступіць летняя калекцыя. Тры дні, можа, і не тэрмін, але горача мне ўжо сёння. Я падалася ў вандроўку па спецыялізаваных і прыватных магазінах. Адзначыла з задавальненнем, што там пакупніка чакае пераважна летні асартымент, а не восенькі. Падабраць сабе можна і спадніцу, і вялізны капялюш з саломкі. Нават не валодаючы вялікімі сродкамі. Галоўныя страты ў гэтых вояжах — страты часу.

Завітаўшы на рынак стадыёна «Дынама» і на пару кірмашоў, вызначыла яшчэ адну тэндэнцыю: асартымент што ў крамах, што на рынку, што на кірмашах — амаль адзін і той жа. Паход на стадыён мае, праўда, вялікую перавагу: там гандляроў шмат, далёка шукаць не трэба. Затое ўваход у магазін дармавы.

А высновa са сказанага простая. Калі ў вас ёсць мэта, а часу і жадання боўтацца па пыльным горадзе ў спёку няма, ідзіце праменька на рынак. Толькі пры ўваходзе капялюш ад сонца купіце, бо галава пойдзе кругам як ад спёкі, так і ад цэн. Калі ж вы аматар паштурхацца ля прылаўкаў магазінаў, то спачатку накіроўвайцеся ў спецыялізаваныя крамы: там верагоднасць набыцця патрэбнай рэчы больш высокая.

***Жанна КАТЛЯРОВА.***

## ...ПРЫХАПІЦЬ У ПАДАРОЖЖА ФОТААПАРАТ

Як кажуць, усё добрае хутка заканчваецца. Вось і адпачынак — праляціць, прамільгне, нібы адно чароўнае імгненне, і зноў пацякуць шэрыя будні. Добра, калі ў вас ёсць фотакамера — прыемныя ўспаміны аб адпачынку будуць тады прыгадвацца з сябрамі яшчэ не адзін раз.

Пабегаўшы па секцыях фотатавараў сталічных крамаў, можна смела сцвярджаць — прапануемая там прадукцыя як найлепш адпавядае патрэбам тых, хто накіроўваецца ў адпачынак на ўзбярэжжа мора ці нехай сабе і да бацькоў у вёску. У шырокім продажы ў ЦУМе, ГУМе, спецыялізаваным магазіне «Кадр», мноства міні-лабараторый экспрэсфота прадстаўлены так званыя «мыльніцы» — апараты, здымкі на якіх не патрабуюць ад уладальніка ніякіх ведаў у фатаграфіі. Ад здымаючага патрабуецца толькі ўменне ўставіць плёнку і націснуць на кнопку. Каштуюць такія апараты замежнай вытворчасці ад 350 тысяч да 6-7 мільёнаў рублёў. Адна каляровая фотаплёнка абыдзецца ў 36.400—93.000 рублёў, чорна-белая - 21.700—26.600 рублёў. Дарэчы, са з'яўленнем у краіне вялікай колькасці міні-лабараторый па друкаванню каляровых здымкаў (кошт якіх, зазначым, адносна невялікі — 4—10 тысяч рублёў за здымак у залежнасці ад фармату, чорна-белая фатаграфія апынулася нібы ў заняпадзе. Зараз у большасці ёю займаюцца або прафесіяналы, або аматары са стажам. Менавіта ў апошніх і могуць узнікнуць цяжкасці з набыццём неабходнай апаратуры і матэрыялаў. Фотатэхніка гэтай катэгорыі прадстаўлена ў крамах або «Зенітамі» па цане ад 434.000 да 745.000 рублёў, або апаратамі «Canon» (магазін «Кадр») коштам 10.020.000 рублёў. Цяжкасці ўзнікнуць і з набыццём зменнай оптыкі — яна прадстаўлена рэдкімі ўзорамі практычна толькі ў спецыялізаваным «Кадры». Падчас вандровак ніхто не даваўся ўбачыць і спецыяльнай фотатэхнікі (фотаружжо і інш.). Зрэшты, гэта ўжо праблемы знаўцаў фатаграфіі як віду мастацтва. Турыстам жа пасля вяртання з адпачынку застаецца толькі праявіць свае бясцэнныя кадры, зрабіць здымкі і, набыўшы прыгожыя альбомы па цане 28—305 тысяч рублёў, аддавацца прыемным успамінам...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**







**Малюе Леанід РАЗЛАДАЎ**

гл. 4-ю стар.

## ДА ЎВАГІ РАБОТНІКАЎ ПОШТЫ!

**Рэдакцыяй газеты «Звязда» падведзены вынікі раней аб'яўленага конкурсу па падпісцы на «Звязду» сярод раённых вузлоў сувязі. За дасягненне лепшых колькасных паказчыкаў пры правядзенні падпіскі на нашу газету на другі квартал гэтага года прэміямі ўзнагароджаны:**

**1. Слуцкі РВС — 3.000.000 рублёў**

**2. Капыльскі РВС — 2.500.000 рублёў**

**3. Навагрудскі РВС — 2.000.000 рублёў.**

**Згодна з умовамі конкурсу заахвочвальнымі прэміямі ў памеры 300.000 рублёў узнагароджаны:**

**Ляхавіцкі, Глыбоцкі, Жлобінскі, Карэліцкі, Вілейскі, Глускі, Брагінскі, Валожынскі, Клецкі і Лідскі раённыя вузлы сувязі.**

**Рэдакцыя «Звязды» прадаўжае конкурс сярод раённых вузлоў сувязі па выніках падпіскі на трэці квартал. Умовы ранейшыя.**

**Рэдакцыя ўдзячная ўсім паштовым работнікам, якія сваёй працай садзейнічаюць пашырэнню кола чытачоў адзінай штодзённай беларускамоўнай газеты.**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**АБАНЕМЕНТ** на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА** Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) ____________ (адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|

на газету **63850** (індэкс выдання)

**ЗВЯЗДА**

| Кошт | падпіскі | ____ руб. |
|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | ____ руб. |

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ____________ (паштовы індэкс) ____________ (адрас)

Каму ____________ (прозвішча, ініцыялы)

# МЯДЗЕЛЬСКІ ЯГО МЕРЫДЫЯН

Сяджу ў зале былога Мядзельскага райкома КПБ. Сам будынак, які глядзіць праз шырокую плошчу на возера, зала — цудоўныя. Цяпер тут размешчаецца дзіцячая музычная школа — дастойны падарунак дзецям. А ў зале сабраліся людзі, каб ушанаваць свайго земляка, паэта Аркадзя Нафрановіча. Яму — 60. Нафрановіч — літаратар не са слынных, не з «абоймы», як раней любілі гаварыць. Напэўна, крыху пазней, чым трэба было б, пачаў — не вельмі лёгка прабівацца ў нашым густым на «плячыстых» літаратурным працэсе. Але землякі ўважліва сочаць за яго творчасцю, купляюць кнігі. І вось падчас 60-годдзя раённы аддзел культуры і раённая бібліятэчная сістэма арганізавалі вечарыну, якая сабрала па нашым часе нямала гледачоў. Арганізавалі, трэба сказаць, нечакана для Нафрановіча — запрасілі, як гэта гаворыцца, на ўсё гатовае. Жыве паэт на Віцебшчыне.

Вечарына ўдалася. Выступалі былыя калегі і вучні Аркадзя Іосіфавіча. Ён усё жыццё аддаў педагагічнай дзейнасці. Гучалі са сцэны вершы і песні: Нафрановіч апошнім часам плённа працуе з кампазітарам Пятрэнкам. Ды і сам юбіляр, як усе адзначаюць, не выглядае на свае гады. Падцягнуты, рухавы, з добрым беларускім гумарам. І сівізна кранула не надта. Дарэчы, чытачы «Звязды» знаёмы з Нафрановічам. Ён адзін з пераможцаў нашага конкурсу прыпевак, выступаў з артыкуламі. Змяшчала «Звязда» некалі і здымак Нафрановіча — на вясковай прызбе з баянам у руках сярод аднавяскоўцаў, чалавек з шырокаю ўсмешкай. Іграў некалі на вяселлях, а спявае і сёння так, што заслухаешся...

Сяджу ў зале музычнай школы і думаю: а ўсяго ж гэтага магло і не быць. Мядзельскі мерыдыян, які вывеў хлопчыка з Юшкавіч у людзі, мог абарвацца ў самым пачатку яго жыцця. Чаму такая доля выпадае беларусам: большасць нашых пакаленняў называе сябе цудам выжыўшымі? Вось і Аркадзю Нафрановічу ў 43-м было сем гадоў. І разам з сям'ёю, суседзямі разам з усімі аднавяскоўцамі трапіў хлапчук у бязлітасныя жорны вайны. Вёска была спалена, людзі вывезены ў Германію. Цудам ацалеў. Крыху б менш удачы — і не было б ні педагога, ні паэта. Не гучалі б з гэтай сцэны сёння ні вершы, ні песні.. А колькі вершаў і песень не загучала на Беларусі? Колькі дзяцей так і не сталі дарослымі? Горкі твой лёс, мой родны народ!

З Аркадзем Іосіфавічам знаёмы даўно. Неяк успамінаў ён пра свае дзіцячыя страшныя гады, і ўзнікла прапанова расказаць аб гэтым. Дзеці ж бачаць, магчыма, не ўсё і не так дакладна, але затое іх уражанні свежыя, яны, як здымак «Палароіда», выхопліваюць імгненне і ўжо на ўсё жыццё трымаюць яго ва ўсіх колерах. Успаміны з'явіліся. Але ў тыя гады — пачатак перабудовы — ішлі яны ў друк вельмі цяжка. Скарачаліся, рэзаліся, а то і зусім не прымаліся. Прапаную чытачам «Звязды» пазнаёміцца з некаторымі ўрыўкамі.

***

Восень 1943 года. Да маёй вёскі Юшкавічы, што ў Мядзельскім раёне, вайна ў вобразе нямецкага салдата яшчэ не дайшла. Вечарамі, калі падкрадалася цемра, было бачна, як дзесьці за лініяй гарызонта бушавалі пажары. Яркія языкі полымя то высока ўзляталі ўверх, то ападалі ўніз, прагна ліжучы халодны небакрай. Учапіўшыся за спадніцу маці, я з заміраннем сэрца глядзеў у акно. Маючы крыху больш як сем гадоў, не разумеў, што гэтыя ўспышкі агню — знак бяды. Але ад дарослых перадавалася няясная трывога, пасяляўся ў душы незразумелы страх.

У адзін з пахмурных дзён, недзе а дзесятай гадзіне з пагорка, што быў ад вёскі за кіламетра паўтара, у наш бок пакаціліся доўгія шнуры, у якіх краталіся чорныя кропкі. Здавалася, нейкая грозная фаланга мурашоў няўмольна насоўваецца на нас. Па меры набліжэння «мурашы» раслі і ўрэшце мы ўбачылі салдат у касках і мундзірах зялёна-сталёвага колеру. Як толькі першыя рады ўварваліся ў вёску, пачалася бязладная страляніна. Людзей выганялі з хат. Скаціна, выпушчаная з хлявоў, мычала, бляяла, рохкала. Іржалі коні. І на гэтым фоне плач і лямант жанок і дзяцей. Запальнымі кулямі салдаты падпальвалі хаты, хлявы, такі, лазні. Як факелы яны ўспыхвалі амаль адначасова, раскідваючы снапы іскраў. Кругом сапраўднае мора агню. Загадана было запрагаць коней, грузіць сёй-той скарб у падводы і чакаць далейшых распараджэнняў. Сям'я рыхтавалася загадзя да прыходу немцаў. За хатай у зямлю закапалі кубел жыта, а ў варыўні поўны куфар усялякага дабра і сукна, фотакарткі і іншае. Ды сусед, які ўсё гэта бачыў, адкапаў і забраў сабе. Калі мы вярнуліся з Германіі, аддаў толькі дзесяць пудоў жыта.

Каля нашага воза паявіліся салдаты, ухапілі за рукаў старэйшага брата (яму было няпоўных 18) і сталі разлучаць нас. Ён паспрабаваў супраціўляцца. І тады адзін з салдат ударыў яго палкай па спіне, іншыя, наставіўшы аўтаматы, загадалі ісці. Развіталіся мы надоўга. Як потым высветлілася, брат апынуўся ў Берліне, дзе працаваў на млыне да самага канца вайны. Адтуль нашымі ўладамі быў накіраваны ў шахты на Урале. Цяжкія ўмовы працы, на суткі 200—400 грамаў хлеба. Цудам застаўся жывы.

... Гарэла вёска. А яна была немалая — паўтара кіламетра ў даўжыню, больш за шэсць дзесяткаў двароў. Загарэлася і наша хата з усімі пабудовамі. І цяпер чую той трэск, які ішоў ад будынкаў. Гэта была жудасная сімфонія, у якой зліліся плач людзей, роў жывёлы, рып падвод, лаянка на незнаёмай мове, страляніна. Я толькі цяпер у поўнай меры магу ўявіць, што было на душы ў жыхароў вёскі, маіх бацькоў.

Чаму ж салдаты, а як казалі людзі, у асноўным гэта былі латышы, знішчылі нашу вёску, а суседнія Пруднікі, Баяры, Пехуры і іншыя пакінулі некранутымі? Справа ў тым, што ў нашай вёсцы часта спыняліся на начлег партызаны. Неаднойчы яны начавалі і ў нашай хаце. Прычынай таго, што вёску спалілі, стаў, відаць, данос на некаторых вяскоўцаў, якія пайшлі ў партызаны.

Абоз узяў кірунак на Лынтупы. На чыгуначнай станцыі нас загналі ў таварныя вагоны і павезлі ў Германію. Ноччу асвятлення аніякага. Мы з братам, яму пяць гадоў, ляжым на падлозе, укрытыя коўдрай. З вечара яшчэ сусед Кацярынчык (называлі яго так па маці Кацярыне) нам папраўляў падушку, укрываў цяплей. І раптам данеслася: «Кацярынчыка печ зарэзала!» Так вясковыя людзі называлі паравоз. Урэзаўся ў памяць яшчэ адзін выпадак. На адной станцыі цягнік прыпыніўся на некалькі гадзін. Каля пуцей на вогнішчах жанчыны гатавалі няхітрую страву. І раптам цягнік крануўся і пайшоў. Бедная мая маці (і яна ж не адна так) бяжыць услед за вагонам, трымае перад сабой кацёл, не кідае яго. Усё ж у ім нейкае варыва. Аказалася — цягнік манеўраваў. Падала кацёл, паднялася ў вагон, задыхалася, плача: і ад жаху, што магла застацца без сям'і ў чужой старане, і ад радасці, што абышлося.

***

У паселішчы Крысціянсіта (на 5-6 двароў), што ў двух кіламетрах ад вёскі Шубы, была маленькая фабрыка. Сюды па вузкакалейцы дастаўлялі адну ржавую дэталь для абточвання на такарных станках. Гаварылі, што гэтая дэталь выкарыстоўвалася ў самалётабудаванні. Нашы мужчыны абточвалі дэталі, жанчыны абслугоўвалі станкі, былі прыбіральшчыцамі і грузчыцамі. Нялёгка было ўчарашняму селяніну асвоіць такарны станок. Колькі мой бацька пераламаў каштоўных разцоў! Пры чарговай няўдачы шэф фабрыкі схапіў жалезнае крэсла і ўзняў над бацькавай галавой, але стрымаўся. А мог бы забіць і не панёс бы ніякай адказнасці. У рэшце рэшт бацька асвоіў станок, стаў умелым спецыялістам. Бывала, абточваючы дэталь, трымае ў роце люльку, перавернутую ўніз. Шэф убачыць, падыдзе і дасць папярос. У цэху працавалі таксама два браты са Смаленшчыны і два немцы. Гэта былі простыя рабочыя, жылі не на шырокую нагу.

У поўнай меры зведаў я, што такое голад. У тлумачальным слоўніку сказана: голад — адчуванне патрэбы ў ежы, моцнае жаданне есці. Зведаўшы гэта няшчасце, я сказаў бы яшчэ так: сапраўдны голад — гэта калі стан арганізма такі, што плакаць ужо няма сілы. Прыходзілі мы раніцою ў сталовую. На снеданне давалі скібачку хлеба, якая прасвечвалася, такая была тонкая, і шклянку чаю. І ўсё. Нічога іншага. Бацькі свае порцыі аддавалі нам, малым. А самі за два кіламетры ішлі на фабрыку галодныя. Выдалі ім спецвопратку: мужчынам зялёнага колеру штаны і кашулі, жанчынам сукенкі. На ногі — дзеравяшкі. Полуднем ішлі з фабрыкі ў вёску на абед. Крыху хлеба і міска варанай бручкі, здзёртай на тарцы, — такая ж маса, якую мы рыхтуем з бульбы на дранікі. Ні кропелькі тлушчу, ні макавага зерня масла. І елі — голад не цётка. Памятаю, сядзім за сталом, чакаем ежу. Афіцыянткі прынеслі гэту бручку-паранку (у нас цяпер свінні ядуць больш каларыйна). А есці так хочацца, што я не вытрымаў і першы з лыжкай палез у міску. І гэта заўважыў сын гаспадара сталовай. Ён стаяў каля акна ў добрым чорным гарнітуры, каля трыццаці гадоў. Падыходзіць да стала, бярэ свабодную лыжку і б'е мне па лбе. Маўляў, якое бескультур'е...

Паколькі я еў гэтую так званую ежу, то хадзіў сваім ходам. А меншы брат есці гэту баланду не мог і зваліўся з ног. Яго бацька насіў у сталовую на плячах. Фізічна ўсе мы былі страшна аслабелыя, васковыя твары, скура ды косці.

Субота. Ляжым з братам на ложку і плачам, а хутчэй не плачам, а хныкаем ад голаду. На моцны плач няма сілы. І тут да нас даносіцца пах пірагоў. Мы да акна. Жанчыны нясуць з пякарні пірагі, булкі. Нашы рукі пацягнуліся да шыбаў, каб пабарабаніць па іх, звярнуць увагу на сябе. Ды нельга. Вясной ратаваліся бульбай, якую бацька збіраў на полі. Перамёрзлая, яна была мяккай. Бацька сплюшчваў яе рукамі, клаў прама на пліту, бо патэльні не было. Такія вось аладкі.

І ў простых немцаў вакол нас жыццё было несалодкае. Бацькі, мужы, сыны на фронце. Па картках атрымлівалі паёк. Але нашым людзям за работу заўсёды плацілі. Бывала, папросяць бацьку ці маці дапамагчы па гаспадарцы — абавязкова пакормяць, дадуць з сабой хлеба, а нам, малым, кашульку, штонікі. Хоць дзесяць хвілін папрацуюць — усё роўна аддзячаць, з пустымі рукамі не адпусцяць.

***

Тым часам Германія была ў агоніі. Восенню 44-га мне давялося назіраць у вёсцы Шубы шэсце іх салдат. Хто без рукі ці нагі, многія рухаліся з дапамогай мыліц. З забінтаванымі галовамі. Стомленыя, панурыя. Іграў аркестр, але музыка хутчэй была сумнай, чым урачыстай.

Нас вызвалілі войскі саюзнікаў. Некаторыя амерыканскія салдаты размаўлялі па-польску, таму бацька мог з імі разумецца. У іхняй арміі служыла шмат неграў, якіх я ўпершыню ўбачыў. Як ім падабаліся нашы дзяўчаты! Яны давалі ім цукеркі, шакалад, спрабавалі абдымаць. А тыя пішчалі і ўцякалі хто куды, бо таксама бачылі неграў упершыню. Нам прапанавалі амерыканскія ўлады выбіраць: ці вяртацца дадому, ці ехаць у Злучаныя Штаты Амерыкі. Бацька вагаўся, а маці запярэчыла: як жа так, што тая Амерыка, калі не ўбачыць больш сваю сястру, родных. Было прынята рашэнне вяртацца. А яшчэ ў адным з нямецкіх дамоў пачулі радыёпрыёмнік, які быў настроены на маскоўскую хвалю. «Дарагія браты і сёстры, вяртайцеся дадому, вас чакае Радзіма, дапаможам вам залячыць раны, стаць на ногі, пачаць новае жыццё». І ўслед за гэтым — песня «Кацюша»...

І вось на амерыканскіх «студэбекерах», якімі кіруюць негры, пакідаем мясціны, дзе пражылі два гады. На чыгуначнай станцыі падалі машыны заднім ходам да самых вагонаў так, каб нам не цягацца са сваімі клункамі. Цягнік узяў кірунак на ўсход. Малюнкі навокал былі зусім іншыя, чым тыя, якія мы бачылі, калі ехалі ў Германію. На месцы многіх гарадоў, вёсак — руіны і папялішчы. Чыгуначныя пуці месцамі бомбавымі ўдарамі пастаўлены дыба, так і застылі. А на дарогах людзі, людзі, людзі. Ішло вялікае перасяленне народаў. І многім дарослым у дарозе замінаў руху спірт-сырэц. Адкуль ён браўся? Дзесяткі цыстэрнаў яго стаялі на чыгуначных пуцях. З вінтоўкі рабілі стрэл, куля прабівала цыстэрну, і вырываўся струмень «цудадзейнай» вадкасці. Напаўнялі любы посуд, які меўся пад рукамі. Былі і такія, што ляжалі беспрытомнымі пад гэтымі струменямі.

Далейшы наш шлях ляжаў праз Польшчу. У канцы гэтай дарогі давялося цягнуць свой скарб на двухколцы. Меншы брат сядзеў верхам на ёй, а я ішоў побач, яшчэ дапамагаў разам з маці і сястрой цягнуць. Нарэшце мы апынуліся ў рускай, як тады гаварылі, зоне. Апынуліся ў казармах, ды яшчэ за калючым дротам. Пайшлі вошы, бо была неверагодная скучанасць людзей. Да гэтага захварэлі на крываўку. Міжволі ўставала ў памяці: «Дарагія браты і сёстры, вяртайцеся дадому, вас чакае Радзіма...» Балюча, калі крыўдзяць чужыя, ды намнога большы боль душы, калі крыўдзяць свае.

Толькі восенню 45-га года вярнуліся мы на радзіму. Прытуліла нас радня маці ў сваёй хаце. Дзяліліся апошнім, але ў саміх нічога не было.

Зноў голад, нястача.

***

Хачу вярнуць чытача да гэтых невялікіх урыўкаў з успамінаў. Бачыце, успамінаецца, як бацька за посцілку прынёс касцюм. Але куды прынёс? «Дадому». Так і ў рукапісе. І гэта зразумела, Аркадзь Нафрановіч сённяшні пісаў успаміны тыя, дзіцячыя, і чужая старана за два гады станавілася яго домам. Што ж, на гэта разлічвалі заўсёды і сёння разлічваюць заваёўнікі розных колераў і адценняў. Дарослых ужо не пераробіш. Іх трэба знішчыць, ну а дзеці — гэта матэрыял падатлівы.

І яшчэ. Безумоўна, тыя, хто з пакалення Нафрановіча ацалеў у полымі вайны, ацалелі дзякуючы выпадковасці, цуду, Богу. Але заўсёды і найперш засланялі іх сабою бацькі. Ахвяруючы сабою, аддаючы апошняе. Нам бы, пры нашых смешных нягодах, у параўнанні з тымі, вось так апекаваць сваіх дзяцей. Магчыма, і будучыня б краіны была святлейшая.

І на заканчэнне не магу не прывесці адзін верш Аркадзя Нафрановіча, які стаў песняй.

*Не забывайце сваіх блізкіх,*
*Вам Богам дадзенай радні.*
*Адна у вас жыцця калыска,*
*Адны вытокі, карані.*
*Гады ляцяць за працай рознай*
*Адвечнай песняй журавоў.*
*Каб не было аднойчы позна,*
*Спяшайцеся да сваякоў.*
*Калі цвітуць валошкі ў жыце,*
*Душы і сэрцу весялей.*
*З раднёю ў згодзе век жывіце —*
*І будзе на зямлі святлей.*
*Пры стрэчах рэдкіх*
*Ля родных сцежак*
*Дарыце кветкі,*
*Цяпло усмешак.*
*І ў міг шчаслівы*
*Гучаць хай словы:*
*— Ну, як вы жывы*
*І як здаровы?*

**Алесь КАСЦЕНЬ.**



⇦ гл. 3-ю стар.







## СВЕТ ТРЫМАЕЦЦА НА МІЛАСЭРНАСЦІ

**«Хто добры сапраўды — дабро творыць у маўчанні» — менавіта гэта думка стала галоўнай на ўрачыстым вечары, прысвечаным 75-годдзю Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца, які адбыўся ў сталіцы. Арганізатарам мерапрыемства стаў Мінскі гарадскі камітэт Чырвонага Крыжа.**

Ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, ганаровых донараў, актывістаў і ветэранаў руху міласэрнасці, якія па 30—40 гадоў кожны дзень у поўным сэнсе міласцю сэрца тварылі цуд, віншавалі з юбілеем прадстаўнікі ўпраўленняў аховы здароўя, сацыяльнага забеспячэння Мінгарвыканкома, гарадскога цэнтра здароўя і інш.

Была ў свяце і нотка суму. Дзейнасць Чырвонага Крыжа фінансуецца сёння за кошт дабрачынных пералічэнняў арганізацый і прадпрыемстваў. Але ці да дабрачыннасці ў сённяшнім эканамічным становішчы ўсім? На гэты момант служба міласэрнасці налічвае 41 сястру (раней іх было 150), у полі зроку якіх знаходзяцца 700 адзінокіх чалавек і інвалідаў (пры норме абслугоўвання — 10 чалавек на 1 сястру).

Сапраўды, свет трымаецца на міласэрнасці, бо няма іншага тлумачэння таму, што нават за мізэрную зарплату (дарэчы, у вопытнага супрацоўніка са стажам яна складае 530 тыс. руб.) гэтыя людзі не здрадзілі свайму галоўнаму прызначэнню — несці свету дабро.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ І НАВУКІ ПАПЯРЭДЖВАЕ: БОЛЬШ НАДЗЕЙНА АТРЫМАЦЬ ДЫПЛОМЫ Ў ДЗЯРЖАЎНЫХ ВНУ

**Не за гарамі лета, а значыць, і пара ўступных экзаменаў у ВНУ. Абітурыентам ёсць над чым задумацца, паколькі выбар у іх даволі вялікі. Да 39 дзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў апошнім часам дабавілася амаль такая ж колькасць недзяржаўных. Апошнія, здавалася б, маюць некаторыя перавагі пры прыёме: у іх і патрабаванні не такія жорсткія, і набор спецыяльнасцей адпавядае сённяшнім патрэбам. Аднак перш чым канчаткова спыніць свой выбар на той або іншай навучальнай установе, думаецца, абітурыентам і іх бацькам будзе карысна ведаць пункт гледжання міністра адукацыі і навукі рэспублікі Васіля СТРАЖАВА, з якім гутарыць карэспандэнт БЕЛТА.**

Адразу ж хачу падкрэсліць, — сказаў міністр, — што ў Міністэрства адукацыі і навукі адносіны да недзяржаўных ВНУ абсалютна нармальныя. Іх узнікненне — натуральны працэс, які назіраецца цяпер ва ўсіх рэспубліках былога СССР. Прычым у параўнанні з іншымі дзяржавамі СНД у нас колькасць такіх вышэйшых навучальных устаноў не самая вялікая, ды і студэнтаў — 22 тысячы чалавек — толькі невялікая частка ад 194 тысяч агульнай колькасці студэнтаў рэспублікі. Тым не менш, мяне як міністра хвалюе сітуацыя з недзяржаўнымі вышэйшымі навучальнымі ўстановамі. Задавальняючы патрэбнасць моладзі ў атрыманні вышэйшай адукацыі, недзяржаўныя ВНУ прапануюць абмежаваны набор спецыяльнасцей. Тут улічваецца ў асноўным цяперашняя патрэбнасць рэспублікі ў кадрах эканамічнага, юрыдычнага і гуманітарнага профілю, але не звяртаецца належнай увагі на перспектыву. Ужо сёння па маштабах падрыхтоўкі эканамістаў і юрыстаў мы дасягнулі ўзроўню краін Заходняй Еўропы, аднак у нас у рэспубліцы пакуль што няма неабходнай інфраструктуры для выкарыстання ўсіх гэтых спецыялістаў, і будучыя выпускнікі рызыкуюць апынуцца без работы.

**— Гэта гучыць як своеасаблівае папярэджанне абітурыентам...**

— У гэтым заключаецца адзін з абавязкаў міністэрства як дзяржаўнага органа кіравання. Ужо цяпер за кошт прыёму ў недзяржаўныя ВНУ ўзнік перакос у галіне падрыхтоўкі спецыялістаў.

**— А ў дзяржаўных ВНУ колькасць студэнтаў па эканамічных і юрыдычных спецыяльнасцях суадносіцца з патрэбнасцямі грамадства?**

— Так. І такога перакосу не было б, калі б не выпускнікі недзяржаўных ВНУ.

**— Але ж трэба браць пад увагу і жаданне студэнта авалодаць той або іншай спецыяльнасцю. А ці здольны дзяржаўныя ВНУ ахапіць усіх жадаючых?**

— Пакуль што мы не можам, на жаль, значна павялічыць прыём студэнтаў у дзяржаўныя навучальныя ўстановы за кошт бюджэтнага фінансавання. У мінулым годзе агульная колькасць студэнтаў дасягнула 192 тысяч, і гэта максімальны ўзровень за ўсе гады існавання ў краіне вышэйшай школы. Але за кошт дзяржбюджэту вучацца 152 тысячы студэнтаў, а гэта самы нізкі паказчык пасля 70-х гадоў. Таму недзяржаўныя ВНУ дапамаглі ў дадзеным выпадку рэспубліцы змякчыць праблему з атрыманнем вышэйшай адукацыі. Аднак мы імкнёмся да таго, каб патэнцыял дзяржаўных ВНУ выкарыстоўваўся максімальна, і на адным з апошніх пасяджэнняў калегіі міністэрства прынята рашэнне аб павелічэнні дзяржаўнымі ВНУ набору студэнтаў на платнае навучанне.

**— Чым яно адрозніваецца ад навучання ў недзяржаўных ВНУ, у абодвух жа выпадках адукацыя платная?**

— Незалежна ад таго, ці сам студэнт плаціць за сваё навучанне, ці грошы ідуць з бюджэту, дзяржаўная вышэйшая навучальная ўстанова бярэ на сябе абавязак забяспечыць пэўны ўзровень падрыхтоўкі, а ў недзяржаўнай ВНУ грошы за адукацыю бяруць, але такога абавязацельства на сябе, па сутнасці, не прымаюць. У нас цяпер праходзіць планавая праверка недзяржаўных ВНУ, і я не сказаў бы, што вынікі яе сведчаць аб высокім узроўні падрыхтоўкі студэнтаў. Гэта абумоўлена шэрагам прычын, сярод якіх галоўнымі можна назваць нездавальняючы стан матэрыяльна-тэхнічнай базы навучальных устаноў, невысокая якасць выкладання, ды і патрабаванні да абітурыентаў на ўступных экзаменах асаблівай жорсткасцю не вызначаліся. Прычым асабліва трывожная сітуацыя назіраецца ў філіялах ВНУ. Яны, як правіла, узніклі на пустым месцы, без дастатковага кадравага забеспячэння. У маі і чэрвені іх работа будзе ўважліва правярацца, і калі мы пераканаемся, што ніякага паляпшэння сітуацыі не прадбачыцца, паўстане пытанне аб іх далейшым існаванні.

**— А куды ж студэнтаў, Васіль Іванавіч?**

— Калі вырашаецца пытанне аб існаванні ВНУ, гэта не азначае, што студэнты рызыкуюць апынуцца на вуліцы. Тыя, хто добра вучыўся, будуць пераводзіцца на платнае навучанне ў іншыя вышэйшыя навучальныя ўстановы. У міністэрстве цяпер распрацоўваюцца новыя патрабаванні да недзяржаўных ВНУ. Яны будуць больш жорсткія за існуючыя, і тады, магчыма, павысіцца адказнасць тых, хто імкнецца адкрыць тую ці іншую навучальную ўстанову.

**— А ў чым будуць заключацца новыя патрабаванні?**

— Перш за ўсё мы будзем патрабаваць, каб былі неабходныя для навучальнага працэсу плошчы. Яшчэ адно патрабаванне — колькасць штатных выкладчыкаў, яна павінна складаць хоць бы пяцьдзесят працэнтаў. Устаноўлена будзе і норма мінімальнага прыёму студэнтаў. А для ВНУ, якія працуюць ужо некалькі гадоў, неабходнай умовай існавання будзе і наяўнасць метадычнай бібліятэчнай базы. Увогуле, гэта зусім нармальныя патрабаванні, накіраваныя на тое, каб вышэйшая навучальная ўстанова адпавядала свайму прызначэнню, а не нагадвала звычайныя курсы.

**— Як вы думаеце, новыя недзяржаўныя ВНУ яшчэ будуць адкрывацца ў рэспубліцы?**

— Думаю, што мы ўжо дасягнулі ў гэтым сэнсе пэўнага «паталка». Нават у краінах Заходняй Еўропы недзяржаўная сістэма адукацыі складае не вельмі вялікі працэнт, а ў ЗША толькі 20 працэнтаў студэнтаў вучацца ў недзяржаўных навучальных установах. Як бачыце, нічога лепшага і больш надзейнага за дзяржаўную адукацыю ў свеце пакуль не прыдумана.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**



*Кажуць людзі: нешта будзе,*
*Шчэ ніколі не было,*
*Каб нічога не прыйшло!*

*Тыя чуткі — нібы «вуткі» —*
*На крыло — і паехала, пайшло...*

***Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.***

## УЗДРЫГНІЦЕ, МОДНІЦЫ: ДА НАС ЕДЗЕ ВЯЧАСЛАЎ ЗАЙЦАЎ

Пярэдадзень лета пачынаецца з прыемнага падарунка беларускім прыгажуням (а заадно і тым, хто аплачвае рахункі іхніх строяў): Мінск наведае знакаміты куцюр'е, патрыярх моды, мастак, паэт, аўтар парфумы Вячаслаў Зайцаў.

Вячаслаў Зайцаў, як вядома, асабісты майстар многіх эстрадных зорак і людзей «пры ўладзе» (і пры грашах). А 20 мая ён мае намер звярнуцца «персанальна да вас» з паказам мадэляў адзення сезона гэтага і наступнага гадоў. У тэатры імя Янкі Купалы ў гэты дзень у 19 гадзін адбудзецца шоу, а праз тры гадзіны ў рэстаране «Pierre Smirnoff» — сустрэча-эксклюзіў.

Да ўсяго трэба дадаць, што для распрацоўкі сваіх мадэляў майстар разам з французскімі, італьянскімі і расійскімі тканінамі ахвотна выкарыстоўвае і беларускія. Так што падгледзім ідэі — і выйдзем у лета «па фірме!»

**Падрабязнасці, як паведамілі рэдакцыі, можна даведацца па тэлефоне ў Мінску: 227-17-17.**

**Ул. інф.**

*РЭХА ПАДЗЕЙ 26 КРАСАВІКА*

## Ці выпусцяць Ю. Хадыку і В. Сіўчыка пад распіску аб нявыездзе?

**Гэтае пытанне з разраду прававых перарасло ў гуманітарную праблему. Прычыны — крызіснае пагаршэнне здароўя галадаючых.**

Следчы па асабліва важных справах мінскай гарадской пракуратуры Сяргей Новікаў, які вядзе крымінальную справу па факту масавых беспарадкаў, якія адбыліся ў Мінску 26 красавіка, паведаміў карэспандэнту «Звязды», што 16 мая праводзілася поўнае медыцынскае абследаванне арыштаваных па гэтай справе Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка згодна з пастановай следства. Аднак да абеду 17 мая ён яшчэ не мог паведаміць аб выніках гэтага медыцынскага абследавання. Тым часам працягвае паступаць неафіцыйная інфармацыя аб крытычным пагаршэнні здароўя Ю.Хадыкі і асабліва Вячаслава Сіўчыка ў выніку дваццацідзённага галадання, стан здароўя якога ўжо ўяўляе небяспеку для жыцця. Гэта пацвярджае таксама уніяцкі дэкан айцец Ян Матусевіч, якому было дазволена наведаць сваіх галадаючых парафіян. Праблема змены меры стрымання ў адносінах да галадаючых вязняў з юрыдычнай перайшла ў разрад гуманітарных...

У пракуратуры горада Мінска карэспандэнту «Звязды» зазначылі, што пытанне са зменай меры стрымання ў адносінах да В. Сіўчыка і Ю. Хадыкі разглядаецца і можа быць вырашана 17 мая. Тым часам родзічы Сіўчыка ўжо рыхтуюцца яго забіраць і выратоўваць.

Як вядома, В. Сіўчыку, Ю. Хадыку, а таксама сямі ўкраінскім грамадзянам пагражаюць артыкулы 186-3 і 188-1 Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Як зазначыў следчы Сяргей Новікаў, гэта, відаць першы выпадак у юрыдычнай практыцы нашай краіны, калі грамадзяне абвінавачваюцца па артыкулу 186-3 «Арганізацыя або актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, што парушаюць грамадскі парадак». Такім чынам, гэта не банальная крымінальная справа, тым больш, што да яе існуе вялікая грамадская цікавасць, выкліканая рознымі палітычнымі момантамі, а таксама галадоўкай зняволеных. Тым не менш, Сяргей Новікаў падкрэсліў, што ў рамках гэтай крымінальнай справы ні перад адным з абвінавачваемых нават пытання не ставілася аб тым, да якіх партый ці рухаў яны належаць. Паводле слоў С. Новікава, у следства няма ніякіх палітычных матываў па гэтай справе, «гэтыя людзі прыцягваюцца да адказнасці чыста за ўчыненне крымінальнага злачынства».

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» консул украінскага пасольства ў Мінску Усевалад Калоцій, на гэтым тыдні яму не ўдалося сустрэцца з сямю ўкраінскімі грамадзянамі, якія абвінавачваюцца па гэтай жа справе. Аднак паводле той інфармацыі, якую ён атрымліваў з афіцыйных беларускіх крыніц, стан здароўя іх здавальняючы. Інфармацыю аб галадоўцы арыштаванага Сяргея Патапава следства не пацвярджае, спасылаючыся на тое, што ніякіх заяў ад яго не было. На гэтым тыдні Мінск наведалі дэпутаты Вярхоўнай Рады Украіны Алег Вітовіч, які прадстаўляе ва ўкраінскім парламенце Украінскую нацыянальную асамблею, і Яраслаў Ілясевіч. Яны мелі сустрэчы ў Пасольстве Украіны ў Беларусі, з віцэ-спікерам Вярхоўнага Савета Беларусі Генадзем Карпенкам, намеснікам міністра ўнутраных спраў, пракурорам горада Мінска. Украінскія дэпутаты хацелі сустрэцца са зняволенымі ўкраінскімі грамадзянамі, аднак не змаглі дабіцца такога дазволу з боку беларускіх уладаў.

Як зазначыў следчы С. Новікаў, беларускім Крымінальна-працэсуальным кодэксам пры разглядзе крымінальных спраў у адносінах да замежных грамадзян не прадугледжана неабходнасць прысутнасці прадстаўнікоў гэтых дзяржаў. Украінскія зняволеныя далі згоду даваць паказанні на рускай мове.

Сяргей Новікаў зазначыў, што не выключана магчымасць таго, што па гэтай крымінальнай справе да адказнасці могуць быць прыцягнуты і іншыя грамадзяне: «Справа ўзбуджана па факту групавых дзеянняў, якія груба парушалі грамадскі парадак і пацягнулі за сабой непадпарадкаванне патрабаванням прадстаўнікоў улады, спыненне транспарту і г. д. У ходзе следства будуць устанаўлівацца канкрэтныя асобы, якія ажыццявілі нейкія дзеянні па парушэнню грамадскага парадку, і ў выпадку іх устанаўлення яны панясуць крымінальную адказнасць. Трэба ж некаму адказваць за пераварочванне машын, кіданне камянёў і бутэлек у прадстаўнікоў сіл аховы правапарадку...»

Адносна дзеянняў з боку саміх сіл аховы правапарадку С. Новікаў зазначыў, што аб парушэннях закона з іх боку гаварыць рана, але ў пракуратуру звярнуўся шэраг асоб з ліку ўдзельнікаў шэсця, якія, паводле іх слоў, атрымалі ад сіл аховы правапарадку цялесныя пашкоджанні. Ім былі выдадзены накіраванні на судова-медыцынскую экспертызу, па кожнаму такому выпадку ў ходзе расследавання крымінальнай справы будуць устанаўлівацца асобы, што нанеслі такія пашкоджанні, і ім будзе дадзена юрыдычная ацэнка. Акрамя таго, як заявіў следчы Сяргей Новікаў, у ходзе расследавання крымінальнай справы следствам будзе прапрацоўвацца пытанне юрыдычнай абгрунтаванасці дачы гарвыканкомам дазволу на правядзенне мітынгу і не дачы яго на шэсце, аб дзейнасці органаў унутраных спраў па забеспячэнню парадку. «Пасля заканчэння следства па гэтай крымінальнай справе намі будзе вынесены афіцыйны пункт гледжання следства аб тым, што было законна, а што не», — зазначыў С. Новікаў. Па факту затрымання людзей вечарам 26 красавіка каля філармоніі следчы зазначыў, што ён таксама разглядаецца ў рамках крымінальнай справы і яму будзе дадзена юрыдычная ацэнка.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*P.S. Напрыканцы рабочага дня карэспандэнту «Звязды» у пракуратуры горада Мінска паведамілі, што рашэнне аб змяненні меры стрымання на падпіску аб нявыездзе ў адносінах да Вячаслава Сіўчыка прынята, ён будзе змешчаны ў гарадскую бальніцу, а вось ў адносінах да Юрыя Хадыкі пытанне яшчэ вырашалася і канчатковы вынік яшчэ быў невядомы. Каменціраваць вынікі пазаўчарашняга медыцынскага абследавання галадаючых вязняў у гарадской пракуратуры адмовіліся, зазначыўшы аднак, што інфармацыя аб тым, быццам Вячаслаў Сіўчык пры смерці — нацягнутая. Будзем спадзявацца, што гэта сапраўды так і рэальнай пагрозы жыццю В. Сіўчыка і Ю. Хадыкі няма. Гэта ў інтарэсах як саміх вязняў і іх родных, так і грамадства, уладаў і таго ж следства...*

## СВЯТА ГАЗЕТЫ АБЯЦАЕ БЫЦЬ МАСАВЫМ

Віцебск наведае кіраўнік некалі скасаванага, а нядаўна адноўленага ведамства — Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку — Уладзімір Бельскі. 17 мая ён сустрэнецца з рэдактарамі газет вобласці і кіраўнікамі паліграфічных прадпрыемстваў. У праграме паездкі таксама ўдзел у Дні газеты, які арганізуе калектыў «Витьбичей». З выпадку пяцігоддзя выдання пройдзе двухдзённая спартакіяда «Здароўе», якая ўключае першынство па тэнісу, гіравы спорт, пляжны валейбол і нават пеўневыя баі, а таксама многае іншае. Газетнае свята — справа сур'ёзная, і арганізатары яго перакананы ў тым, што вопыт Віцебска дастойны пераймання. «Витьбичи» адзначаюць дзень нараджэння газеты кожны год, робячы свята ўсё больш масавым.

## ПАДЗВІЖНІКАМ МУЗЕЙНАЙ СПРАВЫ

У сувязі з Міжнародным днём музеяў, а таксама 75-годдзем з дня заснавання Беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільнюсе кіраўнікі Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, навуцы і культуры накіравалі ў адрас Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі віншавальную тэлеграму.

Словы віншавання і ўдзячнасці за самаадданую і высакародную працу адрасаваны супрацоўнікам Нацыянальнага музея, усім работнікам музейнай справы, знаўцам і захавальнікам гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі.

**Прэс-служба ВС Рэспублікі Беларусь.**

## ФРГ ПАПЯРЭДЖВАЕ ГАСПАДАРОЎ ЦЯЖКІХ ГРУЗАВІКОЎ

Немцы любяць адпачываць летам і ў адпачынак ездзяць пераважна на ўласных аўтамабілях. А іх ў Германіі — мільёны. Таму ў адпаведнасці з існуючым становішчам у перыяд масавага адпачынку ў ФРГ сёлета, як і ў мінулым годзе, з 1 ліпеня па 31 жніўня ўводзіцца абмежаванне на рух аўтамабільнага транспарту. З 7.00 да 20.00 гадзін будзе забаронены рух грузавых аўтамабіляў з агульнай дапушчальнай вагой звыш 7,5 т, а таксама з прычэпамі на пэўных участках аўтабанаў і аўтамабільных дарог федэральнага значэння.

Такім чынам, перш чым ехаць у ФРГ у гэтыя тэрміны — праверце вагу свайго грузавіка.

**Леанід ТУГАРЫН.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усхо | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 5.03 | 21.09 | 16.06 |
| Віцебск – | 4.46 | 21.06 | 16.20 |
| Магілёў – | 4.52 | 20.59 | 16.07 |
| Гомель – | 4.55 | 20.50 | 15.55 |
| Гродна – | 5.17 | 21.25 | 16.08 |
| Брэст – | 5.27 | 21.17 | 15.50 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 17 мая.**

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Ірыны, Іакава.**
**К. Сымона, Фрыдэрыка.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 15—17, Магілёве — 17—19, Мінску — 18—20, Гродна — 19—21, Брэсце і Гомелі — 21—23 градусы цяпла.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е. 19-га ўначы — на значнай частцы тэрыторыі, 20-га — па поўначы і ў заходніх раёнах — дажджы, навальніцы. Тэмпература 19-га ўначы — 7—12, удзень — 19—24; 20-га ўначы — 10—15, удзень — 23—28 градусаў цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 18-19 МАЯ

У бліжэйшыя двое сутак захаваецца ўмерана цёплае надвор'е. Чакаюцца нязначныя ваганні значэнняў асноўных метэаэлементаў. У такіх умовах самаадчуванне метэазалежных хворых палепшыцца.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца расшырыць фізічную актыўнасць, больш бываць на свежым паветры.

**Антаніна КАРОЗА,**
**навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

## ІЛЬГОТЫ Ў ПРАДАСТАЎЛЕННІ ЖЫЛЛЯ СЕМ'ЯМ ПРЫ НАРАДЖЭННІ БЛІЗНЯТ

**Мне хацелася б атрымаць адказы на такія пытанні:**

**1. Якія льготы ў атрыманні жылля мае сям'я, у якой нарадзіліся двайняты (прычым, акрамя двайнят, ужо было адно дзіця)?**

**2. Ці маем мы льготы сярод астатніх ільготнікаў?**

**3. І яшчэ: на льготнай чарзе стаяць сем'і, якія маюць аднапакаёвыя і двухпакаёвыя кватэры. У нас кватэры няма зусім.**

**Ці маем мы сярод іх прывілеі?**

**Лена П.**, Брэсцкая вобласць.

Сем'і пры нараджэнні блізнят маюць права на першачарговае прадастаўленне жылля. Калі стаяць на ўліку тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў у адпаведнасці з п. 9 арт. 44 ЖК РБ.

Абзац 2 арт. 17 Правілаў уліку грамадзян, якія маюць патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і выдзялення жыллёвых памяшканняў у Беларускай ССР (зацверджаны пастановай СМ БССР і Белсаўпрофа ад 25.04.84 г. са зmяненнямі ад 12.05.95 г.) прадугледжвае вызначэнне месца грамадзяніна ў спісках чаргавікоў пры аднолькавых ільготах на прадастаўленне жылля ў залежнасці ад ступені яго забяспечанасці жыллём. Такім чынам, незабяспечанасць вас жыллём і льготы, у адпаведнасці з п. 9 арт. 44 ЖК, павінны ўлічвацца пры выдзяленні жылля сярод тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў.

## ПАРАДАК ВЫДАЧЫ АДНАРАЗАВЫХ БЯЗВЫПЛАТНЫХ СУБСІДЫЙ НА БУДАЎНІЦТВА ЦІ ПАКУПКУ ЖЫЛЛЯ

**Як і каму будуць выдавацца бязвыплатныя жыллёвыя субсідыі?**

**Буду вельмі ўдзячная, калі вы зможаце праліць святло на гэтую праблему.**

**З павагай да вас Ірына.**

Субсідыі будуць выдавацца з 1 студзеня 1996 г. грамадзянам, якія стаяць на ўліку тых, хто мае патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў у парадку чарговасці, якая ўстанаўліваецца, зыходзячы з часу прыняцця на ўлік. Другая ўмова — агульны даход на кожнага члена сям'і не павінен перавышаць двухразовага мінімальнага спажывецкага бюджэту на момант падачы (1 МСБ = 1.041.093 руб. — на сённяшні дзень). Трэцяя ўмова — магчымасць пакрыцця грамадзянінам за кошт уласных ці пазыковых сродкаў розніцы паміж коштам будаўніцтва ці набыцця жылля і субсідыяй. Субсідыя можа быць налічана ў памеры да 70 працэнтаў кошту жылля. Грамадзянін, якому патрэбна субсідыя, падае заяву ў мясцовы выканком ці па месцы працы.

У выпадку станоўчага разгляду заявы субсідзіраванне праводзіцца пасля прад'яўлення ў службу субсідый:

- дагавора аб будаўніцтве ці пакупцы жылля;
- дакумента аб наяўнасці зямельнага ўчастка і ўзгадненні праектнай дакументацыі (пры будаўніцтве);
- дакумента, які пацвярджае наяўнасць уласных ці пазыковых сродкаў на пакрыццё розніцы паміж субсідыяй і коштам жылля.

У сувязі з тым, што парадак выдачы, разлікаў і налічэння субсідый даволі складаны, раім звяртацца ў службу субсідый пры выканкомах і арганізацыях за больш падрабязнымі тлумачэннямі.

## ЯК МОЖНА РАСПРЫВАТЫЗАВАЦЬ КВАТЭРУ

**У 1995 годзе я прыватызавала сваю кватэру.**

**Хоць і позна, але я зразумела, што гэта чарговае ашуканства насельніцтва. Не азнаёміўшы людзей з усімі правіламі і законамі, наабяцаўшы ўсялякіх прывілей, нас, бесталковых, падбілі на прыватызацыю жылля.**

**Растлумачце, як можна распрыватызаваць кватэру?**

**Н. ДРУЖНЫ.**

Прыватызацыя жылых памяшканняў азначае набыццё ва ўласнасць грамадзянамі жылля ў дамах дзяржаўнага і грамадскага фонду. Такое набыццё ажыццяўляецца па дагаварах, якія трэба засведчыць у натарыяльным парадку. Такім чынам, дагаворная аснова прыватызацыі падразумявае згоду бакоў як пры заключэнні гэтай здзелкі, так і пры яе скасаванні. Пры гэтым пагадненне аб скасаванні дагавора прыватызацыі ажыццяўляецца прыняццем пагаднення аб аднаўленні былых дагаварных адносінаў, існуючых паміж грамадзянінам і органам, установай, у распараджэнні якіх знаходзіўся жылы фонд (арт. 229 ГК РБ). Для скасавання дагавора прыватызацыі грамадзянін падае заяву ў орган, арганізацыю, з якімі быў заключаны гэты дагавор. Адмова ў скасаванні дагавора прыватызацыі можа быць абскарджана.

## ПРЫЦЯГНЕННЕ ДА АДМІНІСТРАЦЫЙНАЙ АДКАЗНАСЦІ ЗА З'ЯЎЛЕННЕ Ў ГРАМАДСКІХ МЕСЦАХ У П'ЯНЫМ ВЫГЛЯДЗЕ

**Ці мае права раённая міліцыя ці ўчастковы выпісаць штраф чалавеку, які знаходзіцца ў нецвярозым выглядзе (не ў стане, а выглядзе, і толькі за гэта), у памеры дзвюх мінімальных зарплат, калі зарплата менш як 2 «мінімалкі», а таксама без складання пратакола і, адпаведна, без подпісу штрафуемага?**

**Вельмі спадзяюся на адказ. Загадзя дзякую.**

Прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці адбываецца за з'яўленне ў грамадскіх месцах у п'яным выглядзе, які абражае чалавечую годнасць і грамадскую мараль, у адпаведнасці з арт. 159 КаАП РБ. Санкцыя за гэта правапарушэнне — папярэджанне ці накладанне штрафу да 1 мінімальнай зарплаты. Пры прызначэнні пакарання улічваецца асоба правапарушальніка, яго матэрыяльнае становішча і іншыя абставіны. Паўтарэнне такога правапарушэння на працягу года пасля мераў адміністрацыйнага пакарання цягне накладанне штрафу да 2 мінімальных зарплат.

Аб учыненні адміністрацыйнага правапарушэння, прадугледжанага арт. 159 КаАП РБ, павінен быць складзены пратакол у адпаведнасці з арт. 234 КаАП РБ. Асоба можа адмовіцца ад подпісу пратакола.

Прыцягваць да адміністрацыйнай адказнасці ў адпаведнасці з арт. 159 ч. 1, 2 могуць участковыя інспектары і іншыя супрацоўнікі ўнутраных спраў, якія кантралююць парадак у грамадскіх месцах. Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія прадугледжаны ч. 1, 2 арт. 159 КаАП РБ, і накладаць адміністрацыйныя спагнанні маюць права начальнікі ці намеснікі начальніка аддзела ўнутраных спраў, прыраўнаваных да аддзелаў унутраных спраў выканаўчых камітэтаў раённых, гарадскіх Саветаў дэпутатаў, а таксама начальнікі аддзелаў міліцыі.

## ПАДСТАВЫ ДЛЯ ЗМЕНЫ ПРОЗВІШЧА ПАВІННЫ БЫЦЬ ВАЖКІМІ

**Пры якіх умовах можна змяніць прозвішча? Якія дакументы неабходна прадставіць і куды звяртацца па гэтым пытанні?**

**Анатоль С.**, г. Мінск.

Паважаны Анатоль С.! Гэтае пытанне ў кампетэнцыі ЗАГСаў. Таму звяртайцеся ў аддзел па месцы прапіскі. Падставамі для змены прозвішча з'яўляюцца дрэннае гучанне, цяжкае вымаўленне, жаданне насіць прозвішча жонкі (ці мужа). Калі вы жадаеце змяніць прозвішча з нейкай іншай нагоды, ваша справа будзе разгледжана, але не абавязкова вы атрымаеце станоўчы адказ. З дакументаў трэба прадставіць копію пашпарта, аўтабіяграфію, іншыя дакументы, якія сведчаць асобу (пасведчанне аб нараджэнні, дамавую кнігу і г. д.). Больш дэталёва вам адкажуць на месцы. У працэдуру разгляду заявы ўваходзіць праверка асобы ў органах унутраных спраў: ці ёсць судзімасці і ці скончыўся іх тэрмін. Прозвішчы мяняюць і судзімым, але пры ўмове, што тэрмін пакарання скончыўся. ЗАГС павінен вынесці рашэнне па вашай справе на працягу трох месяцаў. Калі вы не згодныя з адмовай, маеце права звярнуцца ў суд. Калі ж атрымаеце дазвол, то за 40 працэнтаў мінімальнай заработнай платы вам на працягу трох месяцаў павінны аформіць новыя дакументы. І не адкладвайце гэтую справу надоўга: праз такі тэрмін, калі вы не прайшлі рэгістрацыю без сур'ёзных прычын (напрыклад, доўгатэрміновая камандзіроўка, якую можна пацвердзіць адпаведнымі паперамі), працэдура хаджэння па інстанцыях для вас пачнецца нанова.

## ВЫБІРАЦЬ РАСІЙСКАГА ПРЭЗІДЭНТА МОЖНА І Ў МІНСКУ

**Я грамадзянін Расіі і пастаянна пражываю там. Але ў дзень выбараў Прэзідэнта разам з жонкай буду знаходзіцца ў сваім родным горадзе Рагачове Гомельскай вобласці. Паведаміце, калі ласка, ці змагу я прыняць удзел у выбарах. Як гэта зрабіць і што для гэтага патрэбна?**

**ІВАНОЎ П. Б.**, г. Рагачоў

Як адказалі карэспандэнту газеты ў пасольстве Расійскай Федэрацыі, грамадзяне Расіі, якія 16 чэрвеня будуць знаходзіцца за межамі краіны, змогуць прыняць удзел у выбарах. Аднак зрабіць гэта можна толькі ў Мінску ў пасольстве Расійскай Федэрацыі. Знаходзіцца яно па адрасу: вуліца Старавіленская, 48. Выбары пачнуцца ў 8 гадзін раніцы. Выбаршчыкам трэба мець пры сабе дакумент, які пацвярджае прыналежнасць да расійскай дзяржавы.

## ТОЛЬКІ ІНВАЛІДЫ І ЎДЗЕЛЬНІКІ ВАЙНЫ

**Хацелася б ведаць, хто звычайна лечыцца ў шпіталях для інвалідаў вайны? Ці не трапляюць сюды людзі, якія злоўжываюць такім правам?**

**М. КРУЧКО,** г. п. Капаткевічы, Петрыкаўскі раён.

— Шаноўны Мікалай Уладзіміравіч, сваім пытаннем вы, прынамсі, ужо адказалі на яго.

Права на стацыянарнае лячэнне ў шпіталях для інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны маюць яе інваліды і ўдзельнікі, а таксама асобы, прыраўнаваныя да іх.

Менавіта так адказаў намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя Г. Карніцкі.

## ДЛЯ ВЯРТАННЯ БЫЛОГА ЎКЛАДУ Ў АШЧАДБАНКУ АДКРЫЙЦЕ КАМПЕНСАЦЫЙНЫ ЎКЛАД

**Нядаўна даведаўся, што шляхам нейкіх кампенсацыйных укладаў можна вярнуць свае зберажэнні, зусім абясцэненыя ў Ашчадбанку. Ці так гэта?**

**І. ЧАРНІЕНКА,** п/а Туча, Клецкі раён.

Безумоўна, гэта пытанне хвалюе і іншых нашых чытачоў. Думаецца, адказ дырэктара дэпартамента па рабоце з фізічнымі асобамі АСБ «Беларусбанк» А. Баркуна дасць пэўнае разуменне:

— Так, паважаны Іосіф Міхайлавіч, зараз наш банк дае магчымасць былым укладчыкам Ашчаднага банка часткова кампенсаваць свае зберажэнні, але робіцца гэта шляхам адкрыцця кампенсацыйных укладаў. Умовы іх маюць на мэце штомесячнае налічэнне 33 працэнтаў гадавых і выплату кампенсацыйнай прэміі, якая налічваецца па заканчэнні аднаго года захоўвання сродкаў у памеры 50 працэнтаў ад сумы першапачатковага ўзносу на кампенсацыйны ўклад. Напрыклад, пры наяўнасці на 1 студзеня 1991 года (без уліку дэнамінацыі) астатку ўкладу ў Ашчабанку ў суме 1000 рублёў, максімальны ўзнос на кампенсацыйны ўклад не павінен перавышаць 2.000.000 рублёў. На працягу года вы маеце магчымасць штомесячна атрымліваць працэнты па ўкладу, і па заканчэнні года вам выплачваецца кампенсацыйная прэмія ў памеры 1.000.000 рублёў. Значыць, за кошт кампенсацыйнай прэміі забяспечваецца тысячаразовая кампенсацыя астатку былога ўкладу ў Ашчадбанку. Такім чынам, у наш няпросты час банк адшукаў магчымасць устанавіць для сваіх кліентаў, якія мелі ўклады ў Ашчадным банку, ільготныя ўмовы захоўвання грашовых сродкаў, але толькі пры ўмове, што тыя ўнясуць грашовы ўзнос у АСБ «Беларусбанк». І гэта заканамерна. Сродкі для гэтай кампенсацыі трэба зарабляць, што і будзе рабіць банк. Прычым вы маеце права ўдзельнічаць у нашай праграме па частках: колькі можаце — столькі і ўнясіце на кампенсацыйны ўклад па меры сваіх фінансавых магчымасцей. Варта зазначыць, што для адкрыцця такога ўкладу можна звярнуцца ў любы філіял або аддзяленне АСБ «Беларусбанк».

## ІЛЬГОТЫ — РЭЧ ЗМЕНЛІВАЯ

**«Звязда», дапамажы, калі ласка, разабрацца, якія цяпер існуюць ільготы для студэнтаў і пенсіянераў на прыгарадным пасажырскім транспарце.**

**Вікторыя КІСЯЛЁВА,** г. Мінск.

На прыгарадным і гарадскім аўтамабільным транспарце ў адпаведнасці з Указам Прэзідэнта РБ ад 01.09.95 г. № 349 «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобных катэгорый грамадзян» для студэнтаў дзённых аддзяленняў ВНУ і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў існуе 50-працэнтны льготны тарыф. На міжгародніх маршрутах у адпаведнасці з пастановай Савета Міністраў РБ № 384 ад 11.06.93 г. ільготны тарыф дзейнічае толькі па суботах, нядзелях і святочных днях у перыяд з 1 кастрычніка па 15 мая кожнага года, а таксама з 1 студзеня па 29 лютага на перыяд зімовых канікулаў — ва ўсе дні тыдня.

На прыгарадным і чыгуначным транспарце і ў паяздах мясцовых зносінаў 50-працэнтны льготны праезд для студэнтаў дзейнічае ў перыяд з 1 кастрычніка па 31 ліпеня, таксама толькі па суботах, нядзелях і святочных днях, а ў перыяд з 1 студзеня па 29 лютага — штодзённа.

Пенсіянерам на перыяд з 1 па 31 мая і з з 1 па 30 верасня на час дачнага сезона прадастаўляецца права бясплатнага праезду ў прыгарадным пасажырскім аўтамабільным і чыгуначным транспарце. З 1 чэрвеня для іх плануецца ўвесці 50-працэнтны тарыф на праезд у прыгарадным аўтамабільным транспарце, а вось на чыгунцы такіх змяненняў не чакаецца — пенсіянеру, як і раней, прыйдзецца аплачваць поўны кошт праязнога білета.

## ВЕТЭРАНЫ ЧАКАЮЦЬ КАМПЕНСАЦЫЮ. ПАСПЕЦЬ БЫ АТРЫМАЦЬ

**На працягу якога часу пасля заканчэння каляндарнага года павінна быць выплачана кампенсацыя за нявыкарыстаны на працягу года водпуск і лячэнне ў санаторыі інвалідам ВАВ? І ці мае права на гэту кампенсацыю хворая жонка, калі яе муж — інвалід вайны ў пачатку гэтага года памёр?**

**І. ІЎЧЫК, інвалід ВАВ (II гр.),** Ашмянскі р-н.

Як патлумачылі карэспандэнту «Звязды» ва ўпраўленні сацыяльнага забеспячэння горада Мінска, кампенсацыі павінны выплаціць у першым квартале гэтага года. Але па многіх рэгіёнах Беларусі, у сувязі з цяжкім матэрыяльным становішчам адпаведных службаў, назіраюцца затрымкі гэтых выплат. Можна, вядома, «націснуць» на аддзел сацыяльнага забеспячэння Ашмянскага раёна. Але наўрад ці там пачнуць хутчэй «варушыцца», калі проста няма грошай.

Засмучу я вас і адказам на другое пытанне. У адпаведнасці з загадам ад 23 жніўня 1994 года № 53 «Аб парадку размеркавання і выдачы пуцёвак у санаторыі і дамы адпачынку органамі сацыяльнага забеспячэння РБ» пры смерці атрымальніка гэтай кампенсацыі яна не выдаецца нікому. Аднак, калі жонцы памерлага інваліда вельмі неабходна дапамога, пытанне аб выдачы кампенсацыі можа быць вырашана станоўча ў парадку выключэння. Свет не без добрых людзей. Рэдакцыя «Звязды» спадзяецца, што вам дапамогуць.

## «КВАКТУХА» ЧАКАЕ ВАС

**Шаноўная рэдакцыя, падкажыце, калі ласка, дзе можна набыць невялікі інкубатар для птушкі — вельмі патрэбную і зручную рэч для нашай фермерскай гаспадаркі.**

**Сям'я АНДРЭЙЧАНКА.** Вілейскі раён.

На сённяшні дзень такую прадукцыю ў краіне выпускае толькі Беларускі навукова-даследчы інжынерны цэнтр (БелНДІЦ) «Аграпрыбор», які знаходзіцца ў Мінску. Са слоў галоўнага інжынера цэнтра Алега Стружынскага, механічная «квактуха» сапраўды надзвычай карысная прылада для невялікай сялянскай гаспадаркі. Мяркуйце самі: разлічаны такі інкубатар толькі на 45 яек (для прыватнага падвор'я гэта дастаткова), да таго ж распрацоўка мае прыстасаванне, з дапамогай якога ўладальнікі па ўласнаму жаданню могуць закладваць або курыныя, або гусіныя яйкі. На жаль, механічную «квактуху» можна набыць толькі ў сталіцы па адрасу: вул. Чыгуначная, 27, корпус 2, БелНДІЦ «Аграпрыбор». Але перад тым як ехаць за пакупкай трэба патэлефанаваць па нумарах 70-90-35, 22-19-71 або 22-19-70 і даць заяўку на інкубатар. Вам прызначаць дзень, да якога прыстасаванне і будзе падрыхтавана. Зараз у продажы маецца 50 інкубатараў, кошт аднаго складае 550 тысяч рублёў.

## ХТО ВЫ, УЛАДЗІМІР ВАНЕЕЎ?

**У Мінску ёсць вуліца і плошча, якія носяць імя Ванеева. А вось у гонар каго яны названы, прачытаць не даводзілася. Хто ён, Ванееў?**

**Аляксандр АРАХОЎСКІ,** г. Мінск.

Уладзімір Рыгоравіч Ванееў — дзяржаўны і партыйны дзеяч Беларусі. Нарадзіўся ён у 1896 годзе ў вёсцы Шыпічоўшчына цяперашняй Кіраўскай вобласці. У гады першай сусветнай вайны ваяваў на Заходнім фронце, удзельнічаў і ў грамадзянскай вайне. Потым знаходзіўся на савецкай і партыйнай рабоце, скончыў Маскоўскую прамысловую акадэмію.

У кастрычніку 1937 года Уладзімір Ванееў быў прызначаны старшынёй выканаўчага камітэта Мінскага гарадскога Савета, а ў жніўні наступнага, 1938-га, — народным камісарам гандлю Беларусі. З сакавіка 1939 года ён ужо намеснік старшыні Савета Народных Камісараў БССР, а з сакавіка 1941-га — трэці сакратар ЦК КП(б) Беларусі.

У ліпені 1941 года брыгадны камісар Уладзімір Ванееў прызначаны членам Ваеннага савета 19-й арміі таго ж, што і ў грамадзянскую вайну, Заходняга фронту. А 12 кастрычніка 1941-га ён загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Уладзімір Рыгоравіч з'яўляўся членам ЦК, а потым — і членам бюро ЦК КП(б) Беларусі, членам ЦВК БССР, ЦВК СССР. Выбіраўся дэпутатам Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі першага склікання, дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР.

**У сённяшнім «Пытальніку» адказы на пытанні чытачоў падрыхтавалі Іван БРАЛКА, Жанна КАТЛЯРОВА, Сяргей КУРКАЧ, Анатоль МЯСНІКОЎ, Надзея НІКАЛАЕВА, Сяргей РАСОЛЬКА, Віктар ШЧУЧЭНКА.**

## ВАМ АДКАЗВАЕ ЮРЫСТ

### ЦІ МАЕ МАЯ МАЦІ ПРАВА НА ПРЫБАЎКУ ДА ПЕНСІІ?

**«У маёй мамы сямёра дзяцей. Як мнагадзетная маці, у 50 гадоў яна пайшла на пенсію. Працоўны стаж у яе невялікі, і пенсія, зразумела, таксама маленькая. Чула, што мнагадзетным маці дабаўляюць стаж за тое, што яны даглядалі дзяцей. Ці праўда гэта?»**

— Так, вашай маці могуць павялічыць стаж работы. Закон Рэспублікі Беларусь «Аб пенсіённым забеспячэнні» (арт. 51) прадугледжвае, што час догляду малалетніх дзяцей непрацуючай маці (а ў выключных выпадках і бацьку) уключаецца ў працоўны стаж, але не поўнасцю: улічваецца догляд кожнага дзіцяці да дасягнення ім трохгадовага ўзросту. Ёсць тут і мяжа: усяго гэта можа складаць не больш як 9 гадоў.

Калі ваша мама не працавала ў перыяд догляду дзяцей, то няхай возьме пасведчанні аб іх нараджэнні і звернецца ў аддзел сацыяльнай абароны па месцы жыхарства.

**Наталля ДОЎНАР,**
**юрыдычны кансультант «Звязды».**

## СІРОТЫ ВАЕННАГА ЧАСУ ЖАДАЮЦЬ АБ'ЯДНАЦЦА

**Аршанскае аб'яднанне былых выхаванцаў дзіцячых дамоў ваеннага часу выступіла ініцыятарам стварэння Рэспубліканскай асацыяцыі. «Застаўшыся сіротамі, мы цудам выжылі ў той страшэннай мясарубцы.**

Тысячы такіх як мы фашысты кідалі ў калодзежы, палілі ў хатах і хлявах, калолі штыкамі, — пішацца ў пісьме, што прыйшло на адрас рэдакцыі. — Каму пашчасціла выжыць, не ведаюць шчасця і цяпер. Наша сённяшняя старасць — гэта жабрацтва і інваліднасць. Многія з нас на сваю мізэрную пенсію не могуць купіць не толькі лекі, але і малако».

Усіх выхаванцаў дзіцячых дамоў ваеннага часу Аршанскае аб'яднанне просіць без прамаруджвання адгукнуцца: 220012, г. Мінск-12, а/с 82. Кашавому Аляксандру Уладзіміравічу.

## У КУПАЛАЎСКІМ МУЗЕІ — ЗНОЎ ВІТАННЕ ПАЭЗІІ. СУЧАСНАЙ

**Творчая вечарына «Крыж міласэрнасці адбылася днямі ў Літаратурным музеі Янкі Купалы. Праводзілі яе разам з музейнымі рупліўцамі Міжнародны фонд Янкі Купалы і Усебеларускі жаночы фонд Святой Ефрасінні Полацкай.**

Дасведчанаму, цікаўнаму чытачу, відавочна, шмат што тлумачыць сама назва «Крыж міласэрнасці» — адзін з галоўных твораў паэта, празаіка, літаратуразнаўцы Валянціны Коўтун.

І, вядома ж, ёй і была прысвечана імпрэза, на якую ў музей Я. Купалы прыйшлі вядомыя грамадскія дзеячы, паэты, прадстаўнікі замежных пасольстваў. Цёплыя словы і кветкі Валянціне Коўтун падарылі Васіль Зуёнак і Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін і Сяргей Грахоўскі, ды шмат хто яшчэ, хто чулы і ўважлівы да творчасці аўтара рамана «Крыж міласэрнасці», многіх кніг паэзіі, прозы, літаратуразнаўства.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ШТО ЧАКАЕ ДЗЯЎЧЫНУ — ШУКАЛЬНІЦУ ПРЫГОД НА ЗАХАДЗЕ

**Апошнім часам пачасціліся звароты польскай паліцыі ў Пасольства Рэспублікі Беларусь з нагоды затрымання маладых дзяўчат, нашых суайчынніц, якія займаюцца прастытуцыяй на тэрыторыі суседняй дзяржавы.**

Занепакоенасць замежных ахоўнікаў парадку цалкам зразумелая. Бо, як адзначаюць шэраг экспертаў, у трох выпадках з чатырох прастытуцыя звязана з некаторымі антызаконнымі дзеяннямі — крадзяжамі, спекуляцыяй, валютнымі аперацыямі, распаўсюджваннем парнаграфіі і наркотыкаў, утрыманнем прытонаў, зводніцтвам, уцягваннем у «рамяство» непаўналетніх, хуліганствам, заражэннем венерычнымі захворваннямі і г. д. Акрамя таго, каля 80 працэнтаў прадстаўніц найстаражытнейшай прафесіі ў свеце самі з'яўляюцца непасрэднымі ўдзельніцамі злачынстваў і правапарушэнняў.

Менавіта гэта і пацвярджаюць паліцэйскія з Польшчы. Яны гавораць, што прастытуцыя — адна з формаў сацыяльнага паразітызму — узмацняе небяспечнае крымінагеннае становішча ў іхняй краіне, прыводзіць да ўсякага роду «разборак», што часам канчаюцца смяротным зыходам. Прастытуцыя — фон і база для крымінальнай злачыннасці і парушэнняў грамадскага спакою, каталізатар гвалтоўных учынкаў, механізм ператварэння распуснага ў злачыннае.

Грамадзянка Беларусі Алена Б. працавала ў Варшаве ў агенцтве па аказанню інтымных паслуг. Аднойчы ў «кантору» ўварваліся чацвёра ўзброеных мужыкоў, якія абрабавалі жанчын, што знаходзіліся там. Потым яны заблакіравалі ўсе выхады і паабяцалі вярнуцца. Алена, спужаўшыся наступстваў, вырашыла збегчы праз акно пры дапамозе звязаных паміж сабою прасцін. Падчас спуску жанчына не ўтрымалася і ўпала на тратуар. З цяжкай траўмай галавы Б. праляжала ў бальніцы два тыдні, але ўсё ж урачы не здолелі выратаваць жыццё пацярпеўшай.

На жаль, моцныя юрыдычныя рычагі барацьбы з амаральнай з'явай у беларускім заканадаўстве адсутнічаюць. За гандаль целам прадугледжаны толькі адміністрацыйны штраф, смяхотны для тых, хто зарабляе валюту. Праўда, усе іншыя дзеянні, што спадарожнічаюць развіццю прастытуцыі, крымінальна караюцца. Уцягванне падлеткаў у занятак прастытуцыяй, утрыманне прытонаў, зводніцтва — за гэта пагражае 5 гадоў зняволення ў адпаведнасці з артыкулам Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Вось і атрымліваецца, што на розум канкрэтнай дзяўчыны ніякім чынам не паўплываеш і канчатковы выбар застаецца за ёю. Аднак можна папярэдзіць патэнцыяльных «жрыц кахання», што мы і паспрабуем зрабіць. Асабліва сумны лёс у так званых «інтэрнацыянальных» прастытутак, якія вымушаны ісці «на панель» часта не па сваёй волі, а па прычыне абставінаў. Гэтыя жанчыны — у асноўным падманутыя людзі, што пагналіся за лёгкім і прыгожым жыццём за мяжой, якое ім паабяцалі лжэработадаўцы і фірмы.

Усё пачынаецца з аб'явы ў рэкламных калонках газет: «Прапануецца высокааплатная праца для маладых дзяўчат». Маецца на ўвазе, вядома, прадстаўленне інтымных паслуг. Дзяўчына, пазваніўшы па ўказаным тэлефоне, аказваецца на канспіратыўнай кватэры, дзе праводзіцца яе старраннае даследаванне. Тут і нетактоўныя пытанні, і пазіраванне ў голым выглядзе, а іншым разам — і сапраўдны палавы акт. Калі яе сексуальная і эстэтычная прыгоднасць задавальняе заказчыкаў, то запускаецца далейшы механізм пераправкі ў іншыя краіны.

Пад выглядам пераезду на пастаннае месца жыхарства, атрымання рабочай візы ці заключэння шлюбу (фіктыўнага) з іншаземцам на дзяўчат афармляюцца неабходныя дакументы. Раней часцей за ўсё будучыя прастытуткі «закідваліся» ў балканскія і азіяцкія дзяржавы, але цяпер гэты бізнес атрымаў развіццё ў Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Ашуканым прапануюць месцы танцоўшчыц, афіцыянтак, хатніх гаспадынь, даюць па некалькі тысяч пад'ёмных у доларах, кватэру, а гэта не што іншае, як пастка. Пазней у іх адбіраюць дакументы, пашпарты, запужваюць і здзекуюцца. Дзяўчына, каб адпрацаваць завінавачанасць, становіцца «путанай». Ад зробленых уласным целам грошай ёй застаецца мізэрная трэць, а то і менш. Яна трапляе ў рукі бязлітасных сутэнёраў і гаспадароў прытонаў.

Нядаўна польская арганізацыя «La Strada», якая фінансуецца фондам TACIS і заклікана весці барацьбу з гандлем жанчынамі ў краінах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, выступіла са зваротам да дзяўчат з мэтаю перасцярогі іх ад праблем, што могуць узнікнуць пры неабдуманым выездзе на працу за мяжу.

Там, у прыватнасці, гаворыцца, што ў Заходняй Еўропе налічваецца вялікая колькасць беспрацоўных. У чужаземцаў практычна адсутнічаюць шанцы знайсці месца. Каб працаваць легальна, неабходны дазвол, які атрымаць надзвычай цяжка, бо ўлады абараняюць свой рынак працы ад наплыву імігрантаў. Такі дакумент патрабуецца нават, калі вы збіраецеся папрацаваць часова, а турыстычная віза для гэтага непрыгодная. Нелегалы ж выдвараюцца за межы краіны.

Так, у большасці еўрапейскіх дзяржаў, як і ў Беларусі, прастытуцыя крымінальна не праследуецца. Караецца толькі зводніцтва і ўтрыманне публічных дамоў. Жанчыну не маюць права арыштаваць за занятак прастытуцыяй, але яна можа апынуцца за кратамі і падвергнуцца дэпартацыі за працу без дазволу. Між іншым, вашай увазе прапануецца некалькі прыкладаў з польскай практыкі.

Аня была беспрацоўнай. Гадзінамі чытала аб'явы аб працы за мяжой. На адну з іх адазвалася, яе запрасілі на сустрэчу для высвятлення дробязей. Атрымала вакансію афіцыянткі ў Бельгіі. Аднак на самай справе прыйшлося дэманстраваць стрыптыз у начным клубе і спаць з кліентамі. Гаспадары адабралі пашпарт, не выплачвалі абяцаныя грошы. Яе сяброўка абурылася і... знікла.

Кася пачула ад кагосьці, што ў Галандыі прастытуцыя легалізавана, а таму можна добра падзарабіць. Знайшла мужчыну, які вывез яе за мяжу. Гаспадар клуба заявіў, што набыў Касю за 4 тысячы марак і не заплаціць нічога, пакуль не верне страчанага. У адказ на пярэчанне дзяўчыну збілі, доўга марылі голадам, пакуль не здалася. Яна працавала без выхадных па 12 гадзін у суткі, не маючы магчымасці адмовіць кліенту, нават калі хварэла.

Каб вы не трапілі ў падобныя сумныя пераплёты, прыслухайцеся да нескладаных практычных парад:

- удакладні, асоба або фірма, што прапануюць працу за мяжой, займаюцца такой дзейнасцю легальна ці не;
- пры садзейнічанні пасольства той краіны, куды накіроўваешся, даведайся, ці існуе на самай справе будучы работадаўца, ці карыстаецца ён даверам;
- скрупулёзна прачытай кантракт перад падпісаннем, цвяроза ўзваж яго ўмовы;
- паведамі родным ці знаёмым тэрмін выезду, месца і адрас магчымай працы, імёны і прозвішчы суправаджальных асоб, пакінь сваю фотакартку;
- памятай, што пашпарт — твой агульнаграмадзянскі дакумент, які нікому нельга перадаваць.

І галоўнае, калі ўсё ж прынята рашэнне выехаць, то пры ўзнікненні праблем (умовы працы не адпавядаюць абяцаным, канфіскаваны пашпарт, збіванне і шантаж) трэба абавязкова звярнуцца ў паліцыю ці наступныя міжнародныя арганізацыі па барацьбе з гандлем жанчынамі:

**Польшча** — «La Strada», г. Варшава, тэл. (0-22) 628-99-99 (па аўторках з 9.00 да 21.00);

**Галандыя** — «STV», г. Утрэхт, тэл. (0-30) 271-60-44;

**Германія** — «AGISRA», г. Франкфурт-на-Майне, тэл. (0-69) 77-77-55;

«FIZ» («Frauen Information Zentrum»), г. Штутгарт, тэл. (0-711) 26-18-91;

**Бельгія** — «Saralek», г. Брусель, тэл. (0-3) 232-24-40;

**Швейцарыя** — «FIZ», г. Цюрых, тэл. (0-1) 271-82-82.

**Сяргей ХРЫПАЧ, прэс-цэнтр МУС.**

## «ІДЭАЛЫ Я ЎСЕ ПРАПІЎ, НІЧОГА ЎЖО НЕ НАТХНЯЕ...»

***Брудны падвал, дзе на сценах жанчыны, айчына якіх — туземны атол...***
***(З песні.)***

— Хочаш, раскажу пра прытон, — раптам прапанаваў адзін знаёмы.

**— А не схлусіш? — спытаўся я.**

— Ды не, што ты... Я там даўно «тусуюся». Праўда, не калюся, а толькі «мульцікі» гляджу, іх яшчэ «галюнамі» іншы раз называюць.

**— Давай расказвай...**

— Возьмем, напрыклад, звычайны пакой. Пакой як пакой. Чым жа яму яшчэ быць? А вось не прыклеіш на сцены шпалеры, не будзеш мыць вокны, фарбаваць там падлогу ці прыдумваць камбінацыі расстаноўкі мэблі...

**— Хіба такое бывае? Гэта ўжо калі атрымаеш запаветныя ключы і ордэр...**

— Слухай і не перабівай. Нашто гаспадару ўтульнасць, калі ён днямі не прасыхае? Нашто яму шпалеры і слонікі на чысценькай камодзе, калі ён іх убачыць хіба што ў сне?.. Я да чаго ўсё гэта вяду? Прытон — гэта не проста занядбаная кватэра, гэта стыль жыцця такі. Кампаніі там збіраюцца ў прынцыпе аднатыпныя. Але галоўнае — дэмакратыя. Так-так, не ўсміхайся, менавіта яна, зладзейка. Кожны можа займацца тым, чым пажадае.

**— Гэтым з поспехам і дома можаш займацца!**

— Не скажы. «Продкі» там ці жонка заўсёды будуць перашкаджаць. Тут іншае: у бруднай, нямытай кватэры з'яўляецца нейкае асаблівае адчуванне! Адушаўленне ці што?

**— Ад бруду?**

— Так, менавіта ад бруду. Але, відаць, не, хутчэй ад «дуру». З цвярозым розумам туды не ходзяць. Толькі «прыбалдзелыя».

**— Прабач, я проста ніяк не зразумею мэтазгоднасці, неабходнасці твайго «наведвання» прытона.**

— А я і сам тут ні ў чым не магу разабрацца. Быццам бы і пагаварыць няма з кім — адны «забулдоны». Але, ведаеш, часам бывае весела.

**— Весела?**

— Весялосць тут адмысловая, з успамінамі ўчарашняга. Калі прыходзіш («астаканены», зразумела, але яшчэ можаш разумець), і табе пачынаюць «травіць» пра ўчарашняе.

**— І што, гэта так весела?**

— Часам так. Але часцей за ўсё смяешся па звычцы. Дык вось (мы ж з табой ад тэмы адышлі), для мяне прытон як метад, сродак акунуцца ў бруд і хоць бы такім чынам выратавацца ад пустаты тут (ён з адчаем стукае сябе ў грудзі). Ідэалы я ўсе прапіў, нічога ўжо не натхняе. Да чаго імкнуцца, пра што марыць — гэта так смешна, не знаходзіш? Марыш, марыш, а потым прыйдзе хто-небудзь і сатрэ твае мары ў парашок. Ды яшчэ і пасмяецца. Так мае «продкі» заўсёды робяць. Бацька, які выхваляецца тым, што ведае на памяць усю ўсходнюю лірыку, інжынер чортаў! Я так стаміўся ад гэтых Фірдаўсі, Амар Хаямаў, калі б ты толькі мог уявіць! Не, у Амара Хаяма ўсё-такі нешта ёсць. Памятаеш, як ён пра віно пісаў? А маці ўсё з сяброўкамі размаўляе па тэлефоне: «Нюра, такія калготачкі купіла — 40 дэн; Маша, як табе новая перадача; Светка, ты ведаеш, што грыбочкі можна так і так закрываць...» Кожны вечар! Здурнець можна!

**— Дык ты ж па вечарах у прытоне...**

— У прытоне я толькі па выхадных. Для «продкаў» — у прыяцеля, якога выдумаў ужо гады чатыры таму і ў якога няма тэлефона, ён далёка жыве, і я вось езджу да яго раз у тыдзень. Нішто сабе, так? Ну бяру, зразумела, грошы на «падарункі» там розныя, на «харчаванне». Карацей, закупляю «бухло» і «дур».

**— Што такое «дур»?**

— Клей, лакі і іншыя, скажам так, прэпараты, якія маюць востры пах. Пырскаеш іх у поліэтыленавы пакет і... бачыш незвычайныя карцінкі, якіх нават у сне не бывае. Нагогул, цікава паглядзець з боку, як людзі на «дур» рэагуюць. Адзін, памятаю, за бабамі бегаў і крычаў: «Немцы, немцы! Хлопцы, немцы!» Другі плаваць пачаў на падлозе, потым «выплыў», распрануўся і лёг «загараць» пад лямпачкай.

Дзіўна так — робіш два глыбокія ўдыхі, штуршок — і плывеш. Стан эйфарыі. Праўда, адгукнецца ўвесь гэты «дур», гэта ўжо дакладна. У мяне вось ужо «матор» (сэрца. — **Н.Л.**) пачаў барахліць.

**— Чым займаешся ў вольны ад прытона час?**

— Гандлюю з латка. З гаспадыняй дамовіўся аб чатырохдзённым тыдні (ну, з аўторка па пятніцу, у панядзелак прыходжу ў норму). Нармальна.

**— Нармальна?**

— Вядома, нармальна. Ёсць дзе «ад'ехаць», з мужыкамі пабалакаць. Асноўны «кантынгент» — чалавек дзесяць. Але пастаянна прыходзяць «левыя», гэта значыць новыя людзі на адзін, на два вечара. Гаспадар любіць «траўку» да смерці, аж трасецца ўвесь. Зрэшты, калі ёсць іншая «гадасць» — і ёй не пагрэбуе. Прыносяць «наведвальнікі», ну і я ў тым ліку. Ёсць жанчыны-алкагалічкі, якія апусціліся да жывёльнага стану. Цьфу, агідна ўспамінаць, а ў суботу ж ізноў пацягне. Не магу зразумець, не магу. Даўся мне гэты прытон — і ўсё тут. Проста рады няма. Цягне — сіл процістаяць не знаходжу.

**— Слухай, а суседзі не «стукаюць»?**

— Стукаюць, стукаюць, яшчэ як. І міліцыя прыязджае — усё бывае. Але «наркату» пакуль паспяваем хаваць у спецыяльны тайнік. Для гэтага заўсёды трымаюць цвярозага (быццам бы шафёра), які назірае за абстаноўкай. Так што самае большае — выцвярэзнік. Хоць рызыка, вядома, ёсць. І немалая. Я неяк асабліва не ўнікаў у падрабязнасці, але ў гаспадара быццам бы ёсць нейкія сувязі. Ва ўсякім разе, нешта такое чуў краем вуха.

**— І не надакучыла табе туды цягацца?**

— Жахліва, жахліва надакучыла. Прытон для мяне быццам кашмар нейкі, прывід. Але цягне, цягне як магнітам туды. Кожны раз кажу сабе: «Усё, хопіць!» Але як толькі настае субота — зноў... Нічога не магу з сабой зрабіць. Можа, я «наркот», ці што? А можа, не хачу інакш жыць. Так, відаць, проста не хачу...

Калі чытаеш раманы пра «страчаныя пакаленні», успрымаеш усё неяк абстрактна. Але калі бачыш рэальны твар чарговых «страчаных», дык становіцца страшна. Страшна за будучыню. «І толькі думаю аб тым, чым будуць жыць нашчадкі нашы», — так пісаў Мережкоўскі, Што ж, можа быць, не «дурам»?

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

# СУВЕРЭННАЯ БЕЛАРУСЬ І ЯЕ ГІСТАРЫЧНАЯ НАВУКА

У перыяд панавання савецкай таталітарнай сістэмы ў краіне разам з іншымі галінамі ведаў у журботным стане знаходзілася і гістарычная навука. «Паспяхова» развіваліся ў ёй толькі тыя напрамкі, якія былі скіраваны на ўсхваленне, умацаванне гэтай неадпаведнай сапраўднаму грамадскаму прагрэсу дзяржаўна-палітычнай сістэмы.

Самай вялікай заганай беларускай гістарычнай навукі з'яўлялася свядомая фальсіфікацыя тых старонак з мінулага нашага краю, якія датычалі яго нацыянальна-дзяржаўнага жыцця. Ва унісон поглядам рускіх дарэвалюцыйных гісторыкаў афіцыйнага толку не аднаму пакаленню беларусаў з усёй напорыстасцю даводзілася, што гэты народ ніколі не выяўляў сапраўднага імкнення і не быў здольны да стварэння сваёй уласнай дзяржавы, што такую ён атрымаў з рук рускага пралетарыяту ў выніку Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года.

У 60-я—першай палове 80-х гадоў нашага стагоддзя са старонак гістарычных прац практычна знікла ўсё, што магло б сведчыць аб палітыцы русіфікацыі насельніцтва Беларусі, затое ўсяляк усхвалялася пранікненне на яе тэрыторыю рускай культуры і мовы. Такія падыходы гісторыкаў да асвятлення мінулага вельмі адпавядалі той палітыцы, якую праводзіла кампартыя Беларусі ў галіне нацыянальна-культурнага будаўніцтва. Людзям усяляк імкнуліся растлумачыць, выкарыстоўваючы найноўшыя «дасягненні» вучоных-гісторыкаў, што звужэнне палігона распаўсюджвання беларускай нацыянальнай культуры і мовы быў і ёсць заканамерны, натуральны і ва ўсіх адносінах вельмі прагрэсіўны для беларусаў працэс асіміляцыі з больш духоўна развітым і да таго ж блізкароднасным рускім народам. І ў масе сваёй людзі паверылі. Не верылі гэтаму толькі аб'ектыўнага погляду на гісторыю нацыянальна-самасвядомыя вучоныя. Але не верыўшы, маўчалі, як маўчаў і ўвесь беларускі народ.

І раптам — як гром сярод яснага неба! — першая партыйная асоба ў краіне абвясціла аб неабходнасці карэннай перабудовы ўсяго яе жыцця. Адразу ж закранула гэта і навуку, у тым ліку і гуманітарную. Яна абвінавачвалася ў грубай фальсіфікацыі як далёкага, так і блізкага мінулага. Асабліва ж моцнае прасвятленне адбылося ад таго часу, як 27 ліпеня 1991 года Беларусь аб'явіла сябе суверэннай. Цяпер у яе вучоных узнікла рэальная магчымасць пісаць гісторыю толькі ў залежнасці ад праўды. Пачаўся зусім заканамерны ў такіх умовах франтальны перагляд створанага не адным пакаленнем беларускіх гісторыкаў, сталі тэрмінова рабіцца накіды па напісанні новых прац па самых актуальных праблемах.

Задаволіць сапраўдны голад шырокіх колаў грамадскасці на новую літаратуру па гістарычнай праблематыцы можна было дваякім шляхам: напісаннем салідных манаграфічных прац і масавай публікацыяй артыкулаў у газетах і часопісах. Многіх больш прываблівае другі шлях. У выніку ў перыядычным друку з'явілася шмат цікавых арыгінальных матэрыялаў на гістарычную тэму, якія прымусілі чытача зусім інакш глянуць і паставіцца да свайго мінулага. Праўда, ад вучоных-гісторыкаў грамадскасць чакала куды большага. На рознага роду канферэнцыях, «круглых сталах» нас бязлітасна крытыкавалі — і зусім справядліва, — што мы вельмі марудзім, не даём аператыўных, хуткіх адказаў на пытанні, што так хвалююць народ. Пра ўсё гэта добра ведала кіраўніцтва Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, але не пайшло на тое, каб усіх ці большасць супрацоўнікаў скіраваць толькі на навукова-папулярную публіцыстыку.

Не збіраючыся ні ў чым абмяжоўваць памкненні працаваць у галіне публіцыстыкі, кіраўніцтва інстытута, між тым, з поўнай выразнасцю і катэгарычнасцю заявіла калектыву, што галоўнай яго задачай з'яўляецца напісанне «Нарысаў гісторыі Беларусі» ў дзвюх частках. Многім напачатку думалася, што ўжо праз якія-небудзь тры-чатыры гады чытач возьме ў рукі першую частку кнігі. Але гэтыя светлыя спадзяванні вельмі хутка рассеяліся, бо ўбачылі, што для новай працы па гісторыі вельмі мала канкрэтнага матэрыялу можна ўзяць з усяго таго, што ўдалося надрукаваць за ўвесь пасляваенны перыяд. Сказанае датычала нават і пяцітомнай «Гісторыі Беларускай ССР» (Мн., 1972, 1973, 1975). Для той навуковай канцэпцыі, што легла ў аснову «Нарысаў...», патрэбны былі не толькі новыя погляды, але і новыя фактычныя матэрыялы. У архівах не адчувалася недахвату ў апошніх. Іншая справа, што раней яны свядома абміналіся, бо іх уключэнне ў навуковы абарот з'яўлялася нерэальнай справай з-за неадпаведнасці афіцыйнаму бальшавіцкаму погляду на гісторыю Беларусі. Па сутнасці, для кожнага аўтара напісанне «Нарысаў...» сталася выключна новай з'явай у навуковай дзейнасці. Першая частка выйшла ў свет у 1994-м, другая — у 1995 г.

Было б зусім марным спадзявацца, што «Нарысы...» атрымаюць у чытачоў толькі станоўчую адзнаку. Ідэалагічная апрацоўка гістарычнай памяці беларускага народа, якая цягнулася такі доўгі час, яшчэ і сёння перашкаджае многім па-новаму глянуць на сваё мінулае. Цяжка, вельмі цяжка мяняюць свае погляды на яго і многія з тых вучоных, якія, выконваючы заказ ідэалагічных службаў партыі, не ведалі аніякай меры ў фальсіфікацыі гісторыі. На ўсё патрэбен час. Лепшым жа доказам, што «Нарысы...» сталі жаданай кнігай для шырокага кола чытачоў, можа служыць хуткае знікненне яе з паліц нашых кнігарняў.

Пэўныя дасягненні ёсць і ў напісанні навукоўцамі індывідуальных прац па гісторыі. За гэты час убачылі свет 41 манаграфія, 36 брашур, 19 зборнікаў. Усяго за 1989—1995 гг. аб'ём друкаванай прадукцыі супрацоўнікаў інстытута склаў 2469 друкаваных аркушаў.

Калектыў навукоўцаў інстытута не мог не адгукнуцца на прапанову Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь узяць удзел у напісанні школьных падручнікаў па нацыянальнай гісторыі. Дзесяткі гадоў нашы маладыя пакаленні вывучалі мінулае сваёй Бацькаўшчыны па падручніках, у якіх адсутнічалі звесткі аб самых адметных старонках у яе гісторыі, а многае падавалася ў сфальсіфікаваным выглядзе. Азнаямленне з такім школьным прадметам ніколькі не садзейнічала фарміраванню ў вучняў аб'ектыўнай гістарычнай памяці, нацыянальнай самасвядомасці, гордасці за сваіх продкаў, а, наадварот, стваралася ўражанне аб іх няздольнасці да самастойнага, суверэннага дзяржаўнага жыцця. Усе гэтыя адмоўныя з'явы адсутнічалі ў новых падручніках, аўтарамі якіх з'яўляліся нашы супрацоўнікі.

Як і трэба было чакаць, створаныя нашымі калегамі падручнікі аказаліся не даспадобы тым палітыкам, арганізатарам народнай адукацыі і вучоным, якія не прынялі ідэі беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння, якія не бачаць у беларусах самабытнага этнасу, здольнага да самастойнага нацыянальна-дзяржаўнага развіцця. Распачатая імі рэвізія школьных падручнікаў па нацыянальнай гісторыі зноў, як і ў папярэднія дзесяцігоддзі, скіравана на яе поўную фальсіфікацыю з тым, каб нашы маладыя пакаленні, праштудзіраваўшы іх, не адчувалі сябе патрыётамі роднай Бацькаўшчыны, былі абыякавымі да яе гістарычных традыцый, духоўнай спадчыны і матчынай мовы, каб квазіінтэрнацыяналізм на цэлую галаву ставілі вышэй за сапраўдны нацыянальны патрыятызм.

Усім вядома, з якой вялікай прыхільнасцю і радасцю нацыянальна-самасвядомая частка нашага народа сустрэла выхад у свет двух першых тамоў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (1993, 1994). На яе старонкі заслужана вернуты дзесяткі імёнаў слынных людзей, якія раней замоўчваліся ці ўсяляк апаганьваліся афіцыйнай гістарычнай навукай. Не будзе перабольшаннем сказаць, што першыя два тамы энцыклапедыі аказаліся такім рашучым крокам у набліжэнні да аб'ектыўнага, праўдзівага асвятлення нашага мінулага толькі дзякуючы таму, што ў састаў іх рэдакцыйнай калегіі ўваходзілі добра вядомыя ў краіне і за яе межамі вучоныя Інстытута гісторыі АНБ. Пяру прадстаўнікоў акадэмічнай гістарычнай навукі належыць і шмат арыгінальных артыкулаў для энцыклапедыі. Упершыню пасля 20-х гадоў нашага стагоддзя з'явілася магчымасць праўдзіва паказаць, што ж было негатыўным у дачыненнях паміж беларускім і рускім народамі, калі яны жылі ў розных дзяржаўных фарміраваннях. Гэта ж сапраўднае вар'яцтва, што ў выніку вайны 1654—1667 гадоў паміж двума ўсходнеславянскімі народамі гіне палова ўсіх беларусаў ці што яны ўчыняюць паход на Маскву, падпальваюць, рабуюць славуты рускі горад. Зараз, калі беларускі і рускі народы зноў пачалі жыць у сваіх суверэнных дзяржавах, мы, а перадусім палітычныя дзеячы, павінны да дробязі ведаць і пра самыя змрочныя старонкі ў нашых сумесных узаемадачыненнях, каб, крый Божа, не даць больш такому паўтарыцца.

Дзейнасць калектыву Інстытута гісторыі АНБ не супярэчыць карэнным інтарэсам беларускага народа. Дзейнасць гэтай навуковай установы не супярэчыць і палітыцы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Сваімі працамі яны дапамагаюць аднавіць у беларускага народа гістарычную памяць, сфарміраваць нацыянальна-дзяржаўную свядомасць, зразумець, што ён павінен глядзець на сябе не толькі як на аб'ект, але і суб'ект гісторыі. Навуковыя працы Інстытута гісторыі АНБ скіраваны не на падрыў, а на ўмацаванне дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, у чым зацікаўлены ўсе яе сумленныя грамадзяне, у т. л. і дзяржаўныя палітыкі. За сваю дзейнасць нам ніколі не будзе сорамна глядзець у вочы беларускаму народу.

І апошняе, на што хочацца звярнуць увагу. Вялікай нечаканасцю для многіх з'явіўся вывад з саставу рэдакцыйнай калегіі «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» амаль усіх вучоных Інстытута гісторыі АНБ, за выключэннем акадэміка Іларыёна Ігнаценкі. Хто з новых вучоных запрошаны сюды і які іх уклад у развіццё беларускай гістарычнай навукі, думаецца, цікава будзе ведаць чытачу.

**Леанід ЛЫЧ,**
**Уладзімір НАВІЦКІ,**
**дактары гістарычных навук.**

# Ліст у «Звязду»

Нам, членам рэдкалегіі «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», стала вядома, што 17 красавіка б. г. адбылося пасяджэнне рэдкалегіі гэтага выдання, на якім вырашаўся лёс цалкам падрыхтаванага да друку 3-га тома ЭГБ, адклікanага з друкарні пасля другой карэктуры. Мы ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы гэтага тома з моманту складання слоўніка і да апошніх стадый рэцэнзавання і рэдагавання. Нашы праўкі ёсць ва ўсіх макетах і ў першай карэктуры тома. Тым не менш на пасяджэнне рэдкалегіі 17 красавіка нас ні пісьмова, ні вусна не запрашалі.

Мы расцэньваем факт выключэння нас з саставу рэдкалегіі як беспадстаўны. У ёй зроблены кардынальныя змены. Калі не лічыць нябожчыкаў Б. І. Сачанку і М. А. Ткачова, то з 13 яе членаў, пазначаных у другім томе, засталіся толькі чатыры. Лёс 3-га тома ЭГБ зараз вырашаюць іншыя людзі, якія да апошніх дзён не з'яўляліся членамі рэдкалегіі і не мелі ніякага дачынення да вызначэння зместу кнігі. **Мы пратэстуем супраць такой практыкі, якая груба парушае элементарныя прававыя нормы, прынятыя ў цывілізаваным дэмакратычным грамадстве, ігнаруе падпісаную Беларуссю Міжнародную Канвенцыю аб ахове аўтарскіх правоў.**

Лічым, што новапрызначанае кіраўніцтва БелЭН абавязана афіцыйна інфармаваць нас аб наступным:

1. Калі, кім і па якіх прычынах мы выключаны з рэдкалегіі «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»?

2. На якой падставе нас спрабуюць пазбавіць рэдактарскіх правоў на працу, рэальна выкананую намі?

3. Ці маюць права толькі што прызначаныя члены рэдкалегіі падпісваць да друку 3-ці том ЭГБ, над якім яны не працавалі?

Метадалагічныя пазіцыі большасці з новых членаў рэдкалегіі ЭГБ нам вядомы па публікацыях у перыядычным друку апошніх часоў. Асаблівай актыўнасцю ў гэтых адносінах вызначыліся П. Ц. Петрыкаў (першы намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя») і А. А. Філімонаў. Яны безапеляцыйна адкідаюць нацыянальна-дзяржаўны падыход да асвятлення гісторыі, які праявіўся ў шэрагу сучасных выданняў беларускіх гісторыкаў, у тым ліку ў першым і другім тамах «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Менавіта такі падыход агульнапрыняты ў нацыянальнай гістарыяграфіі ўсіх суверэнных краін свету, бо толькі ён абгрунтоўвае і ўмацоўвае суверэнітэт, больш таго — забяспечвае самазахаванне народа. П. Ц. Петрыкаў, А. А. Філімонаў і іх аднадумцы, якія ўжо даўно не займаюцца практычна навукова-даследчай дзейнасцю, усяляк дамагаюцца вярнуць беларускую гістарыяграфію на антынацыянальныя па іх сутнасці пазіцыі — да высноў і ацэнак расійскіх дваранска-манархічных гісторыкаў, ідэй «западнорусизма», спалучаных з класавым камуністычна-партыйным падыходам.

Наколькі нам вядома, выключэнне ў гэтых адносінах зроблена толькі для 3-га тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», які, здаецца, будзе выдадзены з мінімальнымі, «касметычнымі» праўкамі, узгодненымі з аўтарамі артыкулаў. Тлумачыцца гэта тым, што за кожны дзень затрымкі выдання паліграфкамбінат спаганяе з БелЭН вялікія штрафныя сумы. Ёсць падставы меркаваць, што да рукапісаў 4—6 тамоў ЭГБ, а таксама гістарычных артыкулаў 18-томнай Беларускай універсальнай энцыклапедыі (БУЭ) новае кіраўніцтва БелЭН прад'явіць свае канцэптуальныя патрабаванні ў поўнай меры і ў самай жорсткай форме.

Рэалізацыя іх адкіне нашу гістарыяграфію на дзесяцігоддзі назад і, між іншым, прывядзе да поўнага канцэптуальнага разыходжання з нашымі калегамі ў Расіі і на Украіне, якія ў апошнія гады актыўна пераасэнсоўваюць і распрацоўваюць гісторыю сваіх краін менавіта з нацыянальна-дзяржаўных пазіцый. Рэалізацыя гістарыяграфічных установак П. Ц. Петрыкава—А. А. Філімонава нанясе цяжкі ўдар па працэсу адраджэння гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці беларускага народа, пашкодзіць умацаванню суверэнітэту Рэспублікі Беларусь і яе аўтарытэту ў міжнародным супольніцтве.

**З павагай — члены рэдкалегіі «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі»:** ***Міхась БІЧ, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, доктар гістарычных навук; Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ, загадчык кафедры Беларускага універсітэта культуры, доктар гістарычных навук, прафесар; Мікола ЕРМАЛОВІЧ, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь; Міхась КАСЦЮК, дырэктар Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі, член-карэспандэнт АН РБ; Генадзь КІСЯЛЁЎ, галоўны навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры Акадэміі навук РБ, доктар філалагічных навук, кандыдат гістарычных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь; Уладзімір КОНАН, загадчык аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, доктар філасофскіх навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь; Адам МАЛЬДЗІС, дырэктар Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны, доктар філалагічных навук, прафесар, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі РБ; Віталь СКАЛАБАН, намеснік дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, кандыдат гістарычных навук; Георгій ШТЫХАЎ, загадчык аддзела Інстытута гісторыі Акадэміі навук РБ, доктар гістарычных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь.***

***Генадзь ПАШКОЎ:***

# «Энцыклапедыя — не палігон для палітычных тусовак...»

***У апошнія гады трагічныя недарэчнасці скідваюць з капітанскага мосціка аднаго за другім кіраўнікоў выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» — Міхася Ткачова, а пасля і Барыса Сачанку. Кожная смерць — балючая, горкая страта. Найперш — для родных, блізкіх. Тое, што не стала сярод нас двух апантаных энцыклапедыстаў-кніжнікаў, — вялікая страта і для грамадскасці, калектыву навукова-даследчыцкага выдавецтва, яго аўтарскага актыву. Памёр Міхась Ткачоў — здавалася, не выйдзе ніводнага тома «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Прыйшоў Барыс Сачанка — энцыклапедычны карабель з той жа хуткасцю, энергічнасцю прарываўся праз хвалі і рыфы гістарычнага мора-акіяна. Калектыў загарэўся новымі ідэямі, праектамі. Ды толькі і Барысу Іванавічу нядоўга было суджана працаваць на энцыклапедычнай ніве. Сёння ў выдавецтва новы кіраўнік — Пашкоў Генадзь Пятровіч. Паэт, публіцыст. Да нядаўняга часу — галоўны рэдактар «Цэнтральнай газеты». Прыход Пашкова ў выдавецтва выклікаў асобныя крыватолкі. Паспрыяла ўсялякага роду размовам і наступная акалічнасць: не з'явіліся ў пару даўно абяцаныя чытачу трэці том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» і першы том «Беларускай Энцыклапедыі».***

***«Звязда» даўно мела намер распытаць непасрэдна Генадзя Пятровіча. Ды размова ўвесь час адкладвалася. З выхадам у свет першай кнігі 18-томнай універсальнай энцыклапедыі галоўны рэдактар «Беларускай энцыклапедыі» Генадзь Пашкоў згадзіўся адказаць на шэраг нашых пытанняў.***

**— Генадзь Пятровіч, давайце пачнём дыялог усё ж такі са спробы адказаць на рэакцыю пэўных колаў грамадства, адносна затрымкі доўгачаканых энцыклапедычных тамоў...**

— Ведаеце, хацеў бы пачаць адказваць на ваша, а магчыма і вашых чытачоў, прамалінейнае, мусіць, як вам падаецца, пытанне з высвятлення адной трывіяльнай у дадзеным выпадку ісціны. Што ёсць энцыклапедыя? Калі, у якіх выпадках вы звяртаецеся да яе? Відаць, у пошуках праўды. Тады як трэба расставіць усе кропкі над «і»? На энцыклапедычных старонках павінны прысутнічаць аб'ектыўнасць, факты, дакументы. Словам, паменей эмоцый, паболей праўды. А часам здараецца, што на старонкі энцыклапедыі трапляюць рэчы маладаследаваныя, выкладзеныя таропкім пісьмом. Але ж, прабачце, выданне, разлічанае на дзесяцігоддзі, — гэта не газета-аднадзёнка. Па энцыклапедыі нашы дзеці і ўнукі будуць не толькі меркаваць пра наш час, але ж будуць і цытаваць нашы памылкі. Вось вам прыклад з Радаславам Астроўскім. Вы ведаеце, хто гэта?

**— Чаму ж не. Зараз імя гэтае адкрыта, вядома не толькі дасведчанаму чытачу, але і шырокаму колу. Можна нават працытаваць па той жа «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», першы том якой — на вашым рабочым стале...**

— Але ж там Астроўскі выпісаны ледзь не як нацыянальны герой. І вельмі сціпла, лаканічна: «...калабарцыяніст у гады Вялікай Айчыннай вайны». І гэта вы лічыце нармальным? Гэта ж толькі палова праўды пра апантанага пасобніка фашыстаў. Радаслаў Астроўскі не толькі служыў у Дзянікіна...

**— Пра гэта ж якраз сказана ў энцыклапедыі.**

— Затое не гаворыцца пра супрацоўніцтва Радаслава Астроўскага з АДПУ (здаецца, ці не да 1927 года), з польскай дэфензівай. Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай рады быў у самым непасрэдным кантакце і з СД. Фашысты меркавалі пры ўмове сваёй перамогі прызначыць Астроўскага бургамістрам Масквы...

**— І аб тым ёсць дакументальныя сведчанні?**

— Так. Аб гэтым напісана ў адной з кніг, выдадзеных у Англіі. Але ж, каб унесці надалей праўкі, мы шукаем дакументы ў архівах.

**— Генадзь Пятровіч, але ж, паколькі спыніліся на Астроўскім, не магу не заўважыць, што тая — часоў дванаццацітомнай «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» — практыка, прыводзіла да таго, што многія імёны былі наўмысна абыдзены ўвагай, зусім не ўзгадваліся.**

— Дык і я ж за тое, каб пісаць пра ўсіх. Але — толькі праўду. Супрацоўнічалі з фашыстамі — значыць так і пісаць.

**— Дарэчы, мы як быццам згубілі пачатак нашай размовы. Вы ўсё ж, прыйшоўшы ў выдавецтва, затрымалі два энцыклапедычныя выданні?**

— А што б вы рабілі на маім месцы? Толькі прызначылі мяне на пасаду, як праз колькі дзён павінен буду падпісваць кнігу ў свет. Дык што, падпісваць не чытаючы? Вядома ж, ніводзін разважлівы рэдактар такога не зробіць. Уважліва азнаёміўся са зместам. Выказаў літаральна некалькі заўваг. Усе яны, заўважу, былі ўзгоднены з аўтарамі.

**— Гавораць, што вось гэтыя затрымкі ўдарылі па кішэні выдавецтва, што вам трэба літаральна за кожны дзень плаціць паліграфічнаму прадпрыемству няўстойку...**

— Лухта. Ніякіх штрафных санкцый да выдавецтва не было. Ідзе нармальны вытворча-тэхналагічны працэс.

**— Генадзь Пятровіч, група вучоных-гісторыкаў, літаратуразнаўцаў распаўсюдзіла заяву, у якой вас абвінавачваюць у расправе над рэдкалегіяй «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі».**

— Шаноўныя навукоўцы памыляюцца. Я падрыхтаваў ліст аднаму з іх — дырэктару Інстытута гісторыі Акадэміі навук Беларусі Міхаілу Паўлавічу Касцюку. Копіі ж гэтага ліста будуць адасланы ўсім «падпісантам». Па-першае, калі размова ідзе пра трэці том «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», то ніхто афіцыйна нікога не выключаў з саставу рэдкалегіі. Як і не ўключаў афіцыйна ў яе састаў. Загада аб зацвярджэнні рэдкалегіі на ўсе шэсць тамоў у выдавецтве няма. Ёсць толькі загад на першы том канкрэтна. Не было загада і на другі том. Не зацвярджалі і рэдкалегію трэцяга тома.

**— Прабачце, але ж людзі працавалі, чыталі так званыя макеты.**

— Але гэта рабілі і навуковыя кансультанты. Ды ўсё ж справа, безумоўна, не ў гэтым. Дарэмна аўтары ліста перажываюць. Іх прозвішчы будуць пазначаны ў кнізе.

**— Толькі ж гісторыкаў турбуе і вось што яшчэ. У іх кладваецца ўражанне, што адных вы збіраецеся пасунуць, адштурхнуць ад працэсу фарміравання энцыклапедычнай ісціны, а на змену вядомым у гістарычнай навуцы імёнам прыходзяць спадары Петрыкаў, прызначаны вашым першым намеснікам, і Філімонаў. Аўтары заявы пераконваюць, што якраз яны — Петрыкаў і Філімонаў выступаюць супраць многіх напрацовак у айчыннай гістарычнай навуцы апошніх гадоў.**

— Прызнацца, я не хацеў бы пераходзіць увогуле на імёны. Ды справа фактычна не ў імёнах. Яны — аўтары пататычных, узнёслых артыкулаў пра БНР і БНФ — навідавоку. Ды толькі хто

**(Заканчэнне на 9-й стар.).**

# «ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ — НЕ ПАЛІГОН ДЛЯ ПАЛІТЫЧНЫХ ТУСОВАК...»

**(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.).**

сказаў, што ісціна, выкладзеная ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры, з'яўляецца сапраўднай? Паважаныя спадары Біч, Грыцкевіч, Ермаловіч, Касцюк, Кісялёў, Конан, Мальдзіс, Скалабан, Штыхаў пра Петрыкава і Філімонава, іх аднадумцаў безапеляцыйна заяўляюць: «...якія ўжо даўно не займаюцца практычна навукова-даследчай дзейнасцю, усяляк дамагаюцца вярнуць беларускую гістарыяграфію на антынацыянальныя па іх сутнасці пазіцыі — да высноў і ацэнак расійскіх дваранска-манархічных гісторыкаў, ідэй «западнорусизма», спалучаных з класавым камуністычна-партыйным падыходам». Ці не пачынаецца старая гульня, у якой знаходзяцца ігракі, якія жадаюць даказаць, што яны большыя беларусы, чым усе астатнія. Гэта што — манаполія на нацыянальную свядомасць?

Чытачу, думаю, не лішне будзе ведаць, што Пётр Ціханавіч Петрыкаў яшчэ ў 1973 годзе абараніў доктарскую дысертацыю, у 1977 годзе быў абраны членам-карэспандэнтам Акадэміі навук. У 1975 годзе яго прызначылі дырэктарам Інстытута гісторыі. Якраз Пётр Ціханавіч — адзін з аўтараў і рэдактараў «Гісторыі Беларускай ССР» у 5-ці тамах. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Чалавек ён эрудзіраваны, актыўны

Ды і Філімонаў Аляксандр Андрэевіч — зусім не радавое імя ў беларускай гісторыі. Ён жа доктар гістарычных навук, ды і не толькі. Філімонаў — Герой Савецкага Саюза. А ў нас, як вядома, шмат клопатаў з асвятленнем перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

**— Пытаючыся пра іншых, высвятляючы ваш пункт гледжання на гістарычную энцыклапедыю, мы неяк і забыліся пра галоўную для выдавецтва падзею апошніх дзён — першы том 18-томнай універсальнай «Беларускай Энцыклапедыі». Як хутка прыйдуць да чытача другі, трэці тамы?**

— Мяркуем, што сёлета выдадзім і другі том «Беларускай энцыклапедыі». На чарзе наступныя тамы «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Спадзяюся, што затрымак не будзе. Ды і, вяртаючыся да ўжо сказанага, усё ж заўважу, што папярэднія затрымкі, якія выклікалі хвалю беспадстаўнага абурэння, зроблены зусім не па маёй асабістай віне. Бо тыя кнігі павінны былі выйсці яшчэ ў мінулым годзе, калі я нават не здагадваўся пра сваё будучае прызначэнне. Звяртаюся да аўтараў: паболей аб'ектыўнасці. Паболей праўды дакументальнай, а не суб'ектыўнай. Нашпігаваўшы той жа трэці том гістарычнай энцыклапедыі тэрмінамі накшталт «русіфікацыя», сёй-той з гісторыкаў, як ні дзіўна, задае энцыклапедычнай лаканічнасці эмацыянальна-палітычны запал. Я асабіста супраць гэтага. Згодзен, трэба і пра Аршанскую і іншыя бітвы пісаць. Але ж не як пра змаганне рускіх і беларусаў, не як пра варажнечу простага люду.

**— Ваша інтэрв'ю для «Звязды» — першае на новай пасадзе. Таму, відаць, лагічна было б пагаварыць і ўвогуле пра планы работы беларускіх энцыклапедыстаў. Якіх выданняў чакаць чытачу, акрамя ўжо вядомых, згаданых, раней запланаваных?**

— Як толькі завершым працу над усімі шасцю тамамі «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», мяркуем падрыхтаваць двухтомны энцыклапедычны гістарычны даведнік. Пастараемся выкласці гісторыю краіны ў больш сціслым памеры, з разлікам на больш шырокае кола чытачоў.

Увогуле, планаў багата. Толькі б ажыццявіць іх. Хочацца, напрыклад, падарыць чытачам шматтомнае энцыклапедычнае выданне «Гарады і вёскі Беларусі». Уявіце, якой цікавай можа атрымацца гэтая гісторыка-краязнаўчая серыя — гэтакая свайго роду біяграфія кожнага беларускага паселішча! Хіба ж не павінна падобную скарбонку мець кожная дзяржава, кожная зямля? Дарэчы, рукапісы некалькіх тамоў у нас ужо ёсць. Мы ж яшчэ не выдалі і энцыклапедычныя даведнікі па многіх асобных галінах дзейнасці, па многіх накірунках. Хіба не будуць цікавымі і карыснымі энцыклапедыі-аднатомнікі пра лес, торф, лён і г. д. Мала, лічу, энцыклапедычнай літаратуры для дзяцей. Трэба, каб дзеці з малых гадоў мелі магчымасць карыстацца даведачнай літаратурай. Гэта пашырыць іх кругагляд, узбагаціць духоўна, дапаможа нацыянальна самаўсвядоміць сябе ў вялікім свеце, паглядзець на гэты свет праз прызму нацыянальнай энцыклапедыі.

Багата ў нас яшчэ помнікаў старажытнай культуры, арыгіналы якіх знаходзяцца па-за межамі Беларусі і недаступныя для большасці суайчыннікаў. Тут дапамогуць нашы факсімільныя выданні. Вядомы, дасведчаны гісторык і мастак Віктар Шматаў прапануе выдаць энцыклапедычную гісторыю старажытнага беларускага мастацтва. Ёсць ужо і рукапіс мяркуемага выдання.

На перспектыву разлічана і такая наша задумка — для кожнага горада стварыць сваю энцыклапедыю.

**— Але ж усе раёны працуюць над кнігамі з цыкла «Памяць»...**

— Энцыклапедыі гарадоў будуць адрозніваца. Там не абавязкова, напрыклад, змяшчаць мартыралогі, публіцыстычныя артыкулы. Гэта будуць па зместу, па стылю выкладання выключна энцыклапедычныя выданні.

**— Калі б вас папрасілі лаканічна, строга акрэслена сфармуляваць, на ваш погляд, галоўную задачу энцыклапедычнага выдавецтва...**

— Вядома ж, я тут не буду арыгінальны. Наша задача — несці людзям асвету ў шырокім плане. Але заўважу і наступнае. Энцыклапедыя не павінна раз'ядноўваць людзей, не павінна праектаваць чарговыя «гарачыя кропкі». Энцыклапедыя павінна аб'ядноўваць. Нашы выданні — не палігон для розных палітычных тусовак. Ахвота падыскутаваць? Для гэтага ёсць шматгалосая газетная перыёдыка. І ўвогуле, нельга прыватызоўваць усю гістарычную навуку. І састаў рэдкалегіі трэба таксама пашыраць. Звярніце ўвагу на састаў рэдкалегій тых жа часопісаў гістарычнай тэматыкі. Часта там адны і тыя ж прозвішчы.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

***АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ***

## ТЫ МНЕ ВЯСНОЮ ПРЫСНІЛАСЯ

...і ў душу закрадваецца трывожна-таямнічае трымценне, спакваля абуджаецца неадольная цяга быць побач з каханаю асобаю, разам з ёю марыць, размаўляць, дзейнічаць.

Гэта песня пра юнацкае каханне, імклівае, безабароннае, якое выпраменьвае даверлівую радасць, асвятляе навакольную прастору шчырасцю, шчасцем.

Гэта песня-ўспамін...

...і «Песняры» з творчым натхненнем перадаюць атмасферу закаханасці, спяваюць у той танальнасці, якая ідзе ад тэксту, музыкі. Стрымана, часам нават прыглушана, з трапяткой трывогаю, выконваюць яны песню, тым самым далікатна і вельмі беражліва ўзнаўляюць пачуцці закаханых. Нібы калыханка, гучаць словы, ільецца страсная, з адценнем элегічнасці мелодыя — падтрымліваецца народжанае пачуццё, якое ў душы то цепліцца вугольчыкам, то час ад часу ўспыхвае яркім полымем.

Тэкст і мелодыя песні арганічна паядналыя. Пачуццё, якое натхніла паэта і выявілася ў мастацкіх радках, перадалося кампазітару, напоўніла яго стваральнай сілай.

Песня «Ты мне вясною прыснілася» ўзнікла на пачатку 60-х гадоў. Як прыгадвае паэт Міхась Шушкевіч, на той час ён, выпускнік універсітэта, быў па-юнацку закаханы ў супрацоўніцу турыстычнага бюро. Паланілі яе агністы позірк, смеласць думкі. Аднойчы ён праводзіў дзяўчыну дамоў. Хацелася доўга блукаць па мінскіх вулках, слухаць яе расказ пра экскурсіі, працоўныя прыгоды. На душы было светла і хораша. Прагнуў сказаць міламу стварэнню чароўныя словы прызнання, але новыя тэмпы размовы перапынялі ход яго думак — і ўсё адкладвалася на пазней, на другі раз...

Закаханы заўсёды адчувае сябе чараўніком. Пачуццё замілаванасці пабуджае да дзеяння, яно шукае разнастайныя сродкі для свайго пераўвасаблення. Звычайна пішуць вершы. Так здарылася і ў гэты вечар. Пакуль Міхась дайшоў да кватэры, якую здымаў за Камароўкай, на вуліцы Беламорскай, склаўся верш.

Юрый Семяняка, з якім малады паэт падтрымліваў творчыя адносіны і ўжо раней напісаў песню «Помні, дружа любімы», папрасіў лірычны тэкст. Міхась не хацеў аддаваць сваё, вельмі асабістае, аднак пасля настойлівай просьбы перадаў новы верш. Праз дзень кампазітар паведаміў пра напісаны вакальны твор.

Песня спадабалася. Хутка яна ўвайшла ў рэпертуар «Песняроў», загучала па радыё. Тэкст перакладзены на рускую мову і змешчаны ў спеўніку «Сердце поет» (1966). Твор запісаны на грамплацінку (аднак на ёй было памылкова пазначана: «Словы М. Багдановіча»; сябрам паэта давялося выступаць перад фірмай «Мелодыя», каб аднавіць справядлівасць). Кожны з выканаўцаў пасвойму ўспрымае гэтую песню, імкнецца суаднесці яе з перажытым, таму замест «ночка купальская» некаторыя спяваюць «ночка купальная» — і перыяд хвалюючых стрэчаў, спатканняў пашыраецца (у такім варыянце яна пададзена ў зборніку «Песні роднага краю», 1972). У 1991 г. паэт замяніў апошнія два радкі («Ты мая доля спагадная, І не шкадую ні мала я») — і песня набыла рысы старадаўняга раманса.

...Другога выпадку для прызнання не надарылася... Пачуццё, якое паланіла паэта, — перапоўніла кампазітара, ахапіла «Песняроў» і з чароўнай сілаю перадаецца ўсім, хто дакранаецца да песні. Энергія, якая ўзнікае падчас кахання, дзівосна трансфармуецца, прадаўжае дзейнічаць, асвятляць у памяці непаўторныя моманты стрэчаў, ростаняў, разлук. Міжволі на гэты конт прыгадваюцца тургенеўскія радкі з аповесці «Ася», якія дапамагаюць вытлумачыць сутнасць узаемаадносінаў: «У шчасця няма заўтрашняга дня; у яго няма і ўчарашняга; яно не помніць мінулага, не думае пра будучыню; у яго ёсць сучаснае — і то не дзень, а імгненні».

Беражыце імгненні!

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*Верш Міхася ШУШКЕВІЧА* *Музыка Юрыя СЕМЯНЯКІ*

Летняя ночка купальская
Яснай растаяла знічкаю.
Падаюць зоркі світальныя
Ў чыстыя воды крынічныя.

Ой ты, дзяўчыначка мілая,
Як жа ты свет упрыгожыла!
Ластаўка ты лёгкакрылая,
Светлы мой сон растрывожыла.

Ты мне вясною прыснілася,
Неразгаданымі чарамі.
Сэрца парыўна забілася
Вольнымі крыламі-марамі.

Пэўна, цябе, ненаглядная,
Стрэў я часінай удалаю.
Доля мая ты спагадная,
Радасць мая небывалая.

## (36,6°) ЗДАРОЎЕ — ПРАЗ ПАЛЬЦЫ РУК

**Выцягніце руку наперад. Павярніце далонь так, каб яна «глядзела» на вас. У думках развярніце вялікі палец на 180 уверх, да кісці. Вось і выйшаў чалавечак! І сапраўды, не трэба валодаць вялікай фантазіяй, каб угледзець: вялікі палец нагадвае галаву і шыю, другі і пяты — рукі, трэці і чацвёрты — ногі, а сама далонь — тулава з усімі ўнутранымі органамі. Па ўяўленнях мудрых лекараў Старажытнага Усходу, кісць (як і ступня) — месца канцэнтрацыі жыццёвай энергіі. Значыць, пэўным чынам уздзейнічаючы на далонь, гэту энергію можна стымуляваць, пераразмяркоўваць у арганізме, ачышчаць яго і такім чынам падтрымаць або вярнуць здароўе. Можа, і асаблівыя прыктыкаванні варта для далоні прыдумаць? А навошта прыдумваць? Усё новае — добра забытае старое. Вось яшчэ адно таму пацвярджэнне: мудры — практыкаванні для пальцаў рук рабілі ёгі ў Старажытнай Індыі. Складваючы, пераплятаючы пальцы пэўным чынам, яны аднаўлялі, мадэліравалі розныя позы цела (такая своеасаблівая «ручная» хатха-ёга ў мініяцюры) і доўгія-доўгія гады захоўвалі выдатнае здароўе, прычым не толькі фізічнае, але і духоўнае. Можа, і нам варта паспрабаваць на сабе лекавае ўздзеянне старажытных мудр? Для выканання іх не трэба нічога, акрамя добрага, спакойнага настрою і настрою на канчатковы вынік.**

**Выконвайце мудры абедзвюма рукамі, без напружання мышцаў, не прыкладаючы асаблівых намаганняў. Працягласць заняткаў — каля 40 хвілін, калі хочаце, разбіце іх на 15—20-хвілінныя цыклы. Займацца можна седзячы перад тэлевізарам, гутарачы ў кампаніі, на прагулцы. Але эфект будзе значна лепшы, калі вы адмовіцеся ад усіх праблем, сканцэнтруецеся на тым, што робіце, — на адчуваннях у кончыках пальцаў. Калі адчуеце ў іх прыемнае цяпло або лёгкае пакалванне, пераходзьце да наступнай фігуры-мудры. Набярыцеся цярпення. Пры хранічных захворваннях вынік можа з'явіцца праз некалькі тыдняў, пры вострым стане — ад некалькіх гадзін да некалькіх дзён. Памятайце: моцныя эмоцыі, асабліва калі яны адмоўныя, могуць прывесці да хвароб. Тут ужо і мудры не дапамогуць. Калі той, хто займаецца гэтымі практыкаваннямі, напрыклад, часта ўпадае ў гнеў ці сумуе, эфект ад заняткаў прыметна зніжаецца. Усе пажадаўшыя атрымаць здароўе праз пальцы рук павінны духоўна ўдаскальвацца — гэта нялёгкая, але высакародная праца. Існуе і зваротная сувязь: практыкаванні дапамагаюць духоўнаму станаўленню. Спачатку асвойце мудры, якія дабратворна ўдзейнічаюць на ўвесь арганізм, а затым пераходзьце да іншых практыкаванняў.**

### АГУЛЬНАЕ ЎЗДЗЕЯННЕ НА АРГАНІЗМ

#### *1. Мудра «жыцця»*



Карысная пры хуткай стамляльнасці. Паляпшае вастрыню зроку, лечыць хваробы вачэй. Выраўноўвае энергетычны патэнцыял усяго арганізма, паляпшае самаадчуванне, павышае жыццёвыя сілы, працаздольнасць, дае бадзёрасць і вынослівасць.

Падушачкі безыменных пальцаў злучаем разам, а астатнія свабодна выпрастаныя.

#### *2. Мудра «энергіі»*



Паказана пры захворваннях мочапалавой сістэмы і пазваночніка, павышае энергетычны патэнцыял, ачышчае арганізм ад таксінаў. Падушачкі сярэдняга, безыменнага і вялікага пальцаў злучаем разам, астатнія пальцы выпроставаем.

#### *3. «Тры калоны космаса»*



Абнаўляе сілы, аднаўляе абменныя працэсы, павышае імунітэт.

Сярэдні і безыменны пальцы правай рукі накладваем упоперак на адпаведныя пальцы левай. Тыльным бокам левага мезенца прыціскаем аснову тыльнай паверхні правага сярэдняга і безыменнага пальцаў. Правым мезенцам фіксуем гэту фігуру (прыціскаем кончык левага мезенца). Канцавую фалангу правага ўказальнага пальца заціскаем паміж левымі вялікім і ўказальным пальцамі.

#### *4. «Чарапаха»*



Дапамагае пры астэніі, перанапружанні, парушэннях дзейнасці сардэчна-сасудзістай сістэмы. Захоўвае энергію, павышае жыццёвы тонус. Пальцы правай рукі пераплятаем з пальцамі левай. Вялікія пальцы абедзвюх рук злучаем.

### ЗАХВОРВАННІ ДЫХАЛЬНАЙ СІСТЭМЫ

#### *5. «Ракавіна»*



Паказана пры ўсіх захворваннях горла, гартані. Выкананне гэтай мудры ўзмацняе голас, таму асабліва рэкамендуецца спевакам, артыстам, настаўнікам.

Чатырма пальцамі правай рукі абхопліваем левы вялікі палец. Падушачкі правага вялікага і левага сярэдняга пальца датыкаюцца.

#### *6. «Уздымаючая»*



Дапамагае пазбавіцца ад прастудных захворванняў, хвароб горла, запалення лёгкіх, кашлю, насмарку, гаймарыту. Мабілізуе ахоўныя сілы арганізма, павышае імунітэт і садзейнічае хуткаму выздараўленню.

Адначасова з выкананнем гэтай мудры трэба захоўваць такую дыету: на працягу дня выпіваць не менш як 8 шклянак цёплай гатаванай вады, абмежавацца садавінай, рысам, сыраквашай.

Абедзве далоні злучаем разам, пальцы скрыжоўваем паміж сабой. Вялікі палец (адной з рук) пакінуты і акружаны ўказальным і вялікімі пальцам другой рукі.

Увага! Вельмі доўгае і частае выкарыстанне гэтай мудры можа выклікаць апатыю.

#### *7. «Галава дракона»*



Садзейнічае прафілактыцы і лячэнню прастудных захворванняў, хвароб лёгкіх, верхніх дыхальных шляхоў і насаглоткі.

Правым сярэднім пальцам абхопліваем і прыціскаем канцавую фалангу ўказальнага пальца той жа рукі.

Аналагічную камбінацыю выконваем пальцамі левай рукі. Далей вялікія пальцы абедзвюх рук злучаем бакавымі паверхнямі. Астатнія пальцы скрыжоўваем паміж сабой.

#### *8. Мудра «неба»*



Бывае выратавальнай пры зніжэнні слыху, захворвання вушэй.

Выкананне гэтай мудры ў некаторых выпадках вельмі хутка паляпшае слых.

Падушачкай сярэдняга пальца датыкаемся да асновы вялікага, а вялікім пальцам прыціскаем сагнуты сярэдні. Астатнія пальцы выпрастаны і не напружаны.

**О. АНІСІМАЎ, кандыдат медыцынскіх навук, рэфлексатэрапеўт. «Здоровье».**

# МІЖГАРОДНІЯ ТЭЛЕФОННЫЯ КОДЫ

### БРЭСЦКАЯ ВОБЛ

*Брэст ... 8-0162
Баранавічы ... 8-01634
Бяроза ... 8-01643
Ганцавічы ... 8-01646
Драгічын ... 8-01644
Жабінка ... 8-01641
Іванава ... 8-01652
Івацэвічы ... 8-01645
Камянец ... 8-01631
Кобрын ... 8-01642
Лунінец ... 8-01647
Ляхавічы ... 8-01633
Маларыта ... 8-01651
Пінск ... 8-01653
Пружаны ... 8-01632
Столін ... 8-01655

### ВІЦЕБСКАЯ ВОБЛ.

*Віцебск ... 8-02122
... 8-0212
Бешанковічы ... 8-02131
Браслаў ... 8-02153
Верхнядзвінск ... 8-02151
Глыбокае ... 8-02156
Гарадок ... 8-02139
Докшыцы ... 8-02157
Дуброўна ... 8-02137
Лепель ... 8-02132
Лёзна ... 8-02138
Міёры ... 8-02152
Наваполацк ... 8-02144
Полацк ... 8-02144
Орша ... 8-02161
Паставы ... 8-02155
Расоны ... 8-02159
Сянно ... 8-02135
Талачын ... 8-02136
Ушачы ... 8-02158
Чашнікі ... 8-02133
Шаркаўшчына ... 8-02154
Шуміліна ... 8-02130

### ГРОДЗЕНСКАЯ ВОБЛ.

*Гродна ... 8-01522
... 8-0152
Бераставіца ... 8-01511
Ваўкавыск ... 8-01512
Воранава ... 8-01594
Дзятлава ... 8-01563
Зэльва ... 8-01564
Іўе ... 8-01595
Карэлічы ... 8-01596
Ліда ... 8-01561
Масты ... 8-01515
Навагрудак ... 8-01597
Астравец ... 8-01591
Ашмяны ... 8-01593
Свіслач ... 8-01513
Слонім ... 8-01562
Смаргонь ... 8-01592
Шчучын ... 8-01514

### ГОМЕЛЬСКАЯ ВОБЛ.

*Гомель ... 8-02322
... 8-0232
Брагін ... 8-02344
Б.-Кашалёва ... 8-02336
Ветка ... 8-02330
Добруш ... 8-02333
Ельск ... 8-02354
Жыткавічы ... 8-02353
Жлобін ... 8-02334
Калінкавічы ... 8-02345
Карма ... 8-02337
Лельчыцы ... 8-02356
Лоеў ... 8-02347
Мазыр ... 8-02351
Нароўля ... 8-02355
Акцябрскі ... 8-02357
Петрыкаў ... 8-02350
Рэчыца ... 8-02340
Рагачоў ... 8-02339
Светлагорск ... 8-02342
Хойнікі ... 8-02346
Чачэрск ... 8-02332

### МІНСКАЯ ВОБЛ.

Беразіно ... 8-215
Барысаў ... 8-277
Вілейка ... 8-271
Валожын ... 8-272
Дзяржынск ... 8-216
Жодзіна ... 8-275
Клецк ... 8-293
Капыль ... 8-219
Крупкі ... 8-296
Лагойск ... 8-274
Любань ... 8-294
Маладзечна ... 8-273
Мядзель ... 8-297
Нарач ... 8-297
Нясвіж ... 8-270
Плешчаніцы ... 8-279
Пухавічы ... 8-213
Слуцк ... 8-295
Смалявічы ... 8-276
Салігорск ... 8-210
Ст.Дарогі ... 8-292
Стоўбцы ... 8-217
Узда ... 8-218
Чэрвень ... 8-214

### МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛ.

*Магілёў ... 8-0222
Бялынічы ... 8-02232
Бабруйск ... 8-02251
Быхаў ... 8-02231
Глуск ... 8-02230
Горкі ... 8-02233
Дрыбін ... 8-02248
Кіраўск ... 8-02237
Клімавічы ... 8-02244
Клічаў ... 8-02236
Касцюковічы ... 8-02245
Краснаполле ... 8-02238
Крычаў ... 8-02241
Круглае ... 8-02234
Мсціслаў ... 8-02240
Асіповічы ... 8-02235
Слаўгарад ... 8-02246
Хоцімск ... 8-02247
Чавусы ... 8-02242
Чэрыкаў ... 8-02243
Шклоў ... 8-02239

### АЗЕРБАЙДЖАН

*Баку ... 8-8922
Арменія
Ерэван ... 8-8852
Грузія
Сухумі ... 8-88122
Тбілісі ... 8-8832
Казахстан
Алма-Ата ... 8-3272
Аркалык ... 8-33022
Какчэтаў ... 8-31622

### КЫРГЫЗСТАН

Бішкек ... 8-3312

### ЛАТВІЯ

*Рыга ... 8-0132
... 8-013

### ЛІТВА

*Вільнюс ... 8-0122

### МАЛДОВА

*Кішынёў ... 8-0422

### РАСІЯ

*Архангельск ... 8-8182
... 8-818
*Барнаул ... 8-3852
*Бранск ... 8-08322
... 8-0832
Белгарад ... 8-07222
*Уладзікаўказ ... 8-86722
*Уладзімір ... 8-09222
*Волагда ... 8-81722
*Варонеж ... 8-0732
*Грозны ... 8-8712
*Екацярынбург ... 8-3432
Іркуцк ... 8-3952
*Іванава ... 8-0932
... 8-093
*Іжэўск ... 8-3412
*Казань ... 8-8432
*Калінінград ... 8-0112
... 8-011
*Калуга ... 8-0842
... 8-08422
*Кастрама ... 8-09422
... 8-0942
... 8-094
*Краснаярск ... 8-3912
Кіславодск ... 8-86537
Кемерава ... 8-38422
... 8-3842
... 8-384
Курск ... 8-07122
... 8-0712
Кызыл ... 8-39422
*Ліпецк ... 8-0742
*Масква ... 8-095
*Мурманск ... 8-8152
... 8-815
*Н.Ноўгарад ... 8-8312
*Ноўгарад ... 8-81622
*Новасібірск ... 8-3832
... 8-383
Арол ... 8-08622
... 8-0862
*Омск ... 8-38122
... 8-3812
... 8-381
*Перм ... 8-3422
Петразаводск ... 8-81422
*Пскоў ... 8-81122
*Разань ... 8-0912
*Растоў ... 8-8632
*Самара ... 8-8462
*Санкт-Пецярбург ... 8-812
*Саратаў ... 8-84522
... 8-8452
Смаленск ... 8-08122
... 8-0812
Сочы ... 8-8622
*Цвер ... 8-08222
*Цюмень ... 8-3452
*Тула ... 8-0872
*Томск ... 8-3822
*Чэлябінск ... 8-3512
*Чарапавец ... 8-82022
... 8-8202

### ТАДЖЫКІСТАН

Душанбе ... 8-3772
Узбекістан
*Нукус ... 8-36122
*Ташкент ... 8-3712

### УКРАІНА

*Вінніца ... 8-0432
*Данецк ... 8-0622
*Днепрапятроўск ... 8-0562
*Жытомір ... 8-0412
*Запарожжа ... 8-06122
... 8-0612
... 8-061
*Ів.-Франкоўск ... 8-03422
*Кіеў ... 8-044
*Кіраваград ... 8-0522
Крывы Рог ... 8-0564
*Луганск ... 8-0642
*Луцк ... 8-03322
*Львоў ... 8-0322
*Нікалаеў ... 8-0512
*Адэса ... 8-0482
*Палтава ... 8-05322
... 8-0532
*Роўна ... 8-03622
... 8-0362
Севастопаль ... 8-0692
*Сімферопаль ... 8-0652
... 8-065
*Сумы ... 8-0542
*Цярнопаль ... 8-03522
... 8-0352
*Ужгарад ... 8-03122
... 8-0312
... 8-031
*Харкаў ... 8-0572
*Херсон ... 8-05522
... 8-0552
... 8-055
*Хмяльніцкі ... 8-03822
... 8-0382
*Чаркасы ... 8-0472
*Чарнігаў ... 8-04622
... 8-0462
*Чарнаўцы ... 8-03722
Ялта ... 8-0654

### ЭСТОНІЯ

*Талін ... 8-0142
... 8-014

**Праз гэтыя гарады ёсць выхад да райцэнтраў. Даведкі па тэлефоне 053.*

### МІЖНАРОДНЫЯ ТЭЛЕФОННЫЯ КОДЫ:

Аўстрыя ... 8-10-43
Вялікабрытанія ... 8-10-44
Венгрыя ... 8-10-36
Германія ... 8-10-49
Італія ... 8-10-39
Канада ... 8-10-1
Нідэрланды ... 8-10-31
Польшча ... 8-10-48
Сінгапур ... 8-10-65
Славакія ... 8-10-42
Славенія ... 8-10-386
ЗША ... 8-10-1
Фінляндыя ... 8-10-358
Францыя ... 8-10-33
Харватыя ... 8-10-385
Чэхія ... 8-10-42

# Тарыфы на паслугі тэлеграфнай сувязі

*(у бел. рублях)*

| Від паслугі | Грамадзянам | | | Прадпрыемствам | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рэспублікі Беларусь | Азербайджана, Кыргызстана, Туркменістана, Таджыкістана | Астатніх краін | Рэспублікі Беларусь | Азербайджана, Кыргызстана, Туркменістана, Таджыкістана | Астатніх краін |
| Слова звычайнай тэлеграмы | 100 | 2100 | 2000 | 150 | 2100 | 2000 |
| Слова тэрміновай тэлеграмы | 200 | 4200 | 4000 | 300 | 4200 | 4000 |
| Тэлеграфны збор | 200 | 200 | 200 | 250 | 250 | 250 |
| Паведамленне аб уручэнні: | | | | | | |
| звычайнай тэлеграмай | 1700 | - | - | 2500 | - | - |
| тэрміновай тэлеграмай | 3400 | - | - | 4700 | - | - |
| поштай -- заказное | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 | 1200 |
| Тэлеграма «завераная» | 200 | 200 | 200 | 400 | 400 | 400 |
| За атрыманне копіі (поўных або няпоўных сто слоў) | 500 | 500 | 500 | 400 | 400 | 400 |
| Даведка ў адрасным бюро | 400 | 400 | 400 | 500 | 500 | 500 |
| Мастацкі бланк (толькі РБ) | 1400 | - | - | 1400 | - | - |

*Заўвага: 1. Літва, Латвія, Эстонія – 1 слова – 4500 рублёў. 2. Не прымаюцца тэлеграмы з паведамленнем аб уручэнні і аплачаным адказам у краіны Садружнасці Незалежных Дзяржаў (СНД).*

# Тарыфы на паслугі міжгародняй тэлефоннай сувязі

*(у бел.руб.)*

| Напрамак | Тэлефон (1 хвіліна размовы) | Тэлефакс (1 хвіліна перадачы) | Дата змянення тарыфаў |
|---|---|---|---|
| **Мінская вобласць** | 600 | 1200 -- для насельніцтва | 01.03.96 |
| | | 800 -- для арганізацый | 13.03.96 |
| **Іншыя вобласці Беларусі** | 1200 | 2400 -- для насельніцтва | 01.03.96 |
| | | 1600 -- для арганізацый | 13.03.96 |
| **Украіна** | 3900 | 7800 | 05.04.96 |
| **Малдова** | 3900 | 7800 | 05.04.96 |
| **Расія:** | | | |
| **еўрапейская частка** | 5100 | 10200 | 05.04.96 |
| **азіяцкая частка** | 6000 | 12000 | 05.04.96 |
| **Азербайджан** | 5100 | 10200 | 05.04.96 |
| **Арменія** | 4200 | 8400 | 05.04.96 |
| **Грузія** | 4200 | 8400 | 05.04.96 |
| **Казахстан** | 4500 | 9000 | 05.04.96 |
| **Кыргызстан** | 5100 | 10200 | 05.04.96 |
| **Таджыкістан** | 5100 | 10200 | 05.04.96 |
| **Туркменістан** | 5100 | 10200 | 05.04.96 |
| **Узбекістан** | 4500 | 9000 | 05.04.96 |
| **Латвія** | 8000 | 16000 | 16.03.95 |
| **Літва** | 8000 | 16000 | 16.03.95 |
| **Эстонія** | 8000 | 16000 | 16.03.95 |

## ТАРЫФЫ НА ЭЛЕКТРОННУЮ ПОШТУ:

*Прыём/перадача*

Па СНД 0,022$/1000 байтаў
За межы СНД 0,057$/1000 байтаў
Перадача з дыскеты — 1500 руб.
Перадача з клавіятуры — 4200 руб.
Работа за машынай 20 хвілін — 5000 руб.

# ХТО КІМ У СЯМ'І ДАВОДЗІЦЦА?

**Адносіны паміж людзьмі, што заснаваны на паходжанні ад агульнага продка — гэта роднасць, а тыя, што ўзнікаюць у мужа і жонкі да іх родных — сваяцтва. У сучасных сямейных адносінах адрозніваюць роднасць на лініях: прамой (бацькі і дзеці, продкі і нашчадкі), бакавой (браты і сёстры, дзядзькі, цёткі і пляменнікі), узыходнай (ад нашчадкаў да продкаў — напрыклад, унук, сын, бацька, дзед), сыходнай (ад продкаў да нашчадкаў).**

Беларускія назвы кроўнай роднасці на прамой лініі 1-й ступені — бацька (тата), маці (мама, матка), сын, дачка (пазашлюбных дзяцей называлі бастрамі); няпоўнай роднасці паміж мужам (жонкаю) і дзецьмі ад папярэдняга шлюбу жонкі (мужа) — айчым, мачаха, пасынак, падчарыца; усынаўлення — выхаванец, выхаванка (у гаворках — гадаванец, гадаванка, дольнік, дольніца); дзеці мачахі і айчыма лічыліся зводнымі братамі і сёстрамі. 2-й ступені — дзед, баба, унук, унучка. 3-й ступені — прадзед, прабаба, праўнук, праўнучка. 4-й ступені — прапрадзед, прапрабаба, прапраўнук, прапраўнучка. Назвы сваяцтва: муж і жонка, у гаворках таксама стары (старая), дзед (баба), гаспадар (гаспадыня); да слова «муж» сінонімы — мужык, чалавек, да слова «жонка» — маладзіца, дружына, жанчына і інш. Даччын муж — зяць; сынава жонка — нявестка. Мужавы бацькі — свёкар, свякроў (свякруха, свякроўка), жончыны — цешча і цесць; мужаў брат — дзевер, сястра — залоўка (залвіца). Слова «швагер» выражае тры паняцці: сястрын муж, жончын брат, муж жончынай сястры; швагерка — жончына сястра. Братава жонка — братавая, братавыя паміж сабой — ятроўкі; дзядзькава жонка — дзядзіна (цётка). Бацькі мужа і жонкі адзін да аднаго — сваты, мацёры — свацці (свахі). Што тычыцца дзяцей, то яшчэ ў нашых продкаў кожнае з іх (у залежнасці ад сацыяльнага статусу) мела сваё «імя».

Бабіч — дзіця, што нарадзілася ў жанчыны, якая ўжо сама «бабіла» дзяцей, гэта значыць была бабкай-павітухай. Такая з'ява сустракалася рэдка і выклікала кпіны аднавяскоўцаў. Адлюстравана ў некаторых беларускіх казках.

Багданька — імя, якое давалі дзіцяці да таго часу, пакуль яго ахрысцяць у царкве і назавуць «пасапраўднаму». У наш час такі звычай амаль знік.

Бастры — пазашлюбныя дзеці і дзеці ад неасвячоных царквою шлюбаў. Лакальныя назвы — байструкі, банкарты, букарты, крапіўнікі. Нараджэнне бастры лічылася антысацыяльнай з'явай. Згодна са статутамі Вялікага княства Літоўскага яны не мелі амаль ніякіх саслоўных і сацыяльных правоў, уваходзілі ў катэгорыю нявольных сялян. Пэўныя ці абмежаваныя правы маглі атрымаць толькі ў выпадку іх афіцыйнага ўсынаўлення ці за выдатныя заслугі перад грамадствам.

Жытнічкі — дзеці, якія нарадзіліся ў полі ў час жніва без дапамогі бабкі-павітухі.

Кумы, хросныя бацькі — асобы ў радзіннай абраднасці. За кумоў бралі паважаных людзей як з ліку сваякоў, так і чужых. Разам з бабкай кумы адыгрывалі вялікую ролю на радзінах. Кумам прысвечаны шматлікія традыцыйныя радзінныя песні, прыказкі, прымаўкі. Кумы дапамагалі адзін аднаму ў сельскагаспадарчых работах, разам адзначалі святы. Традыцыі кумаўства захоўваюцца. Кумы выконваюць ролю названых бацькоў у сучасным абрадзе ўрачыстай рэгістрацыі нованароджаных.

*Сённяшні выпуск «Інфармбюро» падрыхтавалі*
**Жанна КАТЛЯРОВА, Надзея НІКАЛАЕВА, Сяргей РАСОЛЬКА.**

# АБЛІЧЧА АПАКАЛІПСІСА

## Што абяцаюць сучасныя амерыканскія прадказальнікі ў канцы XX стагоддзя?

Астралогія зноў становіцца папулярнай у ЗША. У продаж паступілі камп'ютэрныя астралагічныя праграмы «Майкрасофта». Вы закладваеце ў камп'ютэр дату, час і месца свайго нараджэння — і на маніторы «выскоквае» ваша будучыня.

**«ЗОРКІ» СЯРОД АСТРОЛАГАЎ**

Сярод амерыканскіх астролагаў з'явіліся свае «зоркі». Напрыклад, Генры Вайнгартэн. Ён кансультуе магнатаў, куды і калі ўкладваць грошы. Вайнгартэн сцвярджае, што на Уол-стрыт з 400 буйнейшых біржавых кампаній 300 выкарыстоўваюць астролагаў. Праўда, яны ніколі не лічацца «астролагамі», каб не бянтэжыць акцыянераў, — толькі «аналітыкамі» і «кансультантамі». «Мільянеры не выкарыстоўваюць астралогію, мільярдэры — выкарыстоўваюць», — гаворыць Вайнгартэн, і яго словы пацвярджаюцца: Морган і Вандэрбільд мелі асабістых астролагаў.

Адміністрацыя Рэйгана, лічаць астролагі, была такой паспяховай, таму што пара Рэйганаў раілася аб кожным кроку са сваім астролагам Джоан Куэйглі. На працягу сямі гадоў усё ішло цудоўна. Калі прадказальніка не паслухаліся наконт даты выступлення прэзідэнта ў вашынгтонскім атэлі «Хілтан», на яго быў зроблены замах.

Франклін і Рэйган далёка не адзіныя кіраўнікі, якія верылі ў астралогію. Гітлер, як толькі ён прыйшоў да ўлады, пасадзіў усіх вядомых германскіх астролагаў (акрамя сваіх «прыдворных»), бо яны прадказвалі крах трэцяга рэйха. Сам ён пастаянна раіўся з астролагамі.

Вось думкі іншых «зорак» амерыканскай астралогіі. Эдвард Хелін: «Мы можам сказаць, хто будзе прэзідэнтам ЗША ў 2000 годзе і пасля. Але гэта не выратуе Амерыку ад разбуральных прыродных катаклізмаў». Рычард Хук: «Я магу прадказаць час смерці любога чалавека. Але гэта — веды, якія чалавеку перашкаджаюць. Можа дапамагчы веданне таго, што, напрыклад, 25 студзеня 2002 года, у аўторак, адбудзецца страшны біржавы крах. А ў пачатку лета 2004 года — вельмі моцны землятрус у Каліфорніі і Нью-Йорку. Плюс паводка ў Тэхасе і Луізіяне, якая пакіне частку гэтых штатаў назаўсёды пад вадой».

**ЗНАЎЦЫ ПСАЛМОЎ**

З астролагамі ў ЗША канкуруюць «прафетолагі Старога Запавету» — спецыялісты па расшыфроўцы прадказанняў, што змешчаны ў Бібліі. Больш за ўсё іх у Псалмах Давіда, напісаных, па сцвярджэнню знаўцаў, спецыяльна як прадказанне «самага страшнага стагоддзя» — нашага, дваццатага стагоддзя. Д. Р. Рычард, аўтар бестселера «Прадказанні Псалтыра», гаворыць: «Гэта кніга ў літаральным сэнсе даведнік па гісторыі XX стагоддзя. Пачынаючы з 1901 года — псалма першага, кожны верш адпавядае чарговаму году».

Псалмы прадказалі ўзыходжанне і крах Гітлера і Садама Хусейна. Псалмы 39—45 прадказалі лёс яўрэйскага народа ў час другой сусветнай вайны. Страшны Псалом 44 дакладна расказаў аб «вогненных печах» канцлагераў — пік «прадукцыйнасці» Асвенцыма і Майданека прыпаў на 1944 год. Псалом 48 — аб вайне 1948 года супраць кааліцыі арабаў за адраджэнне Дзяржавы Ізраіль («сышліся цары... і пусціліся наўцёкі»). Псалом 91 апісвае вайну ў Персідскім заліве ў 1991-м з начнымі абстрэламі Ізраіля іракскімі «Скадамі» («не убоишься ужаса ночи, стрелы летящей...») Псалом 101 — год 2001: «с раннего утра буду истреблять всех нечестивцев земли». Хіба гэта не ўказанне на пачатак Апакаліпсіса ў пачатку новага тысячагоддзя! Але тады канец нашай цывілізацыі павінен выпасці на 2050 год, паколькі ў Бібліі ўсяго 150 псалмоў.

Гэта шакіруюча супадае з датай «апакаліпсіса па Настрадамусу». У 1550 годзе Настрадамус напісаў, што праз 500 гадоў пасля яго прадказанняў будзе вялікі знак. Адпушчаныя 500 гадоў закончацца ў 2050 годзе!

**«ВУСНЫ БОГАМАЦІ»**

Адным з самых вядомых прадказальнікаў Амерыкі канца XX стагоддзя стала Марыя Эсперанза, хатняя гаспадыня з Венесуэлы, сапраўдная каталічка, «кантакцёр» з Дзевай Марыяй. Яе называюць «вуснамі Богамаці». У абедзвюх Амерыках яна больш вядома, чым Ванга ва Усходняй Еўропе. Апошнія трыццаць гадоў яе прадказанні супадалі на сто працэнтаў. Яна прадказала вайну ў Персідскім заліве, катастрофу касмічнага карабля «Чэленджэр», тэрарыстычную атаку на сусветны гандлёвы цэнтр у Нью-Йорку, дакладныя даты смерці папярэдніх трох рымскіх пап. Богамаці сказала ёй, што надыходзячыя гады — рашаючыя для планеты, што мы можам апынуцца на мяжы глабальнай вайны, якую развяжа Расія або якая-небудзь з яе былых рэспублік; што з'явіцца новы вірус, страшнейшы за СНІД, які будзе забіваць за некалькі дзён, а не гадоў. Але ў канцы гэтага перыяду пакут, сцвярджае Эсперанза (і ў гэтым яна супадае з «прадказальнікамі псалмоў» і Настрадамусам) чалавецтва чакае эпоха шчасця і духоўнага адраджэння.

**ПРАДКАЗАЛЬНІК ОСІП**

У Бібліі ёсць прадказальнік Осія. У Амерыцы — прадказальнік Осіп, сапраўдны католік, які жыве ў Таронта. Пра яго напісаны бестселер Майкла Брауна «Труба Гаўрыіла». Гэта ўкраінец Осіп Тэрэля — палітэмігрант з СССР, пакутнік. Ён быў актывістам украінскага каталіцкага праваахоўнага руху; 23 гады правёў у савецкіх турмах (з іх 9 гадоў — у адзіночцы). Зусім неверагодным чынам ён ажыццявіў дзевяць уцёкаў з турмаў і калоній узмоцненага рэжыму. Тры разы яго спрабавалі забіць у зняволенні. Майкл Браун апісвае, як Осіпа распранулі і пасадзілі ў так званую маразільную камеру. Ад холаду вейкі Осіпа змерзліся, і ён не мог адкрыць вачэй. Ён пачаў маліцца Богамаці і развітвацца з жыццём. І раптам камера напоўнілася святлом, і перад ім паўстала жанчына, апранутая ў асляпляльны, саграваючы яго паток святла. Яна пачала прадказваць: расказала аб будучай страшнай вайне і паказала карту Расіі ў кольцы сполахаў агню. Ачагі — на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, Прыбалтыцы і па ўсяму Далёкаму Усходу, дзе праціўнікам будзе Кітай. Прадказала, што лідэр Расіі па імені Уладзімір развяжа вайну з Ізраілем. Яна сказала, што ў выніку землятрусу Каліфорнія будзе амаль поўнасцю разбурана.

Тэрэлю пасадзілі ў турэмную псіхушку. Там Богамаці пачала з'яўляцца Осіпу пастаянна — ён тайна запісваў яе прадказанні. Нарэшце, у самым пачатку перабудовы, пасля шматлікіх просьбаў прэзідэнтаў Рэйгана і Мітэрана, якія ведалі пра лёс украінскага праваабаронцы, Тэрэлю выслалі з Расіі. У Амерыцы прадказальны дар Тэрэлі ацанілі адразу. Ён выступае перад кангрэсам ЗША, яго прымалі ў Белым доме, Пентагоне, ЦРУ. Яго прадказанні на 100 працэнтаў супадалі з сакрэтнымі прагнозамі разведкі. Папа рымскі правёў з ім 36 аўдыенцый... Пасля ўсіх будучых катаклізмаў Тэрэля таксама бачыць «залаты век».

**ПРАРОЦТВЫ СЕЙСМОЛАГАЎ**

Гібель Каліфорніі і Нью-Йорка ў выніку землятрусу прадказваюць усе — ад Настрадамуса, які бачыў «вежы Новага Горада, якія рушыліся», да прапаведніка-евангеліста Білі Грэма, што называў Галівуд і Уолстрыт «Садомам і Гаморай». Вучоныя-сейсмолагі пацвярджаюць: у хуткім часе адбудзецца актывізацыя «вогненнага кольца» — тэктанічнага разлому, які праходзіць пад Ціхім акіянам, захопліваючы рускі Далёкі Усход, Японію, паўночны ўсход Аўстраліі і заходнія ўзбярэжжы Амерык.

Гордан-Майкл Скальён, вядучы сусветны эксперт па землятрусах, прафесар-сейсмолаг і адначасова празорца, заяўляе: «Тое, што нас чакае, не апісаць інакш, як катастрофу: актывізацыя вогненнага кольца ўзрушыць усю Зямлю. Разломы, лава і патоп зусім перакрояць аблічча планеты. У выніку землятрусу зменяцца магнітныя палі Зямлі і, адпаведна, — яе клімат. Ледавіковы перыяд у свой час наступіў гэтак жа: перамяніліся магнітныя палі з-за бамбардзіроўкі Зямлі метэарытамі. Але цяпер вынікам катаклізму стане глабальнае пацяпленне: там, дзе было холадна, стане горача: арктычны лёд растае і паплыве на поўдзень. Голад пагражае Расіі, Кітаю і Злучаным Штатам...

Аднак упершыню гэтыя прадказанні былі зроблены за дзве тысячы гадоў да Скальёна. У Бібліі гаворыцца аб «трох днях цемры», «хрышчэнні і ачышчэнні агнём». Скальён прадбачыць гэтыя з'явы: выкід попелу з новых вулканаў на тры дні можа схаваць Сонца, а вогненныя рэкі лавы здольны спаліць цэлыя гарады. На чацвёрты дзень землятрусу чалавецтва ўбачыць уваскрашэнне даўно загінуўшых кантынентаў: Атлантыда зноў выйдзе з вады, а Каліфорнія, наадварот, пойдзе пад ваду. Пры гэтым Скальён упэўнены, што катаклізм не разбурыць нашу цывілізацыю, але ўмацуе яе: «Зямля ператворыцца ў значна лепшае месца для жыцця, катастрофа будзе садзейнічаць міру і аб'яднанню людзей».

**Дзмітрый РАДЫШЭЎСКІ.**

«Московские новости».

# УСХОДНІ ГАРАСКОП

## на наступны тыдзень

КАЗЯРОГ можа ў гэтыя дні недаацаніць зробленую яму дзелавую прапанову. Між тым у гэтыя дні існуе магчымасць атрымання чакаемага прыбытку. Моцная прыхільнасць можа адбіцца на здароўі. Калі пачалі паўнець, то звярніцеся да спецыялістаў за кансультацыяй. Пазбягайце новых дзелавых партнёраў, яны могуць падвесці.

ВАДАЛЕЮ не трэба даваць праціўніку магчымасці зрабіць выгадны ход. Трэба будзе зрабіць цяжкі выбар, звязаны з фінансамі. Тыдзень спрыяльны для жанчын, якія могуць спадзявацца на павышэнне па службе. Дома магчыма ўскладненне адносінаў, прычына гэтаму — ваша запальчывасць.

Дастаткова ўдачны гэты тыдзень для РЫБ, якія могуць разлічваць на заступніцтва зорак. Атрыманы прыбытак ад здзелкі астролагі раяць ператварыць у наяўнасць. Вы чыстасардэчныя і ствараеце вакол сябе атмасферу даверу і ўзаемаразумення. Можаце не сумнявацца ў правільнасці падпісанага нядаўна кантракта — ён стане вельмі выгадным і прыбыльным. Карыснымі будуць і новыя знаёмствы.

Занятаму ў бізнесе АВЕНУ ўдасца правесці выгадную здзелку на біржы з каштоўнымі паперамі. Чакаюцца вялікія грашовыя паступленні. Правільныя дзеянні, што датычацца грашовых пытанняў, прывядуць да поспеху. Карысней можа стаць парада аднаго з вашых блізкіх сяброў. Таксама можаце завязаць некалькі новых карысных знаёмстваў. У канцы тыдня пажадана выехаць на прыроду адпачыць.

ЦЯЛЕЦ спрабуе ўзяцца адразу за некалькі спраў, але не зможа ўсе іх выканаць да прызначаных тэрмінаў. Жанчына траціць грошы на рэчы, якія ніколі не спатрэбяцца. У гэтыя дні лепш даручыць вядзенне ўсіх сваіх фінансавых пытанняў свайму памочніку, бо можна праявіць паспешлівасць і нарабіць памылак. Ваеннаслужачаму свеціць перавод на ўсход краіны для далейшай службы.

БЛІЗНЯТЫ могуць трапіць пад агонь з боку вышэйстаячых інстанцый, бо вашы падначаленыя не змаглі выканаць даручанае ім заданне. Для тых, хто ўдзяліў падрыхтоўцы да экзаменаў у школе недастаткова часу, некаторыя з іх могуць аказацца вельмі складанымі. Атрыманую нядаўна наяўнасць трэба змясціць у банк.

Дагаворныя абавязацельствы ў РАКА абернуцца вялікімі стратамі. У дадзенай сітуацыі трэба шукаць больш надзейных партнёраў. Раім устрымлівацца ад удзелу ў здзелках, у якіх вы мала разбіраецеся. Апасенні дзелавых партнёраў адносна банкаўскіх рахункаў будуць правільнымі. Пазбягайце зносінаў з малазнаёмымі людзьмі.

ЛЕЎ зможа аказаць паслугу аднаму чалавеку, які будзе саюзнікам у адной вельмі важнай для вас здзелцы. Жанчыне не трэба адхіляць дзелавыя прапановы аб новым месцы службы. Зможаце дабіцца задуманага, калі будзеце больш дакладна кіравацца парадамі партнёраў па бізнесу. Занятым у гандлі трэба ўстрымлівацца ад новых дзелавых знаёмстваў. Захапленне дамай можа аказаць моцнае ўздзеянне на далейшы ход падзей.

ДЗЕВА ў гэтыя дні зведае знешнія ўплывы, што можа адбіцца на яе службовым становішчы. Трэба адмовіцца ад усіх непатрэбных і небяспечных знаёмстваў. Не выключана сутычка з калегамі па службе, што можа паўплываць на ваша здароўе. Можаце прыступаць да рэалізацыі новых планаў. Пазбягайце зносінаў з малазнаёмымі людзьмі ў магазінах.

ШАЛІ зноў змогуць выявіць свае лепшыя дзелавыя якасці, у той жа час астролагі раяць быць асцярожнымі на прыёмах і ўстрымлівацца ад зносінаў з людзьмі, якія спрабуюць даведацца пра вашы пазіцыі ў многіх пытаннях. Зможаце знайсці новыя крыніцы папаўнення сямейнага бюджэту. У справах сямейных наладжваецца поўнае ўзаемаразуменне. У некаторых ёсць магчымасць выпрабаваць сілы ў новым бізнесе.

СКАРПІЁНУ ў гэтыя дні неабходна прыкласці шмат намаганняў для дасягнення пастаўленай мэты. Магчымы канфлікты з дзецьмі, але пакуль цяжка сказаць, ці правільныя вашы метады выхавання падрастаючага пакалення. У канцы тыдня можна правесці важную здзелку, аднак дывідэнды будуць атрыманы толькі праз некалькі тыдняў. Асцерагайцеся прастудных захворванняў.

СТРАЛЬЦЫ будуць захоплены клопатамі на службе, у чым вялікую дапамогу акажуць даўнія знаёмыя. У студэнтаў наперадзе цяжкія экзамены, аднак тут дапаможа дастаткова высокі ўзровень падрыхтоўкі. Не адкідвайце магчымасці ўзяцца за новую справу, што звязана з атрыманнем новых даходаў. Занятым у бізнесе трэба праявіць больш дзелавой актыўнасці.

**З Дэлі перадаў кар. ІТАР—ТАСС Юрый КАЗЬМІН.**

# ШАХМАТЫ

**ВЫНІКІ КОНКУРСУ СКЛАДАННЯ**

Падведзены вынікі мінулагодняга конкурсу складання шахматных кампазіцый па артадаксальных жанрах і задач на кааператыўны мат. Было даслана 57 твораў 19 аўтараў. Большасць з іх своеасаблівая апрацоўка вядомых тэм і механізмаў. У многіх кампазіцыях шмат тэхнічнага браку і парушэнняў мастацкіх прынцыпаў.

**Прыводзім лепшыя творы**

***Па раздзелу двухходовак першы прыз прысуджаны задачы М. Бельчыкава (Барысаў)*** *(гл. дыяграму).*



**Белыя**: Kpb1, Фа4, Лd1, Ka2, Kd3, п а6 (6).

**Чорныя**: Kpc4, Фb8, Лd5, пп: b4, d4 (5).

1... Фf4, Фb5 2. Ф:b4, Фc2x.

1. Kd:b4? 1...Фf4, Kpc5 2. Kd3, Фc6x, але 1... d3!.

Рашае 1. Ka:b4! - 2. Лc1x 1...Фf4, Kpc3 2. Ka2, Фc2x.

У задачы-мерэдыт першыя хады ў спробе і рашэнні ажыццяўляюцца на адным полі. Выканана трохфазная гульня ў форме выбара. Выдатны твор.

***Ганаровы водгук В. Іванову (Мінск).***

**Белыя**: Kpa1, Фа4, Лd7, Лf2, Cb2, Kc2, Kf1; пп: c3, e2, f5 (10). **Чорныя**: Kpd1, Фd8, Лc7, Лd6; пп: a2, g5 (6).

e4? Л:c3! 1. e3? Лc4! Рашае 1. Фg4!

Уступныя хады падманлівых слядоў у рашэнні праходзяць пагрозамі і матамі.

***Па раздзелу трохходовак I ганаровы водгук задачы В. Ваўнейка (Мінск).***

**Белыя**: Kpa7, Фc2, Ce7, Kc7, пп: b3, d6 (6). **Чорныя**: Kpd7, Фh3, Cf3, Kh7, пп: e5, f7 (6).

1. Kd5! - 2. Фc8+, 1...C:d5 Kpe8, Kpe6 2. Фc7+, Фc6+, Фc8

***II ганаровага водгуку ўдастоена задача А. Глушынскага (Брэст).***

**Белыя**: Kpb7, Cd2, Ce6, Kc5 Kg6; п f6 (6). **Чорныя**: Kpd4, Ke5 пп: b4, b5, d3 (5).

1. Ke7! - 2. K:b3+. 1... Kp:c5 K ~ 2. Ce3+, Kc6+.

У абодвух творах праходзяць правільныя маты.

***III ганаровы водгук твору А. Сядлецкага (Мінск).***

**Белыя**: Kpf8, Фc6, Ce3, Ke7, пп: b3, h3 (6). **Чорныя**: Kpe6, Лb6, Ca6, Ce1; пп: b4, b6, d6, f6 (8).

1. Фe8! - 2. Kg8+, 1...Cc3(h4) 2. Kg6+, 1...Лh5 2. Kc6+, 1...d5 2. Kc8+.

Цікавая гульня белай батарэі.

***Па раздзелу шматходовак першы прыз дастаўся А. Глушынскаму (Брэст)*** *(гл. дыяграму).*



**Белыя**: Kpe1, Фg7, Ca4, Ke2 (4).

**Чорныя**: Kpe6, пп: a3, d4, e3, g5, g6, h5 (7).

Мат за 4 хады.

1. Ce8! - 2. K:d4+Kpd6 3. Kb5+Kpe6 4. Cd7x

1... Kpf5 2. Cd7+ Kpe4 3. Ф:d4+ Kpf3 4. Ф:d5x.

1... Kpd6 2. Фd7+ Kpc5 3. Фc6+ Kpb4 4. Фb5x.

***Ганаровы водгук задачы А. Варыцкага (Брэст).***

**Белыя**: Kpf5, Cb8, Kc6, Ke5, пп: b4, e2 (6). **Чорныя**: Kpd5, п e4 (2). Мат за 7 хадоў.

1. Cc7! e3 2. Cd8 Kpd6 3. Ka7 Kpd5. 4. Ch7 Kpd4, Kpd6 5. Kb5+ Kpd5 6. Cf2. ef 7. e4x.

***Па раздзелу эцюдаў першы прыз прысуджаны Р. Слепяну (Мінск)*** *(гл. дыяграму).*



**Белыя**: Kpe3, Kc2, Kc8, п e6 (4).

**Чорныя**: Kpf5, Лg1, п d7 (3). Выйгрыш.

1. Kpf2! Лg7! 2. e7 Л:e7 3. K:e7 Kpe4 4. Kb4! d5 5. Kc8 d4 6. Kd6+ Kpe5 7. Kc4+ Kpe4. 8. Kd2+ Kp - 9. Kd3 і выйгрыш.

Падманлівы след. 1. e7? Лg8! 2. Kd6+ Kpe5! 3. e8Ф+ Л:e8 4. K:e8 d5 5. Kd4 - пат.

Другі пат атрымліваўся б, калі б белыя ў галоўным варыянце згулялі 4. Kpe2? d5 5. Ke1 d4 6. Kd3.

Эцюд цікавы дакладнай гульнёй як белых так і чорных.

***Другі прыз — І. Бондараў (Ганцавічы).***

**Белыя**: Kpc5, Лa6, Kd8, п b6 (4). **Чорныя**: Kpb8, Лf3, Kc7 (3). Выйгрыш.

Рашэнне. 1. Kc6+ Kpc8 2. b7! Kp:b7 3. Лb6+ Kpc8 4. Лb8+ Kpd7 5. Лd8+ Kpe6 6. Лd6+ Kpf5 (5. Ke5+? Kpe6 6. K:f3 Ka6+=) 7. Kd4+ Kpe4 8. K:f3 Kp:f3 9. Лf6+! Kpg4 10. Лc6 Ke8 11. Лe6 Kg7 12. Лg6+ і 13. Л:g7.

На першы погляд пазіцыя нічыйная, але белыя знаходзяць у другой фазе гульні арыгінальны механізм «лоўлі» каня ладдзей.

***Ганаровы водгук У. Клюкіну (Мінск).***

**Белыя**: Kph1, Фd1, Лd4, Ke8, пп: a7, c2, h2 (7). **Чорныя**: Kph8. Фh7, Лa8, Ch3, п h6 (5). Выйгрыш.

1. Фf3! - 2. Фf8+ Фg8 3. Ф:h6+ Фh6 4. Фf8+ Фg8 5. Лh4x.

1...Ф:a7 2. Лd7! Фb7! 3. Лh7+ Ф:h7 4. Фc3+ Kpg8 5. Kf6+ Kp - 6. K:h7 і выйгрыш.

***Па раздзелу задач на кааператыўны мат ганаровы водгук дастаўся задачы В. Іванова (Мінск).***

**Белыя**: Kpa1, Фb8, Cd1 (3). **Чорныя**: Kpe5, Cf6, Kg8, Kh2; пп: c2, d4, d6, f4 (8).

Мат за 2 хады 4 рашэнні.

I. 1. Kpd5 Ce2 2. Kpc5 Фb5x,
II. 1. Kpe4 Фb5 2. Kpe3 Фe2x,
III. 1. Kpf5 Фe8 2. Kpg5 Фh5x
IV. 1. Kpe6 Ch5 2. Kpe7 Фe8x.

**У. СЫЧОЎ,**
**суддзя нацыянальнай катэгорыі.**

# АРКАДЗЬ САЛТЫКОЎ

***(г. Брэст)***

Геаграфія тэматычнага зместу малюнкаў Аркадзя Салтыкова ўражальна шырокая, і гэта, як я зразумеў, апошнім часам мае свае зямныя прычыны: уся справа ў тым, што геаграфія месцаў жыхарства, а, адпаведна, і месцаў мастацкай дзейнасці Аркадзя распасціраецца ад спякотнай Туркменіі да, безумоўна, больш мяккага ў адносінах да клімату Брэста. У Туркменіі Аркадзь, праходзячы тэрміновую службу, засланяў грудзьмі свяшчэнныя рубяжы Савецкага Саюза (трэба зазначыць, што не толькі грудзьмі, але і плакатам ці насценнай газетай, таму што меў здольнасці да мастацка-афарміцельскай дзейнасці).

Зараз жа Аркадзь Салтыкоў з'яўляецца вядомым майстрам гумарыстычнага малюнка. Працуе ён у газеце «Вячэрні Брэст», друкуецца таксама ў «Комсомольской правде» і іншых слынных Mass media. Мастак — пастаянны ўдзельнік шматлікіх міжнародных конкурсаў. Калі коратка — ён проста прафесіянал у поўным сэнсе гэтага слова: у адносінах да працы, у шырокім спектры раскрываемых сюжэтаў, у майстэрстве выканання работ і г. д.

Для Аркадзя гэта зусім не дэбют на старонках «Звязда». На працягу некалькіх гадоў яго малюнкі адносна рэгулярна з'яўляюцца на палосах выдання.

У рэшце рэшт, маё асабістае жаданне — як мага часцей сустракацца з цікавым і разнастайным светам творчасці Аркадзя Салтыкова.

**Леанід РАЗЛАДАЎ.**




















## СУБОТНІМ ВЕЧАРАМ

### КРЫЖАВАНКА

**Па гарызанталях:** 4. Асоба, якая часова карыстаецца якой-небудзь маёмасцю за пэўную плату. 7. Прамежак часу, у які адбываецца дзеянне, работа або частка яе. 8. Буйная прамысловая драпежная рыба, якая пераважна водзіцца ў цёплых водах. 10. Група музыкантаў з рознымі інструментамі. 12. Коцік, суквецце на вярбе, бярозе. 13. Самы цвёрды мінерал. 14. Грашовае спагнанне звыш зацверджанага расходу. 15. Невялікі грамадскі сад (звычайна ў горадзе). 16. Паўднёвая вечназялёная расліна з духмянымі кветкамі. 17. Від сцэнічнага мастацтва. 20. Чарада пералётных птушак. 22. Афіцыйна ўстаноўленая велічыня вартасці, аплаты. 23. Горад у Магілёўскай вобласці. 24. Гераіня оперы Ю. Семянякі «Калючая ружа». 25. Сталіца XV зімовых Алімпійскіх гульняў. 26. Садовая кветка. 27. Каралі з каштоўнымі ўпрыгожваннямі, падвескамі. 28. Кампазітар, аўтар оперы «Тарас Шаўчэнка».

**Па вертыкалях:** 1. Сталіца еўрапейскай дзяржавы. 2. Месяц года. 3. Пісьмовы дагавор, пагадненне. 5. Раённы цэнтр у Віцебскай вобласці. 6. Назва кінастудыі ў РБ. 9. Спартыўная камандная гульня з мячом. 11. Вышэйшы заканадаўчы сход з выбарных прадстаўнікоў. 18. Драма М. Лермантава. 19. Вулічнае ўмацаванне з падручных матэрыялаў, прадметаў. 21. Порт у Японіі на востраве Кюсю.

**Склаў Мікола ВОРЧЫК.**

*Лагойскі раён.*



### АДКАЗЫ І РАШЭННІ

**Крыжаванка (11 мая). Па гарызанталях:** 7. Гелікон. 8. Формула. 9. Нумар. 11. Экзарх. 12. Персей. 13. Канон. 15. Такса. 17. Фетыш. 18. Марка. 19. Аркан. 21. Зефір. 23. Абрыс. 24. Легат. 28. Трафей. 29. Венера. 30. Фінал. 32. Элемент. 33. Герніка. **Па вертыкалях:** 1. Канон. 2. Зефір. 3. Гелікон. 4. Экзарх. 5. Трафей. 6. Элемент. 10. Марка. 14. Нумар. 15. Такса. 16. Абрыс. 17. Фінал. 20. «Аркан». 22. Формула. 25. «Герніка». 26. Персей. 27. Венера. 30. Фетыш. 31. Легат.

Уважлівыя чытачы заўважылі цікавую своеасаблівасць гэтай крыжаванкі, якую склаў Уладзімір Шылкін з г. Барань: у ёй выкарыстаны пары амонімаў — слоў, аднолькавых па напісанню, але розных па значэнню.

**Крыптаграма-загадка (11 мая).** Ключавыя словы ў ёй: люстэрка, шаля, збан, цалок, байка. Вядомая народная загадка такая: «За сцяною касцяною талалай брэша». Разгадка яе: «Язык».

*Віншую з днём нараджэння Міхаіла і Пятра Харэцкіх, Баляславу Пачкоўскую і Таццяну Дудараву.*

*Шчасця і моцнага здароўя вам, мае дарагія.*

**Людміла ДУДАРАВА.**

*Віншуем Палховіча Андрэя Аляксандравіча і Марыю Трафімаўну з пяцідзесяцігоддзем сумеснага жыцця. Жадаем добрага здароўя на доўгія годы.*

**Дзеці, унукі і праўнукі.**

*Сардэчна віншую дарагіх сясцёр Акцябрыну і Тамару з днём нараджэння.*

*Моцнага здароўя, спакою, цяпла, шчасця і дабрабыту!*

**Валянцін КАВАЛЬКОЎ.**

*Віншуем з 30-годдзем Бабіча Юрыя Міхайлавіча. Жадаем здароўя, поспехаў у працы.*

**Жонка, родныя**

*КУТОК КАЛЕКЦЫЯНЕРА*

## ПОШТА — ЧАРНОБЫЛЮ

**Напярэдадні 10-годдзя чарнобыльскіх падзей беларуская пошта выдала арыгінальную серыю марак з купонам, аб'яднаных у так званы квартблок — тры паштовыя мініяцюры і купон складаюць адно тэматычнае цэлае — адзін расказ пра трагічныя падзеі дзесяцігадовай даўнасці і цяжкія наступствы гэтых падзей для людзей і навакольнага асяроддзя.**



На купоне паказаны блок атамнай электрастанцыі ў Чарнобылі, які ўзарваўся. Серыя адкрываецца паштовай мініяцюрай з выявай чалавечага вока, у зрэнцы якога адбіты знак радыяцыйнай небяспекі — небяспекі наступстваў чарнобыльскага выбуху для людзей. На наступнай марцы паказана згубнае ўздзеянне радыяцыі на прыроду. На мініяцюры — пашкоджаны радыяцыяй зялёны ліст. Часткова ён пажаўцеў, пакрыўся чорнымі плямамі. На зялёным лісце выразна бачны чорны знак радыяцыйнай небяспекі. Трэцяя марка серыі расказвае пра трагедыю людзей, якія былі ў зоне і пацярпелі ад радыяцыі. На мініяцюры паказана трагедыя перасяленцаў, якія пакінулі свае родныя мясціны, — акно сялянскай хаты, забітае дошкамі. У выбітых шыбах адлюстроўваецца не яркае сонца, а ўсё той жа знак чарнобыльскай бяды — знак радыяцыі, што выпраменьвае свае смяротныя флюіды. Людзі не жывуць за гэтымі вокнамі. На марках выразна, даходліва і арыгінальна расказана пра падзеі 26 красавіка 1986 года і наступствы гэтых трагічных падзей. На ўсіх марках і купоне дадзены надпіс: «10 гадоў чарнобыльскай трагедыі». У дзень выхаду маркі ў паштовае абарачэнне — 10 красавіка — на Мінскім паштамце праводзілася спецыяльнае гашэнне. Быў выпушчаны спецыяльны канверт з выявай блока Чарнобыльскай АЭС, які ўзарваўся і гарыць. На канверце надпіс: «10 гадоў чарнобыльскай катастрофы». Аўтар выпуску мастак В. Сітчанка.

Выпуск марак аб чарнобыльскай трагедыі выклікаў цікавасць у беларускіх філатэлістаў. У дзень спецыяльнага гашэння на Мінскім паштамце сустрэліся філатэлісты з Маладзечна, Гродна, Брэста, Гомеля, Салігорска, Баранавіч.

Споўнілася 25 гадоў дзіцячаму музычнаму ансамблю «Дударыкі». Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі адзначыла гэты юбілей выпускам канверта з выявай юных музыкантаў. Канверт гэты арыгінальны яшчэ і тым, што на месцы звыклай для нас паштовай маркі змешчана мініяцюра з літарай «А» ў абрамленні кветак. У час, калі часта мяняюцца паштовыя тарыфы, паштовыя ведамствы многіх краін свету прымяняюць практыку выпуску паштовых марак без пазначэння цаны з літарамі «А» і «В» (Б). Першы такі канверт з маркай літары «А» беларуская пошта выпусціла да свята 8 Сакавіка гэтага года.

Галерэя паштовых выпускаў аб беларускіх пісьменніках папоўнілася новым цікавым выданнем, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння пісьменніка, паэта-сатырыка К. Крапівы. Юбілейны выпуск уключае ў сябе паштовую мініяцюру і канверт з партрэтам пісьменніка і спецыяльны штэмпель першага дня з юбілейным тэкстам: «100 год з дня нараджэння Кандрата Крапівы».

Споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння Н. Я. Нікіфароўскага (1845—1910), вядомага беларускага этнографа і фалькларыста, ураджэнца вёскі Вышна, што на Віцебшчыне. Адзначаючы юбілей, пошта рэспублікі выпусціла канверт з партрэтам вучонага.

**Рубрыку вядзе Леў КОЛАСАЎ.**



ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда». ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намесніkaў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 2390.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12